




МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МАГІЛЕЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя А.А.КУЛЯШОВА

# КАРОТКІ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

па выяўленчым мастацтве



Магілёў 1998г.

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МАГІЛЁЎСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ імя А.А.КУЛЯШОВА

# КАРОТКІ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

па выяўленчым мастацтве



МАГІЛЁЎ 1998

УДК 74: 801.323.2

Друкуецца па рашэнню рэдакцыйна-выдавецкага савета Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Куляшова

Укладальнікі: Казлоў В.І. - дацэнт,
Лаўшук А. С. - дацэнт

Рэцэнзенты: Фядзькоў Р. С. - дацэнт,
Карнеенка Г.Д. - заг. кабінета выяўленчага мастацтва Магілёўскага ІУН

Навуковы рэдактар: Машчанка М.В. - прафесар

У вучэбны дапаможнік "Кароткі руска-беларускі слоўнік па выяўленчым мастацтве" уключаны паняцці, якія ахопліваюць кола пытанняў аб матэрыялах, тэхніках і тэхналогіях выяўленчага мастацтва, аб яго відах і жанрах, аб асобных элементах выяўленчай мовы, аб асноўных стылях і накірунках у гісторыі мастацтва. У слоўніку прадстаўлены тыя паняцці і тэрміны, з якімі настаўнік сутыкаецца ў працэсе рэалізацыі праграмы па выяўленчым мастацтве. Больш пашыранае тлумачэнне дадзена тэрмінам, якія маюць важнае значэнне для эстэтычнага выхавання. Гэты слоўнік будзе карысным дапаможнікам для настаўнікаў і вучняў школ з беларускай мовай навучання.



## ПРАДМОВА

Гэты слоўнік прызначаецца для студэнтаў ВНУ, дзе вывучаюць выяўленчае мастацтва, настаўнікаў названага профілю, вучняў сярэдняй школы. У слоўнік уключаны больш за пяцьсот тэрміналагічных найменняў па выяўленчым, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве і архітэктуры, што найбольш часта сустракаюцца ў навучальнай, навуковай і навукова-папулярнай літаратуры. Пры складанні слоўніка аўтары выкарысталі наступныя працы:

1. Беда В.Г. Основы изобразительной грамоты. Рисунок, живопись, композиция. - М.: Просвещение, 1981.
2. Бродский Б. И. Жизнь в веках. Занимательное искусствознание. 2-е издание. - М.: Советский художник, 1990.
3. Маслов Н.А. Пленэр: Практика по изобразительному искусству. - М.: Просвещение, 1984.
4. Кирцер Ю.М. Рисунок и живопись: Практическое пособие. - М.: Высшая школа, 1992.
5. Розенвассер В.Б. Беседы об искусстве: Пособие для учителей начальных классов. - М.: Просвещение, 1979.
6. Энциклопедический словарь юного художника. - М., 1983.
7. Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5 т. - Мн.: Бел. СЭ, 1984-1987 і інш.

Слоўнікавыя артыкулы размешчаны ў алфавітным парадку. Слова, якое з`яўляецца назвай артыкула, у тэксце замяняецца першай літарай з кропкай (напрыклад, у артыкуле "Эскіз" замест поўнай назвы ў тэксце ўжываецца літара "Э"). Калі назва артыкула складаецца з некалькіх слоў, то ўсе яны абазначаюцца таксама толькі першымі літарамі (так, у артыкуле "Фантазія мастацкая" замест поўнай назвы даецца "Ф.м.").

Гэта праца не прэтэндуе на універсальнасць. Асноўная мэта даведніка - даць шырокаму чытачу тлумачэнне найбольш ужывальных паняццяў выяўленчага мастацтва, а таксама паняццяў тых навук, што непасрэдна звязаны з выяўленчым мастацтвам, - архітэктуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Будзем шчыра ўдзячныя зацікаўленым асобам за парады і прапановы, скіраваныя на паляпшэнне зместу слоўніка.

Наш адрас: 212022, г. Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1. Універсітэт. Навуковаму рэдактару.

# А

**АБАК / АБАК** - у арх.- плоская квадратная ў плане пліта, на якую апіраецца антаблемент; верхняя частка капітэлі.

**АБРИС / АБРЫС** - гл. Контур.

**АБСТРАКТНОЕ ИСКУССТВО / АБСТРАКТНАЕ МАСТАЦТВА** - абстракцыянізм - плынь у выяўленчым мастацтве, якая ўзнікла ў пачатку XX ст. у Германіі, Францыі, Расіі і іншых краінах Еўропы ў выніку глыбокага ўпадку буржуазнай культуры. Для А.м. характэрна проціпастаўленне зместу і формы ў мастацкім вобразе і, як вынік, поўны адыход ад прынцыпаў адлюстравання рэчаіснасці. Практыка А.м. зводзіцца да складання з дапамогай адцягненых элементаў мастацкай формы (каляровая пляма, лінія, аб`ём і г.д.) невыяўленчых кампазіцый, рацыяналістычна ўпарадкаваных або прызначаных выказаць стыхійнасць пачуцця і фантазіі аўтара. Разнавіднасці А.м. - супрэматызм, ташызм, арфізм, оп-арт і інш. аб`ядноўваюцца ў 2 асноўныя кірункі: "арганічны" і "геаметрычны". Найбольш тыповыя рысы першага - ірацыяналізм і абстрактная пачуццёвасць, другога - абстрактны, адцягнены рацыяналізм. Прадстаўнікі "арганічнага" напрамку аперыруюць хаатычнымі каляровымі плямамі, а "геаметрычнага" - абстрактна ўпарадкаванымі, амаль што геаметрычнымі формамі, пабудовамі, канструкцыямі.

**АВАНГАРДИЗМ / АВАНГАРДЫЗМ** - умоўная, абагульненая назва мастацкіх кірункаў XX ст., для якіх характэрны пошукі новых, небывалых, часта штучных форм і сродкаў мастацкага выяўлення, недаацэнка або поўнае адмаўленне традыцый і абсалютызацыя наватарства.

**АВТОПОРТРЕТ / АЎТАПАРТРЭТ** - партрэт мастака або скульптара, які выкананы ім самім.

**АДАПТАЦИЯ / АДАПТАЦЫЯ** - здольнасць вока прыстасоўвацца да пэўных умоў асвятлення. Адрозніваюць А. да святла, цемры, а таксама да колеру. Асаблівасць апошняй заключаецца ў прыстасаванасці вока не заўважаць на прадметах колер асвятлення ў першыя секунды і рабіць гэта толькі праз 5-7 хвілін. Пры працяглым разглядзе двух розных адценняў колеру апошнія пачынаюць здавацца аднолькавымі.

**АКАДЕМИЗМ / АКАДЭМІЗМ** - у выяўл. маст. - кірунак, які склаўся у мастацкіх акадэміях 16-19 ст. і заснаваны на дагматычным прытрымліванні знешніх форм класічнага мастацтва. Садзейнічаў сістэматызацыі мастацкай адукацыі, замацаванню класічных традыцый, якія ператваралісяў сістэму "вечных" канонаў. Лічачы, што сучаснае жыццё не вартае "высокага мастацтва", акадэмізм проціпастаўляў яму надчасовыя і наднацыянальныя нормы прыгажосці, ідэалізаваныя вобразы, далёкія ад рэальнасці сюжэты, што падкрэслівалася ўмоўнасцю мадэліроўкі, колеру і малюнка, тэатральнасцю кампазіцыі.





**АКАДЕМИИ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ / АКАДЭМІІ МАСТАЦКІЯ** - установы, якія з`яўляюцца навукова-творчымі цэнтрамі па пытаннях пластычных мастацтваў, а таксама вышэйшыя мастацкія школы. Першыя А.м., што узніклі ў Італіі ў 16 ст., былі свабоднымі аб`яднаннямі мастакоў, якія вывучалі мастацтва антычнасці, прыёмы вялікіх майстроў Адраджэння і вялікую ўвагу аддавалі малюнку як асноўнай форме мастацтва. Першая ўласна А.М. - створаная ў 1646 г. у Парыжы Каралеўская акадэмія жывапісу і скульптуры, дзе на аснове дактрыны класіцызму былі распрацаваны дакладныя правілы т. зв. "вялікага стылю" прыдворнага арыстакратычнага мастацтва. На ўзор парыжскай былі створаны А.м. ў Вене (1692), Берліне (1694), Лондане (1768) і інш. Першая расійская А.м. створана ў 1757 г. у Пецярбургу, там у розны час атрымалі адукацыю мастакі з Беларусі: Л.Альпяровіч, А.Гараўскі, Ф.Гарэцкі, Н.Сіліванові, І.Хруцкі і інш.

**АКАНТ / АКАНТ** у арх. - арнаментальна-дэкаратыўны элемент аздаблення фасадаў і інтэр`ераў будынкаў і збудаванняў у выглядзе ліста аканта (расліна, пашыраная ў Міжземнамор'і).

**АКВАРЕЛЬНЫЕ КРАСКИ / АКВАРЭЛЬНЫЯ ФАРБЫ** - фарбы, якія разбаўляюцца вадой. У іх склад уваходзяць расцертыя пігменты, змешаныя з камеддзю, дэкстрынам, гліцэрынам, зрэдку з мёдам ці цукровым сіропам. Выпускаюцца сухія, паўсырыя альбо паўвадкія. Гэтымі фарбамі можна маляваць па сухой і па сырой паперы. Даволі часта іх выкарыстоўваюць у спалучэнні з гуашшу, тэмперай і вугалем.

**АКВАТИНТА / АКВАТЫНТА** - тэхнічная разнавіднасць гравюры, у якой металічная дошка пратраўліваецца праз прыліплы да яе асфальтавы ці каніфольны пыл. У акватынце дасягаюцца маляўнічыя эфекты, блізкія да тонавага малюнка. Шырока выкарыстоўваецца ў спалучэнні з штрыхавым афортам, узбагачаючы яго танальнымі і фактурнымі адценнямі.

**АКРАТЕРИЙ / АКРАТЭРЫЙ** - скульптурны элемент архітэктурнага дэкору ў выглядзе стылізаваных лістоў аканта, пальмет, трыножнікаў, чалавечых фігур, валют, ваз, абеліскаў і інш. Выкарыстоўваўся для завяршэння вуглоў франтонаў, фланкіравання атыкаў, карнізаў, дахаў, ліштваў.

**АКСЕССУАР / АКСЕСУАР** - у выяўл. маст. - прадмет другараднага значэння, які дапаўняе характарыстыку цэнтральнага вобраза ці сюжэтнага дзеяння.

**АКЦЕНТ / АКЦЭНТ** - прыём падкрэслівання колерам, свят-

лом, лініяй альбо размяшчэннем у прасторы якога-небудзь прадмета, дэталі адлюстравання, на якія трэба звярнуць увагу гледача.

**АЛЛА ПРИМА / АЛА ПРЫМА** - мастацкі прыём у жывапісе, сутнасць якога заключаецца ў тым, што карціна пішацца без папярэдніх прапісак і падмалёвак.

**АЛЛЕГОРИЯ / АЛЕГОРЫЯ** - умоўнае адлюстраванне абстрактнай ідэі (дабрачыннасці, заганы) часцей за ўсё шляхам персаніфікацыі. Так, А. правасуддзя ў мастацтве - жанчына з завязанымі вачыма і вагамі ў руцэ, алегорыя смерці - шкілет з касой і пясочным гадзіннікам. Нярэдка алегорыя будуецца на супрацьпастаўленні: жыцця і смерці, дня і ночы, граха і дабрачыннасці. Ва ўсіх выпадках алегорыя расшыфроўваецца шляхам вытлумачэння ўтоеных або відавочных у ёй намёкаў.

**АЛЬБОМ ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ / АЛЬБОМ МАСТАЦКІ** - выданне, аснову якога складаюць рэпрадукцыі твораў мастацтва - жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выпускаецца ў выглядзе кніг звычайна павялічанага фармату.

**АМПИР / АМПІР** - стыль у арх. і мастацтве (пераважна дэкаратыўным) 1-й трэці 19 ст., які завяршаў развіццё класіцызму. Арыентаваўся на ўзоры антычнага мастацтва Грэцыі і Рыма, аднак характэрныя для класіцызму пошукі зграбнай простай формы і дэкору пастунова змяніліся імкненнем да іх гранічнай лапідарнасці і манументальнай выразнасці.

**АНАТОМИЯ ПЛАСТИЧЕСКАЯ / АНАТОМІЯ ПЛАСТЫЧНАЯ** - раздзел анатоміі, які вывучае прапорцыі цела чалавека, залежнасць знешніх формаў цела ад іх унутранай будовы і змен, якія ўзнікаюць у час руху. Асноўная ўвага звяртаецца на будову шкілета, мускулатуру цела, на асаблівасці злучэння касцей і мышцаў.

**АНГОБ / АНГОБ** - від керамічнага пакрыцця з тонка змолатай гліны (белай ці з каляровымі дабаўкамі), якім укрываюць цалкам або размалёўваюць керамічныя вырабы (посуд, пліткі, цэглу, кафлю, дробную пластыку). Наносіцца на высушаны ці абпалены выраб пульверызацыяй, паліўкай, пасля чаго выраб абпальваецца. А. можа быць пакрыты празрыстай глазурай, размалёўкай.

**АНИМАЛИСТ / АНІМАЛІСТ** - мастак або скульптар, які сваю творчасць прысвячае ў асноўным адлюстраванню жывёл.

**АНИМАЛИСТИЧЕСКИЙ ЖАНР / АНІМАЛІСТЫЧНЫ ЖАНР** - жанр выяўленчага мастацтва, які адлюстроўвае жывёльны свет. Мастак-анімаліст аддае асноўную ўвагу мастацка-вобразнай характарыстыцы жывёлы, яе звычкам, асяроддзю, у якім яна існуе. Часам (у ілюстрацыях да казак, баек) жывёла





надзяляецца паводзінамі і перажываннямі, уласцівымі людзям. Нярэдка задачай анімаліста становіцца навуковая дакладнасць у паказе жывёлы (ілюстрацыі да навуковых і навукова-папулярных твораў).

**АНСАМБЛЬ / АНСАМБЛЬ** у арх. - узгодненае гарманічнае адзінства будовы, манументальнай скульптуры, жывапісу, зялёных насаджэнняў. У паняцце А. уключаюцца таксама рэльеф мясцовасці, вадаёмы. Грандыёзныя А. імператарскага Рыма паслужылі прыкладам прасторавых кампазіцый эпохі барока і класіцызма. А. не заўсёды ствараюцца па адзінаму плану. Некаторыя знакамітыя А., напрыклад, Афінскі Акропаль або Маскоўскі Крэмль, складваліся гістарычна на працягу доўгага часу. Тэрмін "А." ужываецца таксама для абазначэння групы твораў, звязаных адзіным стылем, напрыклад, "дэкаратыўны А." і інш.

**АНТАБЛЕМЕНТ / АНТАБЛЕМЕНТ** - верхняя частка збудавання, якая падтрымліваецца калонамі, пілястрамі або завяршае сцяну, састаўны элемент класічнага архітэктурнага ордэра. Падзяляецца на архітраў, фрыз і карніз. Бывае няпоўны антаблемент без фрыза.

**АНТИЧНОЕ ИСКУССТВО / АНТЫЧНАЕ МАСТАЦТВА** - маст. высокаразвітых рабаўладальных грамадстваў Міжземнамор`я і Пярэдняй Азіі ў I тысячагоддзі да н.э. (Грэцыя і Рымская рэспубліка) і ў першай палове 1 тысячагоддзя н.э. (Рымская імперыя). Грунтавалася А.м. на грэчаскай міфалогіі. У вобразах багоў і міфалагічных герояў грэчаскія мастакі ўвасобілі ідэал чалавека-грамадзяніна - доблеснага, гарманічна развітага фізічна і духоўна. Пад знакам гэтага эстэтычнага ідэала развіваліся ўсе віды мастацтва. У скульптуры пераважаў тып статуі, увасабляючай вобраз дасканалага чалавека: пластычная вобразнасць чалавечага цела перадана антычнымі скульптарамі з высокім майстэрствам. Антычны жывапіс амаль не захаваўся, за выключэннем шматлікіх разнавіднасцяў вазапісу, некалькіх узораў мазаікі і фрэсак рымскага часу, але, мяркуючы па літ. крыніцах, яна была высокаразвітая, асабліва ў эпоху элінізма. А.м. імператарскага Рыма страчвае свабодалюбівую грамадзянскасць грэчаскага мастацтва, становіцца больш халодным, афіцыйным. Разам з тым узмацняецца інтарэс да індывідуальнай псіхалогіі, развіваецца скульптурны партрэт. Падзенне Заходняй Рымскай імперыі і крушэнне рабаўладальнага ладу азначаюць канец А.м., але яго традыцыі апладнілі сабой усю сусветную мастацкую культуру. Асабліва ярка яна праявілася ў мастацтве Адраджэння.

**АНФИЛАДА / АНФІЛАДА** ў арх. - шэраг паслядоўна прылеглых адно да аднаго памяшканняў, дзвярныя праёмы, якія размешчаны на адной восі, таму пры адчыненых дзвярах ствараецца скразная перспектыва ўсіх ін-

тэр`ераў, звязаных у адзіную архітэктурна-пластычную сістэму.

**АПОФЕОЗ / АПАФЕОЗ** - услаўленне, узвелічэнне якой-небудзь асобы, з'явы, падзеі; урачыстае завяршэнне падзеі. У першапачатковым значэнні: абрад абогатварэння эліністычнага цара або рымскага імператара ў момант яго смерці. У выяўл. маст. апафеозам называецца адлюстраванне ўзнясення на неба (напрыклад, апафеоз багародзіцы).

**АППЛИКАЦИЯ / АПЛІКАЦЫЯ** - спосаб стварэння арнаментаў, малюнкаў і тэатральных дэкарацый шляхам нашывання ці наклейвання на тканіну, паперу, дошку рознакаляровых кавалачкаў матэрыялу (тканіны, паперы, саломы, скуры) іншага колеру ці фактуры; твор, выкананы такім спосабам.

**АРКА / АРКА** ў арх. - крывалінейнае перакрыццё праёма ў сцяне ці прасторы паміж 2 апорамі - слупамі, калонамі, пілонамі і г.д.

**АРКА ТРИУМФАЛЬНАЯ / АРКА ТРЫУМФАЛЬНАЯ** - вароты трыумфальныя, часовыя або пастаянныя 1- і 3- пралётныя манум. арачныя вароты, пастаўленыя ў гонар падзеі ці асобы. Мелі насычаны арх.-пластычны дэкор, завяршаліся антаблементамі і атыкамі, аздабляліся статуямі, рэльефамі, памятнымі надпісамі і г.д.

**АРКАДА / АРКАДА** - шэраг аднолькавых па велічыні і абрысах арак, якія апіраюцца на слупы або калоны і ствараюць разам з імі рытмічны паслядоўны рад. Бываюць канструкцыйныя (успрымаюць нагрузку верхніх частак будынкаў і збудаванняў) і дэкаратыўныя (стаяць асобна або ўтвараюць "сляпыя" аркады).

**АРКАТУРА / АРКАТУРА** - рытмічны рад дэкаратыўных несапраўдных арак на фасадах будынкаў або на сценах унутры памяшканняў. Звычайна выконвае ролю фрыза, зрэдку дапоўненага кансолямі, паўкалонкамі, лапаткамі.

**АРХАИКА / АРХАІКА** - ранні перыяд развіцця архітэктуры і выяўленчага мастацтва Ст. Грэцыі (7-6 ст. да н.э.), калі выпрацоўваліся важнейшыя архітэктурна-мастацкія прыёмы, традыцыйныя для грэчаскай класікі.

**АРХИВОЛЬТ / АРХІВОЛЬТ** - арх.-дэкаратыўны элемент аздаблення арачнага праёма. Вылучае контур аркі з плоскасці сцяны. Выконваецца з клінавых камянёў, тынку, стука. Мае прафіляваную з выкарыстаннем розных па малюнку абломаў архітэктурных або арнаментаваную разьбой, рустам, лепкай паверхню. А., які выступае на плоскасці сцяны і не звязаны з праёмам, называецца "сляпой аркай".

**АРХИТРАВ / АРХІТРАЎ** - бэлька, якая апіраецца на капітэлі калон і пілястраў, слупы, іншыя апоры і нясе фрыз і карніз; ніжняя частка антаблемента.

**АРХИТЕКТОНИКА / АРХІТЭКТОНІКА** - мастацкае выяўленне заканамернасцей будовы, уласцівых канструкцыйнай сістэме будынка, круглай скульптуры, аб`ёмных твораў дэкаратыўнага мастацтва. У шырокім сэнсе слова А.- будова мастацкага твора, якая абумоўлівае суадносіны яго галоўных і другарадных элементаў. У арх. А. выяўляецца ў суразмернасці, супадпарадкаванасці, прапарцыянальнасці, маштабнасці, рытмічнасці ўсіх элементаў будынкаў і збудаванняў. Садзейнічае цэласнаму эстэт. успрыняццю арх. твора, у якім арганічна спалучаюцца яго лагічная функцыянальна-канструкцыйная аснова, кампазіцыя, арх. дэкор і інш.





**АРХИТЕКТУРА / АРХІТЭКТУРА** - дойлідства, будынкі і інш. збудаванні (таксама іх комплексы), якія ствараюць матэрыяльна арганізаванае асяроддзе, неабходнае людзям для іх жыцця і дзейнасці; мастацтва праектаваць і ствараць збудаванні і іх комплексы ў адпаведнасці з прызначэннем, сучаснымі тэхн. магчымасцямі, эстэт. поглядамі грамадства. У адрозненне ад выяўл. мастацтваў, галоўная мэта якіх - стварэнне з дапамогай рысунка, колеру, пластыкі, святлаценю і інш. сродкаў выявы прадметаў матэр. свету, А. сама з`яўляецца часткай матэр. свету і адлюстроўвае яго ў маст. вобразах, таму яна адначасова галіна матэрыяльнай культуры і маст. творчасці. Паводле функцыянальнага прызначэння А. дзеліцца на жылую, прамысловую, А. грамадскіх будынкаў і збудаванняў і садова-паркавую.

**АСИММЕТРИЯ/ АСІМЕТРЫЯ** - адсутнасць або парушэнне сіметрыі.

**А СЕККО / А СЭКА** - тэхнічная разнавіднасць фрэскі, заснаваная на выкананні жывапісу па цвёрдым, ужо высахлым вапнавым тынку фарбамі, змешанымі з вапнай. Папярэдне паверхня тынку ўвільгатняецца.

**АТРИБУЦИЯ / АТРЫБУЦЫЯ** - вызначэнне сапраўднасці маст. твора, устанаўленне яго аўтара (або маст. школы), а таксама месца і часу яго стварэння. Сучаснае мастацтвазнаўства пры А. апіраецца на аналіз кампазіцыі, індывідуальнай манеры майстра, тэхнікі выканання і г.д. А прыбягае таксама да дапамогі дасягненняў сучаснай фізікі, такіх як рэнтгенаграфія, інфрачырвонае і ультрафіялетавае абпраменьванне, макра-і мікрафотаздымка, хім. аналіз пігментаў і інш.

**АТТИК / АТЫК** - сценка над карнізам, якая завяршае будынак, у выглядзе балюстрады або раскрапаванай лапаткамі і пілястрамі глухой муроўкі з шчытамі, зубчыкамі і інш. Мае дэкаратыўнае значэнне як элемент кампазіцыі будынка.

**А ФРЕСКА / А ФРЭСКА** - аль фрэска, асноўная тэхнічная разнавіднасць фрэскавага жывапісу, адметная выкананнем па свежым вапнавым тынку. Фарбы замацоўваюцца слоем вуглекальцыевых злучэнняў у працэсе высыхання тынку.

**АХРОМАТИЧЕСКИЕ ЦВЕТА / АХРАМАТЫЧНЫЯ КОЛЕ-**

**РЫ** - да А.к. адносяцца белы, шэры і чорны: адрозніваюцца толькі па светлаце і пазбаўлены колеравага тону.

## Б

**БАЗИЛИКА / БАЗІЛІКА** - тып антычнага, потым сярэдневякова-га прамавугольнага ў плане будынка, падзеленага ўздоўж радамі калон на некалькі частак (т.зв. караблёў ці нефаў). Сярэдні неф завершаны апсідай; ён вышэйшы і шырэйшы за бакавыя. Асвятленне натуральнае. Уваход звычайна праз нартэкс.

**БАЛЮСТРАДА / БАЛЮСТРАДА** - невысокая агароджа лесвіц, тэрас, балконаў, галерэй, парапетаў і інш., якая складаецца з шэрагу фігурных слупкоў (балясаў), злучаных зверху гарызантальнай бэлькай або поручнямі. Бывае скразная і "сляпая" (злучана з сценкай).

**БАРАБАН / БАРАБАН** - у арх. - цыліндрычная або шматгранная верхняя частка будынка, якая апіраецца на сцены, слупы, падпружныя аркі і ветразі і завяршаецца купалам або шатром. Б. бываюць светлавыя (з аконнымі праёмамі) і глухія (без праёмаў). Асабліва пашыраны ў хрысціянскім культавым дойлідстве.

**БАРБИЗОНЦЫ / БАРБІЗОНЦЫ** - (мастакі так званай "барбізонскай школы") прадстаўнікі рэалістычнай маст. плыні ў франц. пейзажным жывапісе 30-60-х гадоў 19 ст. (Т.Русо, Ж.Дзюпрэ, Н.В.Дзіаз, К.Трайон, Ш.Ф.Дабіньі і інш.), якія працавалі ў вёсцы Барбізон і яе наваколлі, паблізу Фантэбла.

**БАРЕЛЬЕФ / БАРЭЛЬЕФ** - від скульпт., рэльефу, у якім выявы выступаюць над плоскасцю фону не больш чым на палавіну свайго аб'ёму.

**БАРОККО / БАРОКА** - маст. стыль 16-18 ст. ст., які атрымаў найбольшае распаўсюджанне ў архітэктуры, выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Эстэтыка барока заснавана на проціпастаўленні ідэальнага і пачуццёвага ў чалавеку, яго волі і розуму з ірацыянальнасцю быцця. Таму мастацтва Б. вызначаецца эмацыянальным і інтэлектуальным напружаннем, складанасцю выяўленчых сродкаў, імкненнем да сінтэтычнасці жанраў. Яму ўласцівы драматызм, патэтыка, павышаная экзальтацыя. Маст. прынцыпы Б. - дынамічнасць кампазіцыі, кантрасты маштабаў, рытмаў, матэрыялаў і фактур, святлоценявыя і колеравыя эфекты, крывалінейнасць абрысаў, імкненне стварыць ілюзію бязмежнай прасторы.

**БАТАЛЬНЫЙ ЖАНР / БАТАЛЬНЫ ЖАНР** - жанр выяўл. маст., прысвечаны тэмам вайны і ваеннага жыцця. Галоўнае месца ў ім займаюць сцэны бітваў і ваенных паходаў, сучаснасці і мінулага. Батальнаму жанру ўласціва імкненне адлюстраваць асабліва важныя моманты бітвы, перадаць яе пафас, героіку вайны.





**БАТИК / БАТЫК** - тэхніка размалёўкі тканіны, а таксама шматколерная тканіна, аздобленая гэтай тэхнікай. Фон тканіны пакрываюць непранікальным для фарбы саставам (пры "гарачым" Б. разагрэтым воскам, пры "халодным" - гумавым клеем) і раствор афарбоўвае толькі лініі ці плоскасці рысунка (арнаментальнага ці фігурнага). Іншыя колеры наносяцца наступнай афарбоўкай пасля зняцця частак васковага рысунка.

**БАШНЯ / ВЕЖА** - збудаванне са значнай перавагай вышыні над стараной ці дыяметрам асновы. Бываюць квадратныя, прамавугольныя, шматгранныя, круглыя і інш., пастаяннага або пераменнага сячэння, ярусныя. Завяршаюцца 2-схільнымі, вальмавымі дахамі, шатрамі, купаламі, спічакамі і інш. Будуюцца з дрэва, цэглы, каменю, металу, жалезабетону.

**БЕЛОРУССКАЯ ИКОНОПИСНАЯ ШКОЛА / БЕЛАРУСКАЯ ІКАНАПІСНАЯ ШКОЛА** - самабытная нац. жывапісная школа пач. 16 - пач. 19 ст. Склалася на аснове традыцый візантыйскага і стараж.-рускага мастацтва пад уплывам ідэй Адраджэння. Адметная асаблівасць бел. абразоў - узорыстасць, багатая і разнастайная арнаментоўка, разны раслінны арнамент фону, мажорнасць агульнага эмацыянальнага ладу. У 19 ст. беларускі іканапіс паступова страціў сваю самабытнасць і перастаў існаваць як мастацкая школа.

**БИФОРИУМ / БІФОРЫУМ** - двухчастковае аркаднае акно або арачны праём. Характэрны для архітэктуры раманскага і гатычнага стыляў.

**БЛЕНДА / БЛЕНДА** - у арх. ніша ў сцяне, якая імітуе аконны праём. Часам мае абрамленне ў выглядзе ліштваў, архівольтаў, завяршаецца франтонамі, сандрыкамі і інш. арх. элементамі аздобы.

**БЛИК / БЛІК** - элемент святлаценю; самая светлая, часам бліскучая кропка на паверхні адлюстраванага прадмета. Сіла Б. ў натуры вызначаецца якасцямі самога прадмета і характарам яго асвятлення, а ў маст. творы - агульнай танальнасцю жывапісу, святлоценявой пабудовай твора.

**БОРДЮР / БАРДЗЮР** - шлях, палоска, якая абрамляе што-небудзь (тэкст, малюнак і інш.); у садова-паркавым мастацтве - нешырокая паласа нізкіх кветкавых раслін або падстрыжаных кустоў, што акантоўвае газоны, клумбы, партэры, рабаткі і інш. уздоўж дарожак, пляцовак і выкарыстоўваецца для стварэння арнаментаў у партэры; скульптурныя аздабленні сцен і інш.

**БЫТОВОЙ ЖАНР / БЫТАВЫ ЖАНР** - жанр выяўленчага мастацтва, які адлюстроўвае падзеі штодзённага прыватнага і грамадскага жыцця. Цесна сутыкаецца з гістарычным жанрам, батальным жанрам і партрэтам. Вызначальную ролю ў Б.ж. адыгрывае жанравы жывапіс, жан-

равыя тэмы пашыраны таксама ў графіцы і скульптуры (пераважна ў скульптуры малых форм). Дыяпазон Б.ж. шырокі - ад амаль дакументальнай фіксацыі ўбачаных у жыцці ўзаемаадносін і паводзін людзей да глыбокага раскрыцця ўнутранага сэнсу і грамадска-гіст. зместу з'яў штодзённага жыцця.

## В

**ВАЗА / ВАЗА** - агульнаўжывальная назва посуду дэкаратыўнага ці утылітарнага прызначэння. Вядомы са стараж. часоў. Выкарыстоўваюцца для пластычнага і каляровага ўзбагачэння інтэр'ера, часам выступаюць як творы манументальна-дэкаратыўнага мастацтва (на фасадах будынкаў, агароджах). Вырабляюцца са шкла, фарфору, фаянсу, гліны, хрусталю, вырабных камянёў, металаў.

**ВАЛЁР / ВАЛЁР** - паняцце, звязанае ў жывапісе са святласілай колеру. Гэтым тэрмінам звычайна абазначаюць найтанчэйшыя пераходы святлаценю, якія вызначаюцца канкрэтнымі ўмовамі асвятлення і паветраным асяроддзем.

**ВАЛЮТА / ВАЛЮТА** - арх. матыў у форме спіралепадобнага завітка з кружком ("вочкам") у цэнтры: састаўная частка іанічнай капітэлі. Форму В. маюць у асобных выпадках арх. дэталі, якія служаць для сувязі частак парталаў, дзвярэй, акон.

**ВАРИАНТ / ВАРЫЯНТ** - аўтарскі паўтор твора або якіх-небудзь яго частак з некаторымі зменамі, у тым ліку зменамі, унесенымі ў кампазіцыю або колер карціны, у жэсты і позы людзей і г.д. У сюжэтнай кампазіцыі сустракаецца і поўнае змяненне выявы пры захаванні зместу. Пры ўсіх зменах варыянт павінен мець падабенства з арыгіналам.

**ВЕРНИСАЖ / ВЕРНІСАЖ** - урачыстае адкрыццё выстаўкі. Назва паходзіць ад звычаю пакрываць карціны лакам перад выстаўкай.

**ВИДЕНИЕ ЖИВОПИСНОЕ / БАЧАННЕ ЖЫВАПІСНАЕ** - бачанне і разуменне колеравых адносін натуры з улікам уплыву асяроддзя і агульнага стану асветленасці, якое характэрна для натуры ў момант яе адлюстравання.

**ВИДЕНЕ ХУДОЖЕСТВЕННОЕ / БАЧАННЕ МАСТАЦКАЕ** - уменне даць неабходную эстэтычную ацэнку якасцей, што закладзены ў натуры. Перад адлюстраваннем натуры мастак у асноўных рысах ужо бачыць яе вобразнае жывапіснае рашэнне з улікам пэўнага матэрыялу.

**ВИНЬЕТКА / ВІНЬЕТКА** - у кніжнай графіцы, невялікі малюнак арнаментальнага або выяўленчага прызначэння. Звычайна выкарыстоўваецца як застаўка ці канцоўка.

**ВИТРАЖ / ВІТРАЖ** - арнаментальная або сюжэтная дэкаратыўная кампазіцыя (у акне, дзвярах, у выглядзе самастойнага па-





но) са шкла ці інш. матэрыялаў, якія прапускаюць святло. Адыгрывае значную ролю ў афармленні інтэр`ера.

**ВОЗДУШНАЯ ПЕРСПЕКТИВА / ПАВЕТРАНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА** - змена колеру, абрысаў і ступені асветленасці прадметаў, якія ўзнікаюць па меры аддалення натуры ад вачэйназіральніка з прычыны павелічэння святлопаветранай праслойкі паміж назіральнікам і прадметам.

**ВОЗРОЖДЕНИЕ / АДРАДЖЭННЕ** - Рэнесанс, эпоха станаўлення раннебуржуазнай культуры ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе ў 14-16 ст. Галоўным яго момантам выступаў гуманізм, якому ўласціва прызнанне чалавека свабоднай і моцнай істотай. Характэрная асаблівасць эпохі А. - зварот да культуры антычнасці. Аднак імкненне "адрадзіць" антычнае мастацтва было не простай рэстаўрацыяй, а зыходным пунктам для новай культуры. У эпоху А. адбывалася інтэнсіўнае станаўленне нацыянальных культур, вялікіх поспехаў дасягнула выяўленчае мастацтва, архітэктура. Так у арх. Беларусі з А. звязаны першыя спробы комплекснай рэканструкцыі гарадоў на аснове рэгулярнага плана, які па форме набліжаўся да прамавугольніка, авала, паўавала. Цэнтрам кампазіцыі горада стала гандлёвая плошча з ратушай і крамамі. Замак, як абарончы комплекс, траціў сваю ролю і нярэдка будаваўся ў перыферыйнай частцы горада. З 16 ст. дайшлі творы жывапісу, у змесце і форме якіх адлюстраваны тыповыя рысы еўрапейскага А., асабліва ў партрэце. Ён адметны яркай характэрнасцю тыпажу, часам з элементамі псіхалагізму, і спалучэннем у выяве ўмоўнай і рэалістычнай трактоўкі форм адначасова. Кампазіцыйная пабудова партрэта адзначана ўраўнаважанасцю мас і колеравых плям позы - устойлівасцю, каларыт - мяккасцю і святланоснасцю (партрэт Софіі Алелька Радзівіл). У графіцы ўздзеянне А. яскрава адлюстравана ў дрэварытах выданняў Ф. Скарыны. Стыль А. мацней за ўсё адчувальны ў гравюрным партрэце Скарыны з "Бібліі рускай".

**ВОСПРИЯТИЕ ЗРИТЕЛЬНОЕ / УСПРЫМАННЕ ЗРОКАВАЕ** - працэс адлюстравання прадметаў і з`яў рэчаіснасці ў разнастайнасці іх уласцівасцей, якія непасрэдна ўплываюць на органы зроку. Зрокавае ўспрыманне суправаджаецца асацыятыўнымі пачуццямі, адчуваннем прыгажосці, якія звязаны з асабістым вопытам пачуццёвых перажыванняў ад уздзеяння наваколля.

**ВОСПРИЯТИЕ ХУДОЖЕСТВЕННОЕ / УСПРЫМАННЕ МАСТАЦКАЕ** - адлюстраванне ў індывідуальнай і грамадскай свядомасці твораў мастацтва. Спецыфіка У.м. абумоўлена тым, што ў аснове кожнага твора - мысленне ў вобразах (гл. Вобраз мастацкі), таму яно адрозніваецца ад інш. форм успрымання (навуковага, агульнафіласофскага і г.д.). У.м. вызначаецца перш

за ўсё якаснай характарыстыкай аб'екта адлюстравання, аднак працэс гэты дае не пасіўна-халодны, а актыўна-духоўны адбітак. Рэцыпіент (чытач, глядач, слухач) успрымае маст. твор тым жывей і дакладней, чым больш ён развіты як асоба, грамадзянін, чым больш ён выхаваны эстэтычна. На акт У.м. уплываюць густ мастацкі, асабістыя зацікаўленні, а таксама патрабаванні часу, каштоўнасныя арыентацыі, маральныя нормы калектыву. У цэлым У.м. вымагае вялікай увагі, актывізацыі ўсяго духоўнага патэнцыялу чалавека, інтэлектуальных і эмацыянальных намаганняў, як бы завочнай сатворчасці з аўтарам твора. Поўнага супадзення меркаванняў аўтара і таго, хто ўспрымае твор (чытача, гледача, слухача) быць не можа, што вынікае з самой прыроды мастацкага твора, яго незавершанасці, што прадугледжвае дадумванне яго суб`ектам. У канчатковым выніку эмацыянальныя і рацыянальныя бакі ўспрымання зліваюцца ў адно (гл. Эмацыянальнае ў маст.). Вырашальная роля ў фарміраванні У.м., адэкватнага аўтарскай задуме ці, наадварот, адрознага ад яе, належыць мастацкай крытыцы.

**ВЫСТАВКИ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ / ВЫСТАЎКІ МАСТАЦКІЯ** - публічны, пераважна часовы паказ твораў мастацтва, асн. форма азнаямлення з імі, часам наладжваюцца для продажу экспанатаў. В.м. бываюць міжнар., рэсп., міжрэсп., абласныя і гар., стацыянарныя і перасоўныя, перыядычныя і штогадовыя, групавыя ці персанальныя, тэматычныя, паводле відаў і жанраў мастацтва, па тыпу ўдзельнікаў.

**ВЫТИНАНКА / ВЫЦІНАНКА** - выстрыганка, выразанка, ажурны ўзор, выразаны з белай, чорнай ці каляровай паперы; від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На Беларусі найб. пашыраны аднакаляровыя В., часам рабіліся ў некалькі слаёў рознага колеру. Матывы ўзораў былі геаметрычныя, раслінныя, радзей заамарфныя і антрапаморфныя. У 19 - пач. 20 ст. ужываліся для аздобы інтэр'ераў жылля. Матывы традыцыйных В. выкарыстоўваюцца для афармлення дзіцячых кніг, упакоўкі для сувеніраў.

**ВЫШИВКА / ВЫШЫЎКА** - пашыраны від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у якім узор і выява выконваюцца ўручную (іголкай, часам кручком) або пры дапамозе спец. машыны на розных тканінах, скуры, лямцы і інш. матэрыялах ільнянымі, баваўнянымі, шарсцянымі, шаўковымі (часцей каляровымі) ніткамі, а таксама бісерам, жэмчугам, бліскаўкамі і інш. В. ужываецца для аздаблення адзення, абутку, тканых бытавых вырабаў, для стварэння самастойных дэкар. пано.

**ВЯЗЬ / ВЯЗЬ** - 1) старажытнае дэкаратыўнае пісьмо, пры якім літары звязаны ў непарыўны арнамент. На Беларусі ў 15-17 ст ёю ўпрыгожвалі тытульныя лісты і загалоўкі, пераважна ў рукапісных кнігах; 2) В. раслінная ў





мастацтве, раслінны арнамент у форме спіральна ці плаўна выгнутай галінкі з лісцямі, часам з кветкамі. Ужываецца ў мастацтве розных краін і эпох, часта ў геаметрызаваным выглядзе. У спалучэнні з інш. дэкар. матывамі выкарыстоўваецца ў фрызавых кампазіцыях у архітэктуры, а таксама ў скульптуры, графіцы, дэкар.-прыкладным мастацтве (разьба па дрэве, залачэнне, ткацтва, коўка, чаканка, гравіроўка па шкле і метале).

## Г

**ГАММА ЦВЕТОВАЯ / ГАМА КОЛЕРАВАЯ** - шэраг гарманічна ўзаемазвязаных адценняў колеру, якія складаюць асаблівасць каларыту, жывапіснага твора. Адрозніваюць цёплую, халодную, светлую, бляклую і інш. Можа складацца з некалькіх колераў спектра або ўключаць увесь яго колеравы рад. Ад праўдзівага ўзнаўлення мастаком колеравага багацця рэальнай прыроды і ад умення гарманічна спалучаць колеры ў значнай меры залежаць жывапісныя якасці маст. твора.

**ГАРМОНИЯ / ГАРМОНІЯ** - сувязь, стройнасць, адзінства, суразмернасць. У выяўл. маст. - спалучэнне форм, узаемасувязь частак або колераў. У жывапісе - адпаведнасць дэталей цэламу, колеравае адзінства. Гармонія станоўча ўплывае на зрокавае ўсрыманне.

**ГЕММА / ГЕМА** - каштоўны або паўкаштоўны камень з разной выявай. Г. з урэзанай у глыбіню выявай наз. інтальяй, з пукатай рэльефнай - камеяй. Вядомы з 4-га тыс. да н.э. у Месапатаміі, Пярэдняй Азіі, Ст. Егіпце. Выкарыстоўваліся як пячаткі (пераважна інталі), знакі ўласнасці, амулеты, упрыгожанні.

**ГЕРМА / ГЕРМА** - від скульптурнага партрэта ці партрэтнага помніка ў выглядзе 4-граннага слупа, завершанага галавой або бюстам.

**ГИПС / ГІПС** - выкарыстоўваецца ў скульптуры і архітэктуры, мяккі матэрыял, вырабляецца з прыроднага мінералу шляхам тэрмічнай апрацоўкі. Адзін з галоўных матэрыялаў станковай скульптуры. Ужываецца таксама для вырабу пустых форм пры адліўцы тоесных арыгіналу копій з бронзы, фарфору, тэракоты і інш. адліўкі пераходных мадэляў скульптур для пераводу ў больш трывалыя матэрыялы (дрэва, камень, метал), стварэння рабочых мадэляў, якія потым выкарыстоўваюцца для павелічэння памераў скульптуры, пры рэпрадуктаванні ўзораў сусветнай скульптуры для музеяў, інтэр`ераў, грамадскіх будынкаў.

**ГЛАЗУРЬ / ГЛАЗУРА** - паліва, шклопадобнае пакрыццё па кераміцы таўшчынёй 0,15-0,3 мм, замацаванае абпальваннем. Ужываецца для аховы керамічных вырабаў ад забруджвання, дзеяння кіслот і шчолачаў, для вода- і газанепранікальнасці, а таксама з дэкар. мэтамі.

**ГЛИПТИКА / ГЛІПТЫКА** - мастацтва разьбы па каштоўных і паўкаштоўных каляровых каменях; адзін з відаў дэкар.-прыкладнога мастацтва.

**ГОБЕЛЕН / ГАБЕЛЕН** - дыван-карціна, выкананы ўручную. Спачатку - выраб парыжскай мануфактуры і вядомай як мануфактура габеленаў. Пазней Г. сталі называць шпалеры іншых мануфактур, а таксама шчыльныя абівачныя тканіны. Асаблівасць Г. - рубчастая паверхня правага боку, якая ствараецца ніткамі асновы, і няроўная паверхня адваротнага боку, створаная швамі і ніткамі ўтку.

**ГОРЕЛЬЕФ / ГАРЭЛЬЕФ** - від скульптуры, рэльефу, у якіх выявы выступаюць над плоскасцю фону больш чым на палавіну свайго аб`ёму, часам толькі асобнымі дэталямі датыкаюцца да яго. Выкарыстоўваецца ў манум.-дэкар. мастацтве, надмагіллях, афармленні інтэр`ераў і экстэр'ераў грамадскіх, жылых і культавых будынкаў, мемар. дошках. Можа спалучацца з барэльефам.

**ГРАВИРОВАНИЕ / ГРАВІРАВАННЕ** - выразанне выявы, арнаменту, надпісу і інш. на паверхні цвёрдых матэрыялаў (метал, камень, дрэва, шкло і інш.) разцамі ці інш. спецыяльнымі інструментамі. Пры Г. па метале і шкле ўжываецца траўленне кіслотамі. Гравіраваны малюнак бывае пукаты або заглыблены. Можа спалучацца з чаканкай, ліццём, залачэннем, чарненнем, эмалямі.

**ГРАВЮРА / ГРАВЮРА** - від мастацтва графікі, дзе выява - друкаваны адбітак пукатага ці паглыбленага малюнка, зробленага на паверхні пласціны ("дошкі") з дрэва, металу або інш. матэрыялаў пэўнымі прыёмамі гравіравання. Існуюць Г. пукатая (найчасцей на дрэве - ксілаграфія ці на лінолеуме - лінагравюра), калі фарба кладзецца на паверхню пукатага малюнка, і паглыбленая (найчасцей на метале - афорт), калі фарба запаўняе паглыбленні выразаныя ў пласціне. Нярэдка да Г. адносяць і літаграфію ("плоская" Г.).

**ГРАНИТ / ГРАНІТ** - горная парода - адзін з цвёрдых матэрыялаў для манум. і станковай скульптуры, абеліскаў, калон, абліцоўкі. Мае выразную, прыгожую фактуру і колер, лёгка драбіцца, добра паліруецца. Разнавіднасці Г. (сіяніт, дыярыт, парфір, базальт, лабрадарыт і інш.) выкарыстоўваюць для стварэння буйных скульпт. форм з абагульненай пластыкай.

**ГРАФИКА / ГРАФІКА** - від выяўленчага мастацтва, які аб'ядноўвае малюнак і друкаваныя маст. творы (гравюру, літаграфію і інш.), што грунтуюцца на мастацтве малюнка, але маюць уласныя выяўленчыя сродкі. Творы Г. звычайна выконваюцца на паперы. Асн. выразныя сродкі Г. - контурная лінія, штрых, пляма, белы ці каляровы фон аркуша, на які наносіцца выява. Колер ужываецца ў Г. не заўсёды і не так шырока, як у жывапісе. На мяжы жывапісу і Г.





стаяць акварэль, гуаш, пастэль, тэмпера. Паводле тэхнікі Г. падзяляюць на малюнак і друкаваную Г. Малюнак - з`ява ўнікальная, а творы друк. Г. могуць быць размножаны ў шматлікіх раўнацэнных экземпляра. Паводле прызначэння Г. падзяляецца на станковую, кніжную, газетна-часопісную, прыкладную, плакат і карыкатуру. Адна з асноўных галін выкарыстання Г. - кніга. Асобным відам Г. з`яўляецца ілюстрацыя.

**ГРАФЬЯ / ГРАФ'Я** - малюнак, зроблены ўціснутай лініяй па сырым грунце (ляўкасе). Ужываўся ў іканапісе.

**ГРИЗАЙЛЬ / ГРЫЗАЙЛЬ** - тэхніка выканання і твор, выкананы пэндзалем адной фарбай (пераважна чорнай або карычневай); выява ствараецца на аснове танальных адносін (таноў рознай ступені светлаты).

**ГРИФОН / ГРЫФОН** - фантастычная жывёла, адлюстроўваецца ў выглядзе льва з галавой арла.

**ГРУНТ / ГРУНТ** - прамежкавы тонкі слой спецыяльнага саставу, які наносяць на аснову (сцяну, палатно, дошку і інш.), рыхтуючы яе для жывапісу ці афарбоўкі з мэтай забяспечыць трывалую сувязь з фарбай, а таксама стварыць патрэбныя фактуру, колеравы фон. Гал. кампанент Г. - парашкападобнае рэчыва (мел, вапна, гіпс, бялілы), звязанае клеем, алеем ці алейнымі эмульсіямі.

**ГУАШЬ / ГУАШ** - фарба, расцёртая на вадзе з клеем і дамешкай бялілаў, а таксама жывапіс гэтымі фарбамі. Ужываецца для жывапісу па паперы, кардоне, фанеры, палатне, шоўку. Узнікла як разнавіднасць акварэлі, адрозніваецца ад яе гушчынёй, непразрыстасцю, матавасцю тонаў, часта спалучаецца з ёю.

**ГУРТ / ГУРТ** - арка з ачасаных клінападобных каменёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, сеткавага, зорчатага і інш. формы скляпення; тое, што і нервюра.

**ГУТНОЕ СТЕКЛО / ГУТНАЕ ШКЛО** - шкляныя вырабы (посуд, вазы, дробная пластыка), якія выдзімаюцца, фармуюцца і дэкарыруюцца ўручную ў гарачым стане непасрэдна каля гутнай печы, дзе варыцца шкло.

# Д

**ДЕКОР / ДЭКОР** - сістэма ўпрыгожвання арх. збудавання (фасады, інтэр'ер і інш.), твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і інш.; адзін з сродкаў зрокавага аб`яднання ў ансамбль асобных будынкаў або прадметаў. Выступаючы ў адзінстве з аб`ёмна-прасторавай кампазіцыяй, Д. становіцца яе элементам, акцэнтуе выразнасць або зрокава пераўтварае, уносячы ўласцівыя самому Д. маштабныя адносіны, рытм, каларыт. Д. бывае просты (аднаколерная афарбоўка, аднародная фактура апрацоўкі паверхні і інш.) і складаны

(спалучае арнамент і выяву, скульптуру і размалёўку, розныя па фактуры і тэкстуры матэрыялы і г.д.).

У архітэктуры Д. адыгрывае вял. ролю ў архітэктоніцы будынкаў, падкрэслівае гал. элементы іх кампазіцыі, маштаб, узмацняе рытм, кантраст. Д. надае арх. збудаваннем маст. каштоўнасць, робіць іх выразнымі. Уключае арх. элементы і дэталі (абломы архітэктурныя, ордэры архітэктурныя, абрамленні дзвярных і аконных праёмаў і ніш, балконы, франтоны і інш.), рэльефы, барэльефы, арнамент. манум.-дэкар. размалёўку, скульптуру. Вызначаецца арх. формай, буд. матэрыялам, колерам, фактурай.

**ДЕКОРАТИВНОСТЬ / ДЭКАРАТЫЎНАСЦЬ** - маст. асаблівасць, якая вызначаецца каларыстычным, кампазіцыйным, рытмічным вырашэннем твора, што робіць яго прадметам маст.-эстэт. фарміравання матэрыяльнага асяроддзя. Можа быць уласціва як твору ў цэлым, так і яго асобным элементам. Садзейнічае стварэнню маст. вобраза твора выяўленчага, дэкар.-прыкладнога, нар. мастацтва, арх. ансамбля. Не нясе самастойнай сэнсавай або пазнавальнай інфармацыі, але ў працэсе ўспрыняцця маст. вобраза стварае пэўны эмацыянальны фон, з'яўляецца важным сродкам выяўлення нац. своеасаблівасці маст. твора.

**ДЕКОРАТИВНОЕ ИСКУССТВО / ДЭКАРАТЫЎНАЕ МАСТАЦТВА** - галіна пластычных мастацтваў, якая (як архітэктура і дызайн) служыць маст. фарміраванню матэрыяльнага асяроддзя, што ствараецца чалавекам і садзейнічае ўкарыненню ў ім эстэт. і ідэйна-вобразнай асновы. Адзін са сродкаў эстэт. выхавання чалавека. Падзяляецца на манументальна-дэкаратыўнае мастацтва (уключае арх. дэкор, дэкаратыўны жывапіс, дэкаратыўную скульптуру), дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, афармленчае мастацтва. Творы Д.м. ствараюцца як элемент ці дэталь кампазіцыі (плошчы, вуліцы, парку, будынках, а таксама інтэр'ера, касцюма) і адыгрываюць істотную ролю ў аб'ёмна-прасторавай арганізацыі ансамбля.

**ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО / ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА** - раздзел дэкаратыўнага мастацтва; ахоплівае шэраг галін творчасці, прысвечаных стварэнню маст. рэчаў, пераважна для побыту (посуд, мэбля, дробная пластыка, прылады працы, сродкі перамяшчэння, зброя, мастацкія тканіны, адзенне, ювелірныя вырабы і інш.). Творы Д.-п. м. класіфікуюць паводле матэрыялу (метал, кераміка, шкло, косць, тэкстыль, дрэва) ці тэхнікі выканання (ліццё, чаканка, коўка, разьба, інкрустацыя, размалёўка, ткацтва, пляценне, вышыўка), што абумоўлена важнай роляй канструкцыі і тэхналогіі, яго непасрэднай сувяззю з вытворчасцю. Д.-п. м. вырашае адначасова практычныя і маст. задачы, садзейнічае маст. арганізацыі прадметнага асяроддзя, якое адпавядае эстэт. запатрабаванням чалавека. Творы Д.-п. м. неаддзельны ад матэрыяльнай культуры сучаснай ім эпохі, цесна звязаны з яе звычаямі мясц. этнічнымі і нац. асаблівасцямі, сац.-групавымі і класавымі адрозненнямі. Эстэтычная каштоўнасць вырабаў Д.-п. м., мэтазгоднасць і выразнасць іх форм дасягаюцца канструкцыйнымі і пластычнымі магчымасцямі матэрыялу, разнастайнасцю прыёмаў яго апрацоўкі. Сродкі выяўл. мастацтваў (скульптуры, жывапісу, графікі) і арнамент выкарыстоўваюць ў Д.-п. м. для стварэння дэкору і для формаўтварэння вырабаў (посуд у выглядзе расліны, жывёлы, чалавека, фігурныя дэталі мэблі і інш.). У прадметах чыста утылітарнага характару дэкор можа адсутнічаць, эстэт. якасць іх дасягаецца выразнасцю формы вырабу, якая падкрэслівае яго прызначэнне. Адзінства маст. і утылітарнай функцый, формы і дэкору выяўляюць сінтэтычны характар Д.-п. м.



**ДЕКОРАЦИЯ / ДЭКАРАЦЫЯ** - у тэатры і кіно, афармленне трохмернай прасторы, у межах якой адбываецца дзеянне спектакля або фільма. Існуе для вобразнай характарыстыкі гіст. абставін, умоў і атмасферы спектакля або фільма - асяроддзя, у якім дзейнічае акцёр. Ствараецца з дапамогай архітэктуры, жывапісу, графікі, маст. планіроўкі месца дзеяння, спец. фактур, асвятлення і тэхнікі.

**ДЕТАЛИЗАЦИЯ / ДЭТАЛІЗАЦЫЯ** - дбайная прапрацоўка дэталей выявы. У залежнасці ад задачы, якую ставіць перад сабою мастак, і яго творчай манеры, Д. можа быць рознай.

**ДЕТАЛЬ / ДЭТАЛЬ** - 1) элемент; 2) падрабязнасць, якая ўдакладняе характарыстыку вобраза; 3) менш значная частка твора; 4) фрагмент.

**ДЕФОРМАЦИЯ / ДЭФАРМАЦЫЯ** - змена відавочнай формы ў адлюстраванні. Д. ў мастацтве нярэдка выкарыстоўваецца як маст. прыём для ўзмацнення выразнасці вобраза. Шырока выкарыстоўваецца ў карыкатуры, але сустракаецца таксама ў станковым жывапісе і скульптуры.

**ДИЗАЙН / ДЫЗАЙН** - мастацкае канструяванне прамысловых вырабаў (гл. Тэхнічная эстэтыка).

**ДИНАМИЧНОСТЬ / ДЫНАМІЧНАСЦЬ** - у выяўл. мастацтве: рух, адсутнасць спакою. Аднак гэта не заўсёды адлюстраванне руху - фізічнага дзеяння з перамяшчэннем у прасторы, але і ўнутраная дынаміка вобраза, як у жывых істот, так і ў неадушаўлёных прадметаў. Д. дасягаецца кампазіцыйным рашэннем, трактоўкай форм і манерай выканання (характарам мазка, штрыха і г.д.).

**ДИОРАМА / ДЫЯРАМА** - від жывапісу, у якім стужкападобная карціна, вертыкальна нацягнутая на ўнутр. паверхні паўкруглага ў плане падрамніка, спалучаецца з аб'ёмным (бутафорскім) пярэд-

нім планам, макетам. Разлічана на штучнае асвятленне. Д. ствараe ілюзію шырокіх прастораў і паказвае пераважна батальныя сцэны, але ў адрозненне ад панарамы ахоплівае толькі частку гарызонта.

**ДИПТИХ / ДЫПЦІХ** - два творы выяўл. мастацтва, аб'яднаныя адзінай задумай.

**ДОПОЛНИТЕЛЬНЫЕ ЦВЕТА / ДАДАТКОВЫЯ КОЛЕРЫ** - два колеры, якія даюць белы пры аптычным змяшэнні (чырвоны з блакітца-зялёным, аранжавы з блакітным, жоўты з сінім, фіялетавы з зеленавата-жоўтым, зялёны з пурпурным). Пры механічным змешванні названых пар дадатковых колераў атрымоўваюцца адценні з паніжанай насычанасцю. Дадатковыя колеры яшчэ называюць кантраснымі.

**ДРАПИРОВКА / ДРАПІРОЎКА** - размяшчэнне і агульны характар складак адзення або тканіны, адзін з сродкаў стварэння маст. вобраза. Выкарыстоўваецца ў афармленні інтэр'ераў грамадскіх і жылых будынкаў, тэатр.-дэкар. і выяўленчым мастацтве.

## Ж

**ЖАНР / ЖАНР** - гістарычна выпрацаванае ўнутранае падраздзяленне ва ўсіх відах мастацтва. У выяўл. мастацтве Ж. вылучаюцца паводле прадмета адлюстравання (партрэт, пейзаж, нацюрморт і інш.), характару адлюстравання (шарж, карыкатура, гратэск), спосабу пабудовы маст. вобраза твора (алегорыя, сімволіка, дакументальнасць), пазнавальнай ёмістасці маст. твора (індывідуальны і групавы партрэт і інш.). У залежнасці ад віду выяўл. мастацтва жанравая дыферэнцыяцыя можа быць больш або менш развітай: у скульптуры, напр., пашыраны Ж. партрэта, радзей сустракаюцца анімалістычны, пейзаж, нацюрморт; у жывапісе і графіцы пашыраны ўсе жанры - партрэт, пейзаж, гістарычны, бытавы, нацюрморт і інш. З развіццём Ж. ўзнікае ўнутрыжанравая дыферэнцыяцыя: партрэт - парадны, жанравы, групавы, партрэт-карціна і г.д.; пейзаж - арх., гарадскі, марына і інш.

**ЖИВОПИСНОСТЬ / ЖЫВАПІСНАСЦЬ** - асаблівасць твораў прасторавых мастацтваў, дынамічнае ўзаемадзеянне форм, аб'ёмаў, колеравых плям, ліній, святла і ценю, што стварае яркае ўражанне агульнай рухомасці, зменлівасці, разнастайнасці аспектаў. Праяўляецца: у перавазе колеравай (у жывапісе) і святлоценявой (у графіцы) плямы над выразнай лініяй; у цякучай плаўнасці мас і форм, незамкнёнасці аб'ёмаў, мяккасці святлоценявых пераходаў (у скульптуры); у асіметрыі планіроўкі і свабодзе члянення асн. кампазіцыйных элементаў, у дынаміцы форм, часам у актыўнай ролі колеру і пластычнага дэкору (у архітэктуры). У шырокім сэнсе





слова Ж. - свабодная, жывая выразнасць, яркая вобразнасць, маляўнічасць.

**ЖИВОПИСЬ / ЖЫВАПІС** - від выяўленчага мастацтва, у якім выявы прадметаў ці з'яў, пераасэнсаваныя творчай фантазіяй мастака, ствараюцца нанясеннем колеравых матэрыялаў на якую-небудзь паверхню (паперу, кардон, дрэва, палатно, атынкаваную сцяну, шкло, метал і інш.). Сродкамі спецыфічнай маст. мовы - колеру, малюнка, кампазіцыі - Ж. здольны нагляднa і пераканаўча паказаць аблічча і ўнутраны свет чалавека, грамадскія з'явы і адносіны людзей, карціны нар. жыцця, прыроду ў розным стане, жывёл, натуральнае асвятленне і паветранае асяроддзе (пленэр), рух і зменлівасць з'яў рэчаіснасці, багацце яе фарбаў, якасную своеасаблівасць прадметаў, глыбіню прасторы. Паводле матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца, і тэхнікі выканання Ж. падраздзяляецца на алейны, тэмперны, фрэскавы, васковы, мазаічны, вітражны, акварэльны, гуашавы, пастэльны. Паводле прызначэння, характару выканання і вобразаў вылучаюць манументальны жывапіс (аздабленне арх. збудаванняў - насценная размалёўка, пано, плафон), станковы жывапіс (абраз, карціна; гл. Станковае мастацтва), дэкаратыўны жывапіс, дэкарацыйны жывапіс (эскізы тэатр. і кінадэкарацый і касцюмаў; гл. Тэатральна-дэкарацыйнае мастацтва), мініяцюру.

**ЖИВОПИСЬ ДЕКОРАТИВНАЯ / ЖЫВАПІС ДЭКАРАТЫЎНЫ** - жывапіс, які ўваходзіць у склад арх. збудавання ці твора дэкар.-прыкладнога мастацтва, не мае самастойнага ідэйна-вобразнага значэння і прызначаны для аздаблення ці акцэнтавання канструкцыі і функцыі прадмета. Як і манументальны жывапіс, выконваецца ў выглядзе мазаікі, пано, размалёўкі.

**ЖИВОПИСЬ МИНИАТЮРНАЯ / ЖЫВАПІС МІНІЯЦЮРНЫ** - творы выяўл. мастацтва, якія адрозніваюцца невялікімі памерамі і вызначаюцца асабліва тонкай манерай накладання фарбаў.

**ЖИВОПИСЬ МОНУМЕНТАЛЬНАЯ / ЖЫВАПІС МАНУМЕНТАЛЬНЫ** - творы жывапісу буйных памераў (пано, размалёўка, мазаіка), звязаныя з архітэктурай і адметныя зместам вял. грамадскага значэння; від манументальнага мастацтва. Выконваецца ў тэхніках а фрэска, а сэка, сграфіта, энкаўстыкі і інш. Звязаныя з архітэктурай, для якой прызначаны, творы М.ж. валодаюць і самастойным вобразным зместам. Спецыфіка М. ж. вымагае асаблівага ладу маст. форм: яснасці і лаканізму кампазіцыі, дакладнасці і абагульненасці малюнка, вял. колеравых плям, асаблівай прадуманасці ракурсаў і перспектывы з улікам успрыняцця з вял. адлегласці. М. ж. шырока выкарыстоўваецца для аздаблення фасадаў і інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, вонкавага аздаблення жылых да-

моў (што дае падставу называць яго таксама манументальна-дэкаратыўным жывапісам.

**ЖИВОПИСЬ ПО СЫРОМУ / ЖЫВАПІС СЫРЫ** - тэхнічны прыём алейнага і акварэльнага жывапісу. Пры рабоце алеем неабходна закончыць працу да падсыхання фарбаў і выключыць такія этапы, як падмалёўка, лесіроўка і паўторныя прапіскі. У акварэлі перад пачаткам работы паперу раўнамерна змочваюць вадой. Мазкі фарбы, кладучыся на вільготную паверхню, расплываюцца, зліваюцца адзін з другім, ствараюць плаўныя пераходы. Так можна дасягнуць мяккасці ў перадачы абрысаў прадметаў, лёгкасці і прасторы відарысу.

**ЖУХЛОСТЬ / ЖУХЛАСЦЬ, БЛЯКЛАСЦЬ** - змены ў фарбавым слоі, у выніку якіх частка паверхні карціны або эцюда робіцца матавай, губляе бляск і насычанасць фарбаў. Жухласць узнікае ад недахопу ў фарбе сувязнага рэчыва - алею, які ўсмактаўся ў грунт, або ад празмернай наяўнасці ў фарбе растваральніка, а таксама ад нанясення фарбаў на не зусім прасохлы слой фарбы.

## З

**ЗАКОНЧЕННОСТЬ / ЗАКОНЧАНАСЦЬ** - такая стадыя ў працы над творам, калі дасягнута найбольшая паўната ўвасаблення творчай задумы, або - у больш вузкім сэнсе - калі выканана пэўная вобразатворчая задача.

**ЗАМОК / ЗАМОК** - (замковы камень) у арх., камень ці цагліна ў вяршыні аркі або скляпення, звычайна клінападобны (у выгдядзе трапецыі). Дэкар. З. упрыгожвалі таксама цэнтр. ч. плоскай перамычкі над аконным праёмам або парталам.

**ЗАРИСОВКА / ЗАМАЛЕЎКА** - рысунак з натуры, выкананы пераважна па-за майстэрняй з мэтай назапашвання матэрыялу для больш значнай працы ці як практыкаванне. У адрозненне ад блізкага па тэхнічных сродках накіду выкананне замалёўкі можа быць вельмі дэталізаваным.

## И

**ИДЕАЛИЗАЦИЯ/ ІДЭАЛІЗАЦЫЯ** - у мастацтве: адступленне ад жыццёвай праўды з прычыны наўмыснага ці міжвольнага прыхарошвання мастаком прадмета адлюстравання; спосаб вобразнага ўвасаблення маст. уяленняў пра жаданае і належнае, якое атаясамліваецца з існым, сапраўдным. Звычайна І. праяўляецца ў гіпербалізацыі і абсалютызацыі становучага пачатку як нейкага гранічнага, нібы ужо дасягнутага ўдасканалення; у згладжванні жыцёвых супярэчнасцей і канфліктаў, ва ўвасабленні адцягненага, наджыццёвага ідэалу і г.д.

**ИДЕЯ / ІДЭЯ** - асноўная, галоўная думка твора, якая вызначае яго змест і вобразную будову, выражаную ў адпаведнай форме.





**ИЗОБРАЗИТЕЛЬНЫЕ ИСКУССТВА / ВЫЯЎЛЕНЧЫЯ МАСТАЦТВЫ** - мастацтвы, дзе вобраз увасоблены ў бачнай рэчыўнай форме на плоскасці ці ў прасторы і не развіваецца ў часе: жывапіс, графіка і скульптура. Часта да відаў выяўленчых мастацтваў адносяць архітэктуру і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, бо іх творы прасторавыя і ўспрымаюцца зрокам. Аднак архітэктура і большая частка прыкладнога мастацтва істотна адрозніваюцца ад жывапісу, графікі і скульптуры тым, што вобразнае адлюстраванне імі рэчаіснасці не мае характару непасрэднага ўзнаўлення з'яў, г. зн. уласна выявы. Выяўленчыя мастацтвы іншы раз называюць прасторавымі, бо яны ўзнаўляюць бачныя формы ў рэальнай ці ўмоўнай прасторы. У адрозненне ад мастацтваў часовых (музыкі, тэатра, кіно), дзе дзеянне развіваецца ў часе, у творах выяўленчых мастацтваў у кожным канкрэтным выпадку можна адлюстраваць толькі адзін пэўны момант. Ужо ў старажытнасці мастакі імкнуліся пераадолець абмежаванасць выяўленчых мастацтваў (напрыклад, адлюстроўваючы ў адной карціне адначасова некалькі эпізодаў з жыцця якой-небудзь асобы). Сюды адносяцца таксама "кляймы" на абразах, трыпціхі, паказ розных момантаў аднаго руху ў некалькіх фігур або дынамічнасць кампазіцыйнай пабудовы. Пры дастатковым майстэрстве мастаку удаецца даць уяўленне аб тым, што было раней і што адбудзецца пазней. У кожным з відаў выяўленчых мастацтваў маюцца ўласцівыя толькі яму аднаму мастацкія сродкі.

**ИКОНОГРАФИЯ / ІКАНАГРАФІЯ** - у выяўленчым мастацтве, строга ўстаноўленая сістэма адлюстравання персанажаў або сюжэтных сцэн. У мастацтвазнаўстве І. - апісанне і сістэматызацыя тыпалагічных адзнак і схем, прынятых пры адлюстраванні пэўных персанажаў (рэальных ці выдуманых) або сюжэтных сцэн. Пад І. разумеюць таксама сукупнасць адлюстраванняў пэўнай асобы (гісторыка, дзярж. дзеяча) і сукупнасць сюжэтаў, характэрных для мастацтва якой-небудзь эпохі, маст. кірунку.

**ИКОНОПИСЬ / ІКАНАПІС** - пісанне ікон (абразоў), сярэдневяковы станковы жывапіс, рэлігійны па тэмах і сюжэтах, культавы па прызначэнню. Арганічная частка адзінага ідэйна-маст. комплексу, які аб'ядноўвае архітэктуру, дэкар.-прыкладное мастацтва і жывапіс.

**ИЛЛЮЗОРНОСТЬ / ІЛЮЗОРНАСЦЬ** - падабенства вобраза твору з натурай на мяжы з падманам зроку. Зрэдку выкарыстоўваецца як мастацкі прыём, напрыклад, у манументальных размалёўках сцен і столі для стварэння ўражання большай глыбіні прасторы і больш значных памераў памяшкання. Даволі часта ілюзорнасць праяўляецца ў незвычайна дакладнай пе-

радачы матэрыяльных уласцівасцей прадметаў. Праз ілюзорнасць могуць быць страчаны мастацкая выразнасць твора і глыбіня яго зместу. Гэта бывае ў тых выпадках, калі ў творы, дастаткова сур'ёзным і глыбокім па задуме, імкненне да знешняга падабенства засланяе галоўнае.

**ИЛЛЮСТРАЦИЯ / ІЛЮСТРАЦЫЯ** - 1) выява, якая суправаджае і дапаўняе тэкст (малюнак, гравюра, фотаздымак, рэпрадукцыя, карта, схема і інш.); 2) галіна графікі, звязаная з выяўл. тлумачэннем літ. і навук. твораў. І. цесна звязана з гісторыяй кнігі. Уваходзячы ў маст. арганізм кнігі, газеты, часопіса, І. часта дапаўняецца інш. дэкар. элементамі афармлення (застаўкамі, канцоўкамі, ініцыяламі). Спачатку рукапісныя кнігі ілюстраваліся мініяцюрамі. Пасля вынаходства кнігадрукавання і ксілаграфіі І. становіцца гал. састаўной часткай графікі.

**ИМПРЕССИОНИЗМ / ІМПРЭСІЯНІЗМ** - мастацкая плынь, якая абвясціла асноўнай мэтай мастацтва непасрэднае адлюстраванне з'яў рэчаіснасці так, як яны ўяўляюцца ў імгненных уражаннях, пачуццёвых суб'ектыўных адчуваннях мастака. І. у выяўленчым мастацтве зарадзіўся ў Францыі ў канцы 60-ых гадоў 19 ст., затым пашырыўся ў іншых краінах. Назву атрымаў ад карціны К. Манэ "Уражанне. Узыходзячае сонца". Большасць твораў імпрэсіяністаў прасякнута жыццярадасным светаадчуваннем. Яны сцвярджалі эстэт. вартасць асяроддзя, дасягнулі тонкасці ў перадачы эфектаў пленэра, зменлівага пераходнага стану прыроды, уздзеяння святла і атмасферы на колер прадметаў. Жывапісная сістэме І. ўласціва разлажэнне складаных таноў на чыстыя колеры і ўзаемапранікненні раздзельных мазкоў чыстага колеру, светлая і яркая гама фарбаў, багацце валёраў і рэфлексаў. Разам з тым І. адмаўляецца ад вялікіх грамадскіх праблем, ад прынцыпаў абагульнення і тыпізацыі.

**ИНИЦИАЛ / ІНІЦЫЯЛ** - у мастацтве, павялічаная загалоўная (пачатковая) літара якоганебудзь раздзела ў тэксце рукапіснай ці друкаванай кнігі. У рукапісах І. (т. зв. буквіцы) багата размалёўваліся складанымі арнаментамі, упрыгожваліся вывамі чалавечых фігур і жывёл, жанравымі сцэнкамі.

**ИНКРУСТАЦИЯ / ІНКРУСТАЦЫЯ** - від дэкарыроўкі вырабаў узорамі ці сюжэтнымі кампазіцыямі з кавалачкаў дрэва, косці, металу, перламутру, якія ўразаюцца ў паверхню вырабаў і адрозніваюцца ад яе колерам ці матэрыялам; творы, выкананыя ў гэтай тэхніцы. Пашырана І. дрэвам па дрэве (інтарсія), металам па метале (насечка), каменем па каменю; часта выконваецца іншым матэрыялам, чым матэрыял прадмета, які упрыгожваецца.

**ИНТАРСИЯ / ІНТАРСІЯ** - від інкрустацыі. Сюжэтныя выявы або арнамент ствараюцца ўрэзваннем кавалачкаў дрэва, розных





па фактуры і колеру, у паверхню драўлянага вырабу.

**ИНТЕРЬЕР / ІНТЭР`ЕР** - унутраная прастора будынка або памяшкання; асобы жанр у выяўленчым мастацтве, які адлюстроўвае ўнутраныя архітэктурныя прасторы - пакоі, залы, анфілады і інш. Пад інтэр'ерам разумеюць унутраную прастору з усімі яе элементамі: дэкаратыўнай аздобай, мэбляй, драпіроўкай, роспісамі, фрэскамі, посудам і г.д.

**ИНТЕРПРЕТАЦИЯ / ІНТЭРПРЭТАЦЫЯ** - вытлумачэнне маст. твора ці яго асобнага вобраза, матыву, кампанента, абумоўленае грамадскімі і эстэтычнымі патрэбамі часу; спосаб асваення мастацтва. Магчымая таму што маст. вобраз (твор) шматзначны і дапускае мноства трактовак. Дзякуючы ім паўней і глыбей раскрываецца ідэйнаэстэт. сэнс, маст. хараство твора.

**ИОНИК / ІОНІК** - арнаментальны матыў на капітэлях і карнізах іанічнага і карынфскага арх. ордэраў. Складаецца з яйцападобных выпукласцей, якія зрэзаны зверху, абрамлены валікамі і чаргуюцца з павернутымі вастрыём уніз стральчатымі лістамі. Паверхня элементаў І. гладкая або аздоблена разьбой.

**ИСТОРИЧЕСКИЙ ЖАНР / ГІСТАРЫЧНЫ ЖАНР** у выяўл. мастацтве - адзін з асноўных жанраў жывапісу, графікі, скульптуры, прысвечаны гістарычным падзеям, дзеячам, сацыяльна значным з'явам у гісторыі грамадства. Уключае таксама адлюстраванне нядаўніх падзей, гістарычнае значэнне якіх прызнана сучаснікамі. Часта перапляатаецца з іншымі жанрамі - пейзажам, партрэтам, бытавым жанрам; асабліва цесна змыкаецца з батальным жанрам, калі раскрывае гістарычны змест ваенных падзей.

# К

**КАННЕЛЮРЫ / КАНЕЛЮРЫ** - вертыкальныя жалабкі на ствале калоны.

**КАНОН / КАНОН** у мастацтве - сукупнасць цвёрда ўстаноўленых правіл, якія вызначаюць кампазіцыю, каларыт, сістэмы прапорцый і г.д. Першапачаткова канонам называлася сістэма прапорцый ідэальнага чалавечага цела, прапанаваная старажытнагрэчаскім скульптарам Паліклетам у 5 ст. да н.э. Антычны канон гэтак жа, як і каноны эпохі Адраджэння, апіраўся на матэматычныя заканамернасці і меў рацыяналістычны характар. Сістэма канонаў у мастацтве Старажытнага Усходу і Сярэдніх стагоддзяў была звязана з рэлігійнымі прадпісаннямі. Прыкладам няўхільнага прытрымлівання канонаў служыць мастацтва Старажытнага Егіпта.

**КАПИТЕЛЬ / КАПІТЭЛЬ** у архітэктуры - пластычна вылучаная верхняя частка вертыкальнай апоры (слупа ці калоны) або пілястры, якая перадае на іх на-

грузку ад архітрава і размешчаных вышэй яго частак будынка.

**КАРАНДАШ / АЛОВАК** у мастацтве - матэрыял (і адначасова інструмент) для рысавання ў выглядзе тонкай палачкі са спецыяльных фарбавальных рэчываў, звычайна апраўленых у дрэва, ці зробленай з металу (свінцовы, сярэбраны); таксама тэхніка рысунка, выкананага алоўкам.

**КАРИАТИДА / КАРЫЯТЫДА** - скульптурная выява жанчыны ў поўны рост, якая служыць апорай бэлькі ў архітэктурным збудаванні ці вобразна выяўляе гэту функцыю.

**КАРИКАТУРА / КАРЫКАТУРА** - спосаб мастацкай тыпізацыі, выкарыстанне сродкаў шаржу і гратэску для крытычна накіраванага перабольшання і падкрэслівання негатыўных з'яў жыцця з мэтай іх выкрыцця і высмейвання. У больш вузкім сэнсе К. - асобны жанр выяўленчага мастацтва (часцей за ўсё графіцы), форма сатыры. У графічнай карыкатуры рэзка перабольшваюцца асноўныя, найбольш характэрныя рысы адмоўных персанажаў з мэтай іх сатырычнага выкрыцця і асмяяння.

**КАРНИЗ / КАРНІЗ** - гарызантальны выступ на сцяне, які падтрымлівае дах (пакрыццё) будынка і ахоўвае сцяну ад сцёку вады; мае і дэкар. значэнне. К. бываюць: верхні (завяршае антаблемент), прамежкавы (падзяляе фасад на асобныя ярусы), цокальны (завяршае цокаль будынка), надаконны і падаконны і інш.; вонкавыя і ўнутраныя.

**КАРТИНА / КАРЦІНА** - твор станковага жывапісу, які мае самастойнае маст. значэнне і вылучаецца завершанасцю і адзінствам формы і зместу. Складаецца з асновы (дрэва, палатно, кардон, метал і інш.), грунту, фарбавага слоя. У адрозненне ад іншых відаў жывапісу (фрэска, мазаіка, пано, абраз) К. непасрэдна не звязана з пэўным інтэр`ерам, сістэмай дэкарыраванння, культавым прызначэннем. У еўрап. мастацтве з'явілася ў 14-15 ст.

**КАРТОН / КАРДОН** у мастацтве - дапаможны буйнафарматны малюнак (часам каляровы), выкананы ў памеры будучага твора (насценнай размалёўкі, мазаікі, вітража, габелена). Стварэнне К. - завяршальны этап у падрыхтоўчай рабоце мастака над насценнай размалёўкай (радзей карцінай).

**КЕРАМИКА / КЕРАМІКА** - творы дэкар.-прыкладнога мастацтва, скульптуры і вырабы утылітарнага прызначэння, выкананыя з абпаленай гліны розных гатункаў з мінеральнымі і арганічнымі дамешкамі. Гліна - асноўны матэрыял керамікі з высокімі пластычнымі якасцямі, дзякуючы якім яна знаходзіць шырокае прымяненне ў станковай скульптуры і дробнай пластыцы. Асноўныя тэхналагічныя віды мастацкай керамікі - тэракота, шамот, маёліка, фаянс, фарфор. К. служыць не толькі для ўпрыгожвання інтэр'ераў,





але і з`яўляецца незаменным архітэктурна-будаўнічым матэрыялам і сродкам дэкаратыўнага афармлення будынкаў.

**КИСТЬ / ПЭНДЗАЛЬ** - асноўны інструмент для нанясення фарбавальных рэчываў на палатно, паперу і іншую аснову ў жывапісе і графіцы, а таксама ў каліграфіі, выробляюцца з абястлушчаных і загартаваных валасоў ці шэрсці розных жывёл. Пэндзлі бываюць шчацінныя, вавёркавыя, барсуковыя, каланковыя і інш.

**КЛАССИКА / КЛАСІКА** ў выяўл. мастацтве - узорныя, выдатныя, агульнапрызнаныя творы, якія маюць вечную каштоўнасць для нацыянальнай і сусветнай культуры. Вызначаюцца гармоніяй дасканалай формы і зместу вялікага сацыяльнага і мастацкага значэння. У аснове класічных твораў рэалістычныя мастацкія прынцыпы, грамадзянскія ідэалы, дэмакратычныя тэндэнцыі. Сярод класікаў беларускага мастацтва майстры 19 ст. І.Алянкевіч, В.Ваньковіч, І.Хруцкі і інш., 20 ст. В.Бялыніцкі-Біруля, В.Волкаў, А.Глебаў і інш.

**КЛАССИЦИЗМ / КЛАСІЦЫЗМ** - кірунак у еўрапейскай мастацкай культуры 2-й пал. 17 - пач. 19 ст. Сутнасць яго выявілася ў кананізацыі антычнай класікі як дасканалага ўзору для наследавання, нарматыўнасці эстэт. крытэрыяў, ідэалізацыі і абстрактнасці вобразнага абагульнення (тыпізацыі) без усебаковага выяўлення непаўторна-асаблівага (індывідуалізацыі), дынамікі і жыццёвай зменлівасці гістарычна канкрэтнай рэчаіснасці. Характарызуецца універсальнасцю (ахапіў усе віды мастацтва) і адносным стылявым адзінствам.

У выяўл. мастацтве К. як цэласная сістэма сфарміраваўся ў Францыі 17 ст. ў перыяд умацавання і росквіту абсалютызму.

Эстэтыка К. устанавіла іерархію жанраў, якія падзяляліся на "высокія" (гістарычны, міфалагічны, рэлігійны) і "нізкія" ці "малыя" (пейзаж, партрэт, нацюрморт). Кожны жанр меў строгія і фармальныя прыкметы. Вобразны лад твораў К. адрозніваецца тэктанічнасцю, строгай ураўнаважанасцю пабудовы, рацыяналіст. яснасцю, пластычнай завершанасцю і скульптурнай акрэсленасцю форм, лагічнасцю вырашэнняў; вызначальнай роляй кампазіцыі і малюнка. Найб. яркія прадстаўнікі К. ў франц. жывапісе Н.Пусэн і К.Ларэн. Абмежаванасць К. - у схільнасці да абстрактнай ідэалізацыі, у адмове ад рэальных вобразаў сучаснасці, нарыжыцця, у негіст. трактоўцы антычнага мастацтва як абсалютнай нормы. Імкненне ўвасобіць узвышаныя эстэтычныя ідэі ў адэкватных ім гарманічна прыгожых формах надае творам, пабудаваным паводле канонаў К., адценне ўтапічнасці. У творах К. 2-й пал. 18 - пач. 19 ст. прыкметны зварот да гераічных вобразаў антычнасці, што было звязана з уплывам падзей франц. бурж. рэвалюцыі 1769-94 (творчасць Ж.Л.Давіда, А. Гудона). Позні К. эпохі напалеонаўскай імперыі

- ампір - арыентаваўся на мастацтва імператарскага Ст. Рыма. У Расіі К. развіўся ў 2-й пал. 18 ст. Вялікую ролю ў яго развіцці адыграла заснаваная ў 1757 Акадэмія мастацтваў. Прадстаўнікі К. ў рус. мастацтве А.Ласенка, Р.Угрумаў, В.Шабуеў, А.Ягораў, І.Мартас, М.Казлоўскі, Ф.Гардзееў, В.Дэмут-Маліноўскі.

Архітэктура К. заснавана на выкарыстанні структурных і маст.-дэкар. магчымасцей антычнай ордэрнай сістэмы (пераважна дарычнай), на выяўленні яе тэктанічных заканамернасцей, прапарцыянальнасці і сувымернасці аб'ёмаў і дэталей будынка.

У канцы 18 ст. збудаванні ў стылі К. вызначаліся строгасцю, прастатой дэкар. апрацоўкі фасадаў, кампактнасцю аб'ёмаў, правільнымі геам. планамі (прамавугольныя або квадратныя) з нязначнымі выступамі рызалітаў і порцікаў, тонкім і стрыманым арх. дэкорам. У пач. 19 ст. пабудовы вызначаліся манументальнасцю, урачыстасцю, к сярэдзіне 19 ст. К. стаў дагматычным антыдэмакратычным стылем.

**КЛЕЙМО / КЛЯЙМО** - 1) у жывапісе невялікая закончаная кампазіцыя з самастойным сюжэтам, якая з'яўляецца часткай адзінай агульнай задумы твора. Служыць для найб. поўнага, шматбаковага ўвасаблення маст. ідэі твора. Звычайна змяшчаецца абапал або па перыметры асн. сюжэта. У бел. іканапісе К. - часта жанравая сцэна з бытавымі і этнаграфічнымі дэталямі, недапушчальнымі ў асн. сюжэце, якую адмяжоўвала маляваная або рэльефная рамка, граф'я. 2) У дэкар.-прыкладным мастацтве - невялікі знак на вырабе, які абазначае месца яго вытворчасці, назву прадпрыемства і інш. Пашыраны ў вырабах маст. прамысловасці (фарфор, фаянс і інш.).

**КЛЕЕВАЯ ЖИВОПИСЬ / КЛЕЯВЫ ЖЫВАПІС** - жывапіс клеявымі фарбамі, у якіх сувязным рэчывам з'яўляецца клей (жывёльны, раслінны, сінтэтычны). Уключае акварэль, гуаш, казеінавую тэмперу.

**КЛЯЧКА / КЛЯЧКА** - разнавіднасць мяккай гумкі, якая выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі трэба асвятліць тон тушоўкі ў алоўкавых рысунках. Клячка надзвычай мяккая і лёгка размякчаецца пальцамі; ёю не сціраюць аловак, а злёгку прыціскаюць яе да той часткі рысунка, якую патрэбна асвятліць. Графіт прыліпае да клячкі і ўтрымліваецца ёю. Клячку можна вырабіць, змясціўшы звычайную гумку на 2-3 дні ў бензін ці газу. Затым размякчаную гумку змешваюць з бульбяной мукой, рэгулюючы вязкасць клячкі.

**КОЛЛАЖ / КАЛАЖ** - у выяўл. мастацтве - тэхнічны прыём наклейвання на аснову (палатно, кардон і інш.) матэрыялаў, якія адрозніваюцца ад яе колерам і фактурай; твор мастацтва, выкананы ў гэтай тэхніцы. Як фармальны эксперымент уведзены кубістамі, футурыстамі, дадаістамі (наклейванне на палатно абрыўкаў газет, фотаздымкаў, шпалераў, кавалкаў





тканіны і інш.). Выкарыстоўваецца ў графіцы і жывапісе для больш эмацыянальнай выразнасці фактуры твора.

**КОЛОННА / КАЛОНА** - архітэктурна апрацаваная вертыкальная апора, якая, як правіла, круглая ў папярэчным сячэнні; стрыжнявы элемент будынка (збудавання), нясучай канструкцыі і г.д. Служыць у асноўным для ўспрымання вертыкальнай нагрузкі. Бывае каменная, мураваная (з цэглы, каменю, бетону), жалезабетонная, металічная, драўляная.

**КОЛОННАДА / КАЛАНАДА** - рад або рады калон, аб'яднаных гарызантальным перакрыццём або антаблементам. У аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі будынкаў выкарыстоўваецца ў выглядзе порцікаў і галярэй, якія прымыкаюць да будынка, аб'ядноўваюць яго асобныя часткі, звязваюць з навакольным асяроддзем.

**КОЛОРИТ / КАЛАРЫТ** - сістэма колеравых спалучэнняў, якая ўтварае візуальнае адзінства твора і з'яўляецца эстэтычным пераўтварэннем колеравай разнастайнасці рэчаіснасці. К. - важны кампанент мастацкага вобраза і адзін з найважнейшых сродкаў эстэтычнай і эмацыянальнай выразнасці. У больш вузкім сэнсе пад К. разумеюць гармонію і прыгажосць каляровых спалучэнняў, а таксама багацце каляровых адценняў у творы. У залежнасці ад перавагі ў ім каляровай гамы ён можа быць халодным, цёплым, светлым, чырванаватым, зеленаватым і г.д. Характар К. залежыць ад віду мастацтва, матэрыялу і функцыі твора; абумоўлены зместам і агульнай задумкай твора; звязаны з эпохай, нацыянальнай мастацкай школай, мастацкім стылем, творчай індывідуальнасцю мастака. У кожным канкрэтным творы К. утвараецца непаўторным складаным узаемадзеяннем тонаў, якія дапасуюцца паводле законаў гармоніі, дапаўнення і кантрасту.

**КОМПОЗИЦИЯ / КАМПАЗІЦЫЯ** - структура твора, узгодненасць яго частак, якая адпавядае яго зместу; пошукі шляхоў і сродкаў стварэння мастацкага вобраза, пошукі найлепшага ўвасаблення задумы мастака. Праца над кампазіцыяй ідзе ад першапачатковай задумы, агульнай яе "завязкі" у пластычна-бачных формах, да завяршэння твора. Пры гэтым на аснове выбранай тэмы мастак вядзе распрацоўку сюжэта.

Да кампазіцыйнай пабудовы адносіцца размяшчэнне выявы ў прасторы - рэальнай (у скульптуры) ці на карціннай плоскасці (у жывапісе і графіцы) у адпаведных задуме памеры, фармаце і матэрыялах. Сюды ўваходзяць: вылучэнне цэнтра вузла кампазіцыі і падпарадкаванне яму больш другарадных частак твора; спалучэнне асобных яго частак у гарманічным адзінстве; групіроўка і супадпарадкаванне іх з мэтай дасягнуць выразнасці і пластычнай цэлас-

насці вобраза-твору. Пры гэтым выяўляюцца кантрасты і рытмічнае размяшчэнне асноўных мас і сілуэтаў у карціне.

У кампазіцыйным рашэнні твора мае вялікае значэнне выбар найлепшага пункту погляду на адлюстроўваемае. Пры рабоце з натуры да К. адносяцца і пошук матыва для вобраза-твору, падбор і растаноўка прадметаў і пастаноўка жывой мадэлі. Работа над К. уключае таксама перспектыўныя пабудовы выявы, узгодненасць маштабаў і прапорцый, танальнае і каляровае рашэнне твора.

**КОНСТРУКЦИЯ / КАНСТРУКЦЫЯ** - у выяўл. мастацтве: сутнасць, характэрная асаблівасць будовы любой формы ў натуры і ў вобраза-творы, якая абумоўлівае сувязь частак у цэлым і іх суадносіны.

**КОНТРАСТ / КАНТРАСТ** - распаўсюджаны мастацкі прыём, які ўяўляе сабой супастаўленне якіх-небудзь супрацьлеглых якасцей, што садзейнічае іх узмацненню. Найбольшае значэнне мае колеравы і танальны кантраст. Колеравы К. звычайна назіраецца пры супастаўленні дадатковых колераў або колераў, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго па светлаце. Танальны К. - супастаўленне светлага і цёмнага. У кампазіцыйнай пабудове К. служыць прыёмам, дзякуючы якому больш моцна падкрэсліваецца галоўнае і дасягаецца большая выразнасць і вастрыня характарыстыкі вобразаў.

**КОНТРРЕЛЬЕФ / КОНТРРЭЛЬЕФ** - заглыбленая ў плоскасць выява; від рэльефу. Тэхніка К. вядома з старажытнасці (выраб пячатак, у якіх строга негатыўныя адносна пукатага рэльефу заглыбленні былі разлічаны на пластычны адбітак у выглядзе мініяцюрнага барэльефа). На тэр. Беларусі ў тэхніцы К. выраблялі формы для адліўкі ювелірных упрыгожанняў (звычайна выкарыстоўвалі мяккія пароды каменю, гіпс, дрэва), у 16-19 ст. - формы для кафлі, пернікаў.

**КОНТУР / КОНТУР** - у выяўл. мастацтве: абрыс, лінія, якая абводзіць форму прадмета (фігуры); важны сродак маст. выразнасці твора. У малюнку К. - сукупнасць ліній, якія акрэсліваюць найважнейшыя, пераважна знешнія, абрысы выявы. Характар К. цесна звязаны з сілуэтам.

**КОНЦОВКА / КАНЦОЎКА** - у кніжнай графіцы, невялікая кампазіцыя арнаментальнага або выяўленчага характару, якая упрыгожвае канец тэксту кнігі або яе раздзел.

**КОПИЯ / КОПІЯ** - у выяўл. мастацтве: мастацкі твор, які паўтарае арыгінал з мэтай яго максімальна дакладнага ўзнаўлення. Выконваецца аўтарам або інш. мастаком. Можа адрозніваццa ад арыгінала тэхнікай выканання і памерамі, аднак павінна дакладна ўзнаўляць кампазіцыю твора, індывід. асаблівасці творчай манеры мастака. Аўтарскія К. - дублет (дубліраваны экземпляр), паўтор, рэпліка.





**КОПИРОВАНИЕ / КАПІРАВАННЕ** - працэс атрымання копій рысунка або чарцяжа; можа выконвацца рознымі спосабамі: пераколваннем, калькаваннем, перацісканнем, перарысоўкай на прасвет, перарысоўкай па сетцы, а таксама з дапамогай пантографа і эпідыяскопа.

**КОРПУСНАЯ ЖИВОПИСЬ / КОРПУСНЫ ЖЫВАПІС** - жывапіс, выкананы шчыльнымі, густымі мазкамі; яго маляўнічыя слаі непразрыстыя і часта маюць рэльефную фактуру.

**КРАСКИ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ / ФАРБЫ МАСТАЦКІЯ** - спецыяльна прыгатаваныя вадкія, цестападобныя або цвёрдыя рэчывы і саставы, якія маюць павышаныя колеравыя якасці, добрыя здольнасці афарбоўваць, дастаткова ўстойлівыя. Паводле хім. саставу падзяляюцца на мінеральныя (неарганічныя, солі або вокіслы металаў) і арганічныя (складаныя злучэнні, у асноўным расліннага і жывёльнага паходжання). Бываюць натуральныя і штучныя. Колеравая аснова Ф. - парашкападобныя сухія пігменты. У залежнасці ад звязных рэчываў вылучаюць акварэль, гуаш, пастэль, сангіну, соус, тэмперу, а таксама Ф. алейныя, клеявыя, васковыя і інш. Ф. бываюць непразрыстыя і празрыстыя (лесіровачныя).

**КРИТИЧЕСКИЙ РЕАЛИЗМ / КРЫТЫЧНЫ РЭАЛІЗМ** - мастацкі кірунак 19 - пач. 20 ст., у якім праўдзівае гістарычна канкрэтнае адлюстраванне рэчаіснасці спалучаецца з крытыкай сацыяльна-палітычнай сістэмы або яе асобных бакоў як антыгуманных, неспрыяльных для гарманічнага развіцця чалавечай асобы і грамадства. Ад папярэдніх гіст. форм рэалізму (рэнесансавага, асветніцкага) з іх сузіральнасцю, абстрактным гуманізмам і ўтапічным асветніцтвам адрозніваецца канкрэтнасцю маст. аналізу сац. рэальнасці, раскрыццём яе супярэчнасцей і канфліктаў. Мастацтва К.р, не абмяжоўваецца адлюстраваннем прыгожага і ўзнёслага, раскрывае сутыканне носьбітаў перадавых сац.-эстэт. ідэалаў з агідным і нізкім, глыбока выяўляючы трагічнае і камічнае ў жыцці. Станоўчае выяўляецца пераважна ўскосна - праз выкрыццё ўсяго, што супярэчыць сац. і духоўнаму прагрэсу.

У выяўл. мастацтве вытокі К.р. ў зах.-еўрап. мастацтве 18 ст. (творчасць Ж.-Б.Шардэна, Хогарта, Ф.Гойі). У 1-й пал. 19 ст. асобныя рысы К.р. акрэсліліся ў мастацтве рамантызму (Т.Жэрыко, Э.Дэлакруа, А.Кіпрэнскі, В.Трапінін). Найб. яскравае выражэнне К.р. знайшоў у творчасці Курбэ, Ф.Міле, К.Жэнье, у рус. мастацтве - у творчасці П.Фядотава, А.Венецыянава. Зацвярджэнне К.р. ў мастацтве 2-й пал. 19 ст. звязана з ростам рэв.-дэмакр. руху, нац.-вызв. барацьбы. У мастацтве ўзмацніліся аналітычны пачатак, імкненне да грамадска значных тэм. Асаблівую сац. вастрыню

набыў К.р. у творчасці перасоўнікаў - І.Крамскога, Пярова, Р.Мясаедава, І.Рэпіна, В.Сурыкава, М.Ярашэнкі, М.Касаткіна і інш.

**КРУЖЕВА / КАРУНКІ** - ажурна-сеткавае палатно без тканай асновы, у якім арнамент і выявы атрымліваюцца ў выніку перапляцення нітак; від дэкар.-прыкладнога мастацтва. Выкарыстоўваецца для аздаблення адзення, бялізны ў выглядзе тасьмы або ўставак, а таксама як самастойныя вырабы (сурвэткі, абрусы, пакрывалы на ложкі і інш.). Выконваюцца ўручную і на спец. машынах.

**КУБИЗМ / КУБІЗМ** - мадэрнісцкая плынь у выяўл. мастацтве 1-й чвэрці 20 ст., для якой характэрна канструяванне аб`ёмнай формы на плоскасці, разуменне карціны, скульптуры як геаметрызаванай схемы. К. ўласціва раскладанне складаных форм на прасцейшыя геам. аб'ёмы (куб, конус, цыліндр, шар), што з`яўляецца разрывам з традыцыямі рэаліст. мастацтва. Асн. жанры К. - нацюрморт, партрэт, пейзаж; творы вызначаюцца аскетычнасцю колеравай гамы, зваротам да адлюстравання элементарных форм.

Як фармальны эксперымент К. узнік у Францыі пад уплывам жывапісу П.Сезана, афрыканскай скульптуры, прымітыўнага мастацтва. Асновы і прынцыпы яго выпрацоўвалі ў самастойных пошуках П.Пікасо, Ф.Лежэ (пазней ад ідэй К. яны адышлі), Ж.Брак, Х.Грыс, А.Глеа. У Расіі не меў пашырэння, аднак паўплываў на творчасць К.Малевіча, В.Кандзінскага, Н.Альтмана, А.Архіпенкі, У.Татліна. Быў папярэднікам пазнейшых мадэрнісцкіх плыней, у т. л. абстрактнага мастацтва, футурызму.

**КУПОЛ / КУПАЛ** - прасторавая апорная канструкцыя пакрыццяў (або само пакрыццё), форма якой блізкая да паўсферы ці іншай паверхні вярчэння. Перакрывае без апор значныя па памерах памяшканні пераважна круглыя, шматвугольныя, эліптычныя ў плане.

# Л

**ЛАКИ / ЛАКІ** - растворы смол або эфіраў цэлюлозы ў спірце, шкіпінары, алеі, якія выкарыстоўваюць для грунту, каб засцерагчы палатно ад пранікнення алею з фарбаў у аснову і каб пазбегчы жухласці; Л. наносяць на зацвярдзелы слой фарбы перад далейшай працай для лепшай сувязі слаёў і пакрываюць закончаныя творы, засцерагаючы карціны ад псавання. Пры гэтым Л. ўзмацняюць насычанасць фарбаў. Каб карціны менш цямнелі, іх лепш пакрываць шкіпінарнымі лакамі. Лак-фіксатар замацоўвае работы, выкананыя вугалем, сангінай, пастэллю, акварэльнымі фарбамі.

**ЛАКИ ХУДЖЕСТВЕННЫЕ / ЛАКІ МАСТАЦКІЯ** - вырабы з дрэва, пап'е-машэ ці металу, апрацаваныя лакам, адпаліраваныя, аздобленыя размалёўкай, часам разьбой, інкрустацыяй, гравіроўкай; від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.





**ЛЕВКАС / ЛЯЎКАС** - мелавы грунт, прыгатаваны на жывёльным або рыбіным клеі. Шырока выкарыстоўваўся у старажытным іканапісе. У насценных размалёўках Л. - прыгатаваны асабліва старанна верхні слой тынку; у дэкар.-прыкладным мастацтве - грунт на драўляных вырабах пад афарбоўку.

**ЛЕПКА ФОРМЫ / ЛЕПКА ФОРМЫ** - гл. Мадэліроўка.

**ЛЕССИРОВКА / ЛЕСІРОЎКА** - тонкія, празрыстыя або паўпразрыстыя слаі фарбаў, якія наносяць на высахлыя фарбы, карціны, каб змяніць, узмацніць або аслабіць колеравыя тоны, узбагаціць каларыт, дасягнуць яго адзінства і гармоніі.

**ЛИНЕЙНАЯ ПЕРСПЕКТИВА / ЛІНЕЙНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА** - гл. Перспектыва.

**ЛИНОГРАВЮРА / ЛІНАГРАВЮРА** - пукатая гравюра на лінолеуме або падобных да яго палімерна-пластычных матэрыялах; па тэхніцы і маст. сродках блізкая да ксілаграфіі (гравюры на дрэве, дрэварыт). Пры дапамозе спецыяльных разцоў выразаюць прабельныя часткі. На дошцы (лінолеуме) застаецца выпуклы малюнак, з якога робяць адбітак. Асаблівасці Л. - лаканізм маст. мовы, кантрасты белага і чорнага, сакавіты маляўнічы штрых, які атрымліваецца дзякуючы мяккасці матэрыялу. Гэта дае магчымасць дасягаць высокай тыражнасці, выкарыстоўваць значны памер аркуша і каляровы друк. Л. - адна з гал. тэхнік эстампа.

**ЛИТОГРАФИЯ / ЛІТАГРАФІЯ** - спосаб друку, пры якім адбіткі з плоскай (нерэльефнай) формы (камень-вапняк) пераносяцца пад ціскам на паперу. Малюнак наносіцца тлустай тушшу (пэндзалем, пяром) або літаграфскім алоўкам і перад друкаваннем падвяргаецца хімічнай апрацоўцы, пакрываецца вадой і фарбай.

**ЛИТЬЁ ХУДОЖЕСТВЕННОЕ / ЛІЦЦЁ МАСТАЦКАЕ** - тэхніка стварэння мастацкіх вырабаў шляхам заліўкі расплаўленага металу ў форму, а таксама маст. творы, выкананыя гэтым спосабам; від дэкар.-прыкладнога мастацтва. Найб. пашыраны спосаб пераводу ў метал твораў скульптуры, а таксама вырабу метал. пасудзін і інш.

**ЛОКАЛЬНЫЙ ЦВЕТ / ЛАКАЛЬНЫ КОЛЕР** - у жывапісе, асноўны і нязменны колер прадметаў адлюстравання, умоўны, пазбаўлены адценняў, што ўзнікаюць ад дзеяння асвятлення, паветранай прасторы, рэфлексаў і інш.

**ЛОПАТКА / ЛАПАТКА** - у арх.: вертыкальны выступ на сцяне будынка без базы і капітэлі. Л. звычайна ўспрымае цяжар ад падпружных арак скляпенняў. Адначасова з`яўляюцца элементамі рытму і дэкору фаса-

даў, аздабляюцца рустам, філёнкамі і інш.

**ЛУБОК / ЛУБОК** - народная карцінка, твор графікі (пераважна друкаванай), адметны даходлівасцю вобраза і прызначаны для масавага рапаўсюджвання. Л. уласціва дэкаратыўнасць і прастата тэхнікі, лапідарнасць выяўл. формы, якая часта дасягаецца выразным штрыхом, яркай размалёўкай. У выяўл. тканіну Л. часта ўваходзяць подпісы, што тлумачаць выяву. Выконваецца звычайна непрафес. мастаком (належыць да нар. творчасці). Да Л. адносяць і творы прафес. графікі, якія пераймаюць лубачна-фальклорныя прыёмы.

**ЛЮНЕТ / ЛЮНЕТ** - (люнета) у арх.: арачны праём у скляпенні або сцяне, гарызантальна абмежаваны знізу. Пашыраны ў арх. стыляў рэнесансу, барока і класіцызму. У скразных Л. звычайна размяшчаліся вокны; "глухія" Л. упрыгожваліся размалёўкай, лепкай або скульптурай.

**ЛЮСТР / ЛЮСТР** - пігмент, які наносіцца на керамічныя і шкляныя вырабы зверху абпаленай глазуры і пасля аднаўленчага муфельнага абпалу дае металічны або перламутравы водбліск. Л. узмацняе маляўнічы эфект дэкору дзякуючы багатай колеравай гаме залацістых, карычнявата-аліўкавых, медна-чырвоных, фіялетавых і інш. тонаў.

# М

**МАЗОК / МАЗОК** - след пэндзля з фарбай, пакінуты на аснове (палатне, кардоне і г.д.). Тэхніка жывапісу мазкамі вельмі разнастайная і залежыць ад індывідуальнай манеры мастака, ад задачы, якую ён перад сабой ставіць, ад асаблівасцей і уласцівасцей матэрыялу, з якім ён працуе.

**МАЙОЛИКА / МАЁЛІКА** - вырабы з каляровай абпаленай гліны з буйнапорыстым чарапком, укрытай глазурай (абліцовачныя пліткі, кафля, дэкаратыўныя талеркі, статуэткі, посуд); від керамікі. Дэкар. малюнак наносіцца перад абпальваннем па сырой абмазцы. Дзякуючы параўнальна невысокай тэмпературы абпалу жывапіс маёлікавых вырабаў даволі багаты колерамі. У сучаснай маст. практыцы М. называюць таксама керамічныя вырабы з каляровымі глазурамі на фаянсавым белым ці каляровым чарапку. На тэр. Беларусі рознакаляровую М. выраблялі з 12 ст. амаль ва ўсіх гарадах (пліткі дэкартыўныя, арх. дэталі, посуд, цацкі). Сучаснай беларускай М. уласціва разнастайнасць форм і дэкору: тонкі лінейны малюнак (сюжэтны і арнаментальны) на белым і каляровым фоне, падцёчныя палівы, маляўнічыя ўзоры з размытымі контурамі. Колер палівы пераважна карычневы, жоўты, зялёны, ужываюцца палівы і эмалі бэзавых і сініх адценняў.





**МАКЕТ / МАКЕТ** - у арх., аб'ёмна-прасторавае адлюстраванне (з гіпсу, дрэва, пластмас, кардону і інш. матэрыялаў) будынка, які пабудаваны ўжо або праектуецца, арх. ансамбля горада. М. выконваецца ў розных маштабах. Узнаўляе арыгінал ва ўсіх дэталях (наз. мадэллю) або больш ці менш набліжаны да яго. Служыць для праверкі і ўдасканалення арх. кампазіцыі, дае нагляднае ўяўленне пра архітэктуру будынка. З'яўляецца таксама важным элементам экспазіцыі музеяў (пераважна мастацкіх).

**МАКРАМЕ / МАКРАМЕ** - (з арабскай - тасьма, карункі, махры), вырабы, створаныя ў тэхніцы вузялковага ручнога пляцення; від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Выкарыстоўваючы розныя віды вузлоў (мацавальныя, плоскія, квадратныя, рэпсавыя, дыяганальныя, дапаможныя, арнаментальныя і інш.) з тоўстых суравых нітак, сінтэтычнага і шаўковага шнура, сутажу, шпагату і інш., ствараюць розныя пабытавыя і маст. рэчы. Вырабы дапаўняюць драўлянымі, керамічнымі пацеркамі, зашчапкамі, скуранымі і інш. дэкар. дэталямі. Асновай для пляцення могуць служыць драўляныя, металічныя, пластмасавыя кольцы.

**МАНЕРА / МАНЕРА** - тэхнічныя і стылістычныя прыёмы, характэрныя для творчасці мастака; індывідуальны стыль аўтара. Найб. яскрава выяўляецца ў характары вобразнасці, у сістэме выяўл. сродкаў. Спрыяе стварэнню спецыфічнай атмасферы маст. твора (больш строгай ці больш квяцістай, рацыяналістычнай ці эмацыянальнай), што робіць гэты твор (творчасць) непадобным да іншых. Часам паняцце "М." ўжываецца для характарыстыкі агульных асаблівасцей мастакоў пэўнага кірунку (напр., "творчая манера імпрэсіяністаў"). Тэрмінам "манернасць" характарызуецца М. пэўнага творцы з негатыўнага боку, падкрэсліваецца вычурнасць, напышлівасць, пераймальнасць з прэтэнзіяй на арыгінальнасць.

**МАНЬЕРИЗМ / МАНЬЕРЫЗМ**- (італьян. - манера, стыль), плынь у еўрапейскім мастацтве 16 ст., якая адлюстравала крызіс гуманіст. культуры Адраджэння. Асн. эстэтычным крытэрыем М. было не наследаванне прыродзе, а суб'ектыўная "ўнутраная ідэя" маст. вобраза, што нараджаецца ў душы мастака. Выкарыстоўваючы ў якасці стыліст. нарматываў творы Мікеланджэла, Рафаэля і інш. майстроў Адраджэння, маньерысты скажалі закладзены ў іх гарманічны пачатак, культывавалі ўяўленні аб эфемернасці свету і хісткасці чалавечага лёсу, які знаходзіцца ва ўладзе ірацыянальных сіл. Найб. яскрава М. выявіўся ў мастацтве Італіі. Жывапісныя творы вылучаюцца вострымі каларыст. і святлоценявымі дысанансамі, ускладненасцю і перабольшанай экспрэсіўнасцю поз і рухаў, выцягнутасцю прапорцый фігур, віртуозным малюнкам, дзе лінія набывае сама-

стойнае значэнне. У манум.-дэкар. мастацтве М. пераважаюць атэктанічныя, насычаныя гратэскавай арнаментыкай вырашэнні. Скульптуры М. характэрны стылізацыя чалавечай фігуры, здробненасць формы, смелае вырашэнне праблем абсалютна круглай статуі. У архітэктуры прыкметна імкненне да эстэтызацыі дэкору, падкрэсліванне экстравагантнай дэталі.

**МАРИНА / МАРЫНА** - марскі пейзаж.

**МАРИНИСТ / МАРЫНІСТ** - мастак, які адлюстроўвае марскія віды, жыццё мора.

**МАТОВЫЙ / МАТАВЫ** - не маючы бляску, глянцу.

**МАСЛЯНЫЕ КРАСКИ / АЛЕЙНЫЯ ФАРБЫ** - фарбавальнікі (пігменты), змешаныя з раслінным алеем - ільняным (пераважна), макавым або арахісавым. Алейныя фарбы пад уздзеяннем святла і паветра паступова зацвердзяваюць. Аснова (палатно, дрэва, кардон) для працы па іх алейнымі фарбамі папярэдне загрунтоўваецца.

**МАСТЕРСКАЯ / МАЙСТЭРНЯ** у выяўл. мастацтве - памяшканне, прызначанае для працы жывапісца, скульптара або графіка, якое мае спецыяльнае асвятленне, абсталяванне і неабходныя для данага віда працы матэрыялы.

**МАСТИХИН / МАСТЫХІН** - спецыяльны нож з гнуткай сталі. Выкарыстоўваецца для ачышчэння палітры і для зняцця яшчэ не высахшага слою фарбаў з асобных месцаў палатна. Выкарыстоўваецца таксама замест пэндзля.

**МАТЕРИАЛЬНОСТЬ / МАТЭРЫЯЛЬНАСЦЬ** - перадача матэрыяльных якасцяў прадмета яго танальнымі і каляровымі адносінамі, характарам святлацені, блікамі і рэфлексамі.

**МЕДАЛЬ / МЕДАЛЬ** - від скульптуры малых форм. 1) знак з даўгавечнага матэрыялу пераважна круглай формы з рэльефнай выявай у гонар знамянальнай падзеі або выдатнай асобы; 2) від дзяржаўнай узнагароды за асаблівыя баявыя і працоўныя заслугі; 3) узнагарода за поспехі ў навуцы, культуры, эканоміцы і інш.

**МЕДАЛЬЕРНОЕ ИСКУССТВО / МЕДАЛЬЕРНАЕ МАСТАЦТВА** - мастацтва вырабу форм для адліўкі і штэмпеляў, для чаканкі манет і медалёў з медзі, серабра, золата і інш.

**МЕДАЛЬОН / МЕДАЛЬЁН** - 1) выяўленчая ці арнаментальная кампазіцыя (ляпны або разны рэльеф, размалёўка, мазаіка) у авальным ці круглым абрамленні. Выкарыстоўваецца для аздаблення будынкаў, мэблі і інш.; 2) ювелірнае ўпрыгожанне (нярэдка ў выглядзе авальнай ці круглай плоскай каробачкі на ланцужку), якое служыць для захоўвання мініяцюрнага партрэта ці рэліквіі.

**МЕМОРИАЛЬНАЯ ДОСКА / МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА** - памятная металічная, мармуровая, гранітная пліта з тэкстам, часам з выявай ці сюжэтнай кампазіцыяй, якая ўвекавечвае знамянальную падзею, дату ў гісторыі краіны, горада ці ў жыцці выдатнай асобы. Звычайна ўстанаўліваецца на сценах дамоў, у інтэр'ерах будынкаў.





**МЕМОРИАЛЬНЫЙ ЗНАК / МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК** - архітэктурна-скульптурнае збудаванне, звычайна ў выглядзе невысокай стэлы з рэльефам або каменя з тэкстам. Устанаўліваецца ў гонар значнай падзеі або выдатнай асобы. Уключае надпіс-прысвячэнне, часта партрэтную, сюжэтную або алегарычную выяву, мае сціплы дэкор. Бывае самастойны ці ўваходзіць у мемарыяльны комплекс. Ставіцца, як правіла, там, дзе адбылася значная падзея, або на месцы, звязаным з жыццём выдатнай асобы.

**МЕМОРИАЛЬНЫЕ СООРУЖЕНИЯ / МЕМАРЫЯЛЬНЫЯ ЗБУДАВАННІ** - архітэктурныя збудаванні і маст. памятныя ансамблі, архітэктурныя і скульптурныя манументы, якія ствараюцца для ўвекавечвання памяці аднаго ці групы асоб, знамянальных дат у гісторыі краіны ці горада, для ўслаўлення баявых і працоўных подзвігаў народа; належаць да твораў манументальнага мастацтва.

**МЕТОД ХУДОЖЕСТВЕННОГО ТВОРЧЕСТВА / МЕТАД МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ** - гістарычна абумоўлены спосаб адлюстравання рэчаіснасці ў мастацтве і тып мастацкага мыслення, сукупнасць прынцыпаў мастацкага адбору, ідэйна-эстэтычнай ацэнкі і абагульнення жыццёвых з'яў з пазіцый грамадскіх ідэалаў. Суадносіцца з маст. светапоглядамі, стылем, з'яўляецца адносна іх больш шырокім, сінтэзуючым паняццем. У рамках аднаго і таго ж метаду (напр., рамантызму, рэалізму) магчымы розныя светапоглядныя арыентацыі і стылявыя плыні, за выключэннем нарматыўных М. м. т. (напр., класіцызму), якія грунтуюцца на пэўных стылявых канонах, хоць і дапускаюць адрозненні ў светапоглядзе. Сацыялістычны рэалізм, наадварот, грунтаваўся на адзіным светапоглядзе, дапускаючы ў той жа час стылявую шматграннасць. М. м. т. выяўляе дасягнуты ўзровень маст. культуры і ў канчатковым выніку апасродкавана вызначаецца канкрэтна-гіст. сац. структурай грамадства.

**МЕЦЕНАТ / МЕЦЭНАТ** - (ад імя Мецэната - апякуна мастакоў, багацея-рымляніна эпохі Аўгуста - 1 ст.н.э.). Імя мецэната стала хадзячай назвай. Так называюць прыватную асобу, якая апякае і матэрыяльна падтрымлівае асобных прадстаўнікоў навукі, мастацтва або якія-небудзь пачынанні ў галіне мастацкага жыцця.

**"МИР ИСКУССТВА" / "СВЕТ МАСТАЦТВА"** - аб'яднанне рускіх мастакоў (галоўным чынам пецярбургскіх), якое склалася ў другой палове 90-х гадоў XIX ст. Майстры "Свету мастацтва" адыгралі вялікую ролю ў развіцці

станковага жывапісу і графікі, асабліва кніжнай, тэатральнай дэкарацыі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Адзін з арганізатараў аб'яднання А.М.Бенуа быў буйным мастацтвазнаўцам. Аб'яднанне выдавала часопіс "Свет мастацтва", а таксама наладжвала выставы (пад той жа назвай), на якія запрашала не толькі буйнейшых рускіх жывапісцаў, але і некаторых знакамітых еўрапейскіх майстроў пачатку XX ст. Найбольш вядомыя прадстаўнікі названага аб'яднання - гэта А.М.Бенуа, К.А.Сомаў, Л.С.Бакст, Я.Я.Лансэрэ, М.В.Дабужынскі, Б.М. Кустодзіеў, В.А.Сяроў, І.І.Левітан і шэраг іншых выдатных рускіх мастакоў канца XIX - пачатку XX ст.

**МИФОЛОГИЧЕСКИЙ ЖАНР / МІФАЛАГІЧНЫ ЖАНР** - адлюстраванне сюжэтаў, узятых з міфалогіі, г.зн. са старажытных рэлігійна-фантастычных паданняў аб багах і героях.

**МНОГОСЛОЙНАЯ ЖИВОПИСЬ / ШМАТСЛОЙНЫ ЖЫВАПІС** - важнейшая тэхнічная разнастайнасць алейнага жывапісу, якая патрабуе расчлянення працы на рад паслядоўных этапаў (падмалёўка, прапіска, лесіроўка), раздзеленых перапынкамі для поўнага прасыхання фарбы. Пры выкананні буйной тэматычнай кампазіцыі, а таксама пры працяглай працы ўвогуле: шматслойны жывапіс з'яўляецца адзінай паўнацэннай тэхнікай алейнага жывапісу.

**МОДЕЛЬ / МАДЭЛЬ** - у выяўленчым мастацтве: 1) скульптура (гіпсавы або васкавы злепак з арыгінала, а таксама ўласна арыгінал, пераважна з гліны, воску), прызначаная для пераводу ў цвёрды матэрыял шляхам адліўкі або павелічэння ў памерах; М. помніка - максімальна дакладная яго імітацыя ў паменшаных маштабах; 2) чалавек, які пазіруе мастаку пры стварэнні маст. твора (натуршчык); 3) усякі прадмет, які служыць мастаку натурай.

**МОДЕЛИРОВКА / МАДЭЛІРОЎКА** - перадача рэльефа, формы адлюстроўваемых прадметаў і фігур ва ўмовах таго або іншага асвятлення. У рысунку мадэліроўка здзяйсняецца тонам (светаценем), пры гэтым улічваецца і перспектыўнае змяненне форм. У жывапісе форма мадэліруецца колерам, таму што тут танальныя і каляровыя бакі непарыўна звязаны паміж сабой. Ступень мадэліроўкі абумоўлена зместам твора і задумай мастака.

**МОДУЛЬОН / МАДУЛЬЁН** - арх. дэталь тыпу кранштэйна, якая падтрымлівае вынасную пліту ўвянчальнага карніза, пераважна ў ордэрнай архітэктуры. Часам адыгрывае дэкар. ролю.

**МОЗАИКА / МАЗАІКА** - адзін з відаў манументальнага жывапісу. Адлюстраванне складаецца са шматлікіх рознакаляровых кавалачкаў натуральных камянёў, каляровага шкла, керамічных плітак і іншых цвёрдых матэрыялаў, шчыльна прыгнаных адзін да аднаго і прымацаваных да





асновы (сцяны, столі і г.д.) з дапамогай спецыяльнай мастыкі, цэменту і іншых сувязных рэчываў. Мазаіка, складзеная з дробных, пераважна аднолькавых па памеру часцінак, называецца візантыйскай. У фларэнтыйскай мазаіцы адлюстраванне складаецца з больш вялікіх кавалачкаў, часцей за ўсё натуральных камянёў. Кавалачкі каменя выразаюцца ў адпаведнасці з часткамі рысунка, па якому ствараецца твор, і маюць розную форму і памер.

Мазаікай называецца і асобны твор, выкананы ў гэтай тэхніцы. Важнай якасцю мазаікі з'яўляецца не толькі яе дэкаратыўныя магчымасці, але і тое, што яна не губляе першапачатковай сілы колеру на працягу стагоддзяў.

**МОЛЬБЕРТ / МАЛЬБЕРТ** - спецыяльная падстаўка (драўляная або металічная), дзе мастак у час работы змяшчае палатно, кардон, дошку і інш. на патрэбнай яму вышыні. Існуюць стацыянарныя і пераносныя М.

**МОНОГРАММА / МАНАГРАМА** - асобы род графічнай тэхнікі, звязанай з працэсам друку, але які рэзка адрозніваецца ад любой разнавіднасці гравюры поўнай адсутнасцю механічных або тэхнічных уздзеянняў на паверхню дошкі. Фарбы наносяцца ад рукі на гладкую паверхню з наступным друкаваннем на станку: атрыманы адбітак з'яўляецца адзіным і непаўторным.

**МОНОХРОМИЯ / МАНАХРОМІЯ** - у выяўленчым мастацтве аднакаляровасць; твор, выкананы ў адным тоне якоганебудзь колеру або яго танальных градацыях (афарбаваны ў адзін колер), напр., грызайль.

**МОНУМЕНТ / МАНУМЕНТ** - у скульптуры і архітэктуры, помнік вялікіх памераў у гонар значнай падзеі, выдатнага грамадскага дзеяча. Часта з'яўляецца ідэйнай і аб'ёмна-прасторавай дамінантай арх. ансамбля. Нярэдка будуецца ў выглядзе скульптурна-арх. комплексу (гл. Мемарыяльныя збудаванні, Манументальнае мастацтва).

**МОНУМЕНТАЛЬНОСТЬ / МАНУМЕНТАЛЬНАСЦЬ** - уласцівасць мастацкага вобраза, роднасная эстэтычнай катэгорыі ўзнёслага; грамадска значны змест, выражаны ў велічнай пластычнай форме, прасякнутай гераіка-эпічным пачаткам і пафасам сцвярджэння станоўчага ідэалу. М. можа прысутнічаць у творах розных відаў і жанраў, але найбольш важная для твораў манументальнага мастацтва. М. можа быць уласціва творам станковага мастацтва, якія вылучаюцца глыбокім маст. абагульненнем, простай, велічнай, экспрэсіўнай маст. мовай.

**МОНУМЕНТАЛЬНО-ДЕКОРАТИВНОЕ ИСКУССТВО / МАНУМЕНТАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАЕ МАСТАЦТВА** - тэрмін, які часам ужываецца як сінонім манументальнага мастацтва ці для абазначэння кірунку манументальнага мастацтва, дзе пераважае дэкар. аснова.

**МОНУМЕНТАЛЬНО-ДЕКОРАТИВНАЯ СКУЛЬПТУРА / МАНУМЕНТАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАЯ СКУЛЬПТУРА** - від дэкаратыўнай скульптуры, прызначаны для аздаблення фасадаў і інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, упрыгожвання паркаў, плошчаў, вуліц. Уключае: звязаныя з архітэктурай статуі і рэльефы, якія выконваюць функцыі арх. элементаў (карыятыды, атланты); статуі, фантаны; скульпт. арнаментацыю на будынках, мае ярка выражаны дэкаратыўны характар. Разлічаны на пэўнае арх.-прасторавае асяроддзе, мае на мэце канкрэтызацыю арх. вобраза, узбагачэнне выразнасці арх. форм новымі адценнямі. Як і манументальная скульптура, здольна вырашаць значныя ідэйна-вобразныя задачы. Важны сродак эстэт. выхавання чалавека.

**МОНУМЕНТАЛЬНАЯ ЖИВОПИСЬ / МАНУМЕНТАЛЬНЫ ЖЫВАПІС** - творы жывапісу буйных памераў (пано, размалёўка, мазаіка), звязаныя з архітэктурай і адметныя зместам вялікага грамадскага значэння; від манументальнага мастацтва. Выконваецца ў тэхніках а фрэска, а сэка, сграфіта, энкаўстыкі і інш. Звязаныя з архітэктурай, для якой прызначаны, творы М.ж. валодаюць і самастойным вобразным зместам. Спецыфіка М.ж. вымагае асаблівага ладу маст. форм: якасці і лаканізму кампазіцыі, дакладнасці і абагульненасці малюнка, вял. колеравых плям, асаблівай прадуманасці ракурсаў і перспектывы з улікам успрыняцця з вял. адлегласці. М.ж. шырока выкарыстоўваецца для аздаблення фасадаў і інтэр'ераў грамадскіх будынкаў, вонкавага аздаблення жылых дамоў (што дае падставу называць яго таксама манументальна-дэкаратыўным жывапісам).

**МОНУМЕНТАЛЬНОЕ ИСКУССТВО / МАНУМЕНТАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА** - творы, разлічаныя ў асноўным на масавае ўспрыманне. Сваім мастацкім вырашэннем гэтыя творы заўсёды звязаны з архітэктурнымі збудаваннямі або з умовамі месца, дзе гэты твор размяшчаецца.

Масавасць манументальнага мастацтва вызначае грамадска значны змест яго твораў, які бывае выяўлены ў вялікіх памерах і буйных абагульненых формах. Для кампазіцый у манументальным мастацтве характэрны надзвычайная прастата і выразнасць мастацкай мовы, падкрэсленая выразнасць абрысаў і сілуэтаў, выразнасць пластычных чляненняў і дэкаратыўнасць каляровых плям.

Акрамя самастойнага мастацкага значэння, творы манумэнтальнага мастацтва адыгрываюць і чыста дэкаратыўную ролю.

**МОНУМЕНТАЛЬНАЯ СКУЛЬПТУРА / МАНУМЕНТАЛЬНАЯ СКУЛЬПТУРА** - від скульптуры; манумент, помнік, арх.-скульпт. комплекс, прысвечаны выдатнаму грамадскаму дзеячу або важнай гіст. падзеі. Напоўнена зместам вял. грамадскай значнасці, узнёсласцю вобразнага ладу, пафасам. Вылучаецца вял. памерамі, абагульненасцю пластыкі, маштабнасцю, з'яўляецца арганізуючым элементам арх. або прыроднага асяроддзя. У адрозненне ад манументальна-дэкаратыўнай скульптуры М.с. адносна самастойны маст. вобраз у скульптуры ансамбля, часткай якога з'яўляецца. Разлічаныя на ўспрыманне з вял. адлегласці і доўгачасовае існаванне, творы М.с. мадэлююць вял. масамі з трывалых матэрыялаў (бронза, граніт і інш.).





**МОРФОЛОГИЯ ИСКУССТВА / МАРФАЛОГІЯ МАСТАЦТВА** - раздзел эстэтыкі, які вывучае мастацтва ў яго цэласнасці, аналізуе класіфікацыю яго відаў і жанраў і ўсю сукупнасць узаемаадносін і ўзаемасувязей паміж імі, а таксама іх паходжанне і развіццё. Адрозніваецца ад марфалогіі асобных відаў мастацтва, што даследуе іх унутраную структуру і адносіцца да мастацтвазнаўства. Мае на мэце выяўленне ўсіх істотных узроўняў мастацка-творчай дзейнасці, аналіз каардынацыйных і субардынацыйных сувязей паміж гэтымі ўзроўнямі з мэтай вызначэння законаў унутр. арганізацыі свету мастацтва як сістэмы класаў, сем'яў, родаў, відаў і жанраў; вывучае гэту сістэму генетычна (у працэсе станаўлення), гістарычна (у ходзе пастаянных змяненняў у часе) і прагнастычна (у перспектыве далейшых магчымых мадыфікацый). Асноўная праблема, якую вырашае М.ж. - абгрунтаванне сістэматызацыі асобных відаў мастацтва.

**МОТИВ / МАТЫЎ** - 1) аб'ект натуры, выбраны мастаком для адлюстравання, часцей за ўсё пейзаж. М. - завязка, вызначальны момант каляровага і жывапіснага выражэння карціны, эцюда; 2) у дэкаратыўна-прыкладным маст. - асноўны элемент арнаментальнай кампазіцыі, які можа шматразова паўтарацца.

**МРАМОР / МАРМУР** - у маст., горная парода (камень) - адзін з цвёрдых матэрыялаў для скульптуры і архітэктуры. Выкарыстоўваецца для стварэння круглай скульптуры, рэльефаў, мазаік, абліцоўкі (гал. чынам белы, радзей чорны, каляровы). Добра паддаецца апрацоўцы (шліфоўцы, паліроўцы), у працэсе якой выяўляецца танальнае багацце М., прыгажосць структуры (аднародная, плямістая ці слаістая). Адносная празрыстасць М. выклікае найтанчэйшае пераліванне святла і ценю на паверхні скульптуры.

**МУЗЕИ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ / МУЗЕІ МАСТАЦКІЯ** - навукова-даследчыя і культурна-асветныя ўстановы, якія збіраюць, зберагаюць, вывучаюць і экспануюць зборы твораў мастацтва. Некат. зборы твораў мастацтва наз. карціннымі галерэямі, музеямі выяўленчага маст.

**МУЗЫ / МУЗЫ** - у старажытнагрэчаскай міфалогіі багіні-апякункі розных галін духоўнай

дзейнасці людзей: паэзіі, мастацтва, навук.

**МУЛЯЖ / МУЛЯЖ** - дакладны злепак, зняты з натуры або з якога-небудзь скульпт. твора. Расфарбаваныя васковыя (або з пап'е-машэ) муляжы садавіны, агародніны і іншых прадметаў іншы раз выкарыстоўваюцца ў якасці наглядных дапаможнікаў.

**МУШТАБЕЛЬ / МУШТАБЕЛЬ** - падстаўка ў выглядзе доўгай палкі, якая выкарыстоўваецца жывапісцамі ў працы ў якасці падпоркі для рукі.

**МЫШЛЕНИЕ ХУДОЖЕСТВЕННОЕ / МЫСЛЕННЕ МАСТАЦКАЕ** - від інтэлектуальной дзейнасці, накіраванай на стварэнне і ўспрыманне чалавекам твораў мастацтва, асобая разнавіднасць мыслення, якая адрозніваецца па характару працякання, канчатковых мэтах, сацыяльных функцыях і спосабах уключэння ў грамадскую практыку.

**МЯГКИЙ ЛАК / МЯККІ ЛАК** - разнавіднасць тэхнікі афорта. Малюнак выконваюць цвёрдым алоўкам (або драўлянай палачкай) па тонкай зярністай паперы, пакладзенай на дошку, пакрытую мяккім гравюрным грунтам (сумесь звычайнага афортнага грунту з тлушчам). Ад націску алоўка часцінкі грунту прыліпаюць да паперы адпаведна лініям малюнка, пасля чаго здымаюцца разам з ёю, і такім чынам агаляецца патрэбная для траўлення паверхня, мяккі зярністы штрых, які перадае спецыфіку малюнка алоўкам або вугалем.

## Н

**НАБОЙКА / НАБІВАНКА** - у народным маст.: тканіна з узорам, які адбіваецца з узорнай дошкі. Адзін са старажытных відаў народнага прыкладнога маст. Набіванка выраблялася ўручную, шляхам пастуквання малатком па тканіне, якая накладвалася на дошку. Малюнкі ручной набіванкі ствараліся з геаметрычных элементаў (зоркі, кругі, клеткі) і раслінных, у кампазіцыі якіх іншы раз уключаліся фігуры птушак, жывёл і т.п. З канца 18 ст. Н. выцясняецца машыннай вытворчасцю, але прыгажосць узора, багацце матываў народнай Н. шырока выкарыстоўваюцца мастакамі дэкар.-прыкладнога маст. ў наш час.

**НАБРОСОК / НАКІД** - хуткі рысунак. Трактоўка форм у накідзе звычайна адрозніваецца значнай абагульненасцю, бо яго мэта - даць толькі агульнае ўяўленне аб натуры. Накід часта мае самастойнае значэнче, але могуць быць і падрыхтоўчыя Н. для карціны.

**НАДГРОБИЕ / НАДМАГІЛЛЕ** - арх.-скульптурны твор, які прызначаецца для ўвекавечання памяці нябожчыка і ўстанаўліваецца на яго магіле. Форма і характар Н. абумоўлены сацыяльнымі і рэлігійнымі патрабаваннямі, пануючым маст. стылем. Н. ствараюць у выглядзе





бюстаў, статуй, рэльефаў, стэл, калон, абеліскаў і інш. Вядомы з неаліту ў выглядзе слупоў, менгіраў, у Ст. Грэцыі - статуі, стэлы з выявай памерлага. У эпоху Адраджэння выцеснена грабніцамі. З канца 18 - пач 19 ст. Н. маюць выгляд партрэта памерлага або эмблемы, якая выконвае сімвалічна-мемарыяльную ролю.

**НАИВНОЕ" ИСКУССТВО / "НАЇЎНАЕ" МАСТАЦТВА** - творчасць у галіне выяўленчага маст., якая характарызуецца наіўна-рэалістычным адлюстраваннем рэчаіснасці з выкарыстаннем вобразных сродкаў, адметных ад акадэмічных. "Н".м. як сістэма маст.-вобразнага мыслення ў самадз. выяўл. мастацтве стварыла характэрныя і адносна ўстойлівыя кампазіцыйныя схемы. Рысы яго стылістыкі блізкія да традыцыйнага нар. эстэт. светаўспрыманная. Маст. вобраз складаны, часцей незвычайны, вылучаецца цэласнасцю прадметнага бачання, прастадушным абаяннем, шчырасцю, непасрэднасцю, колеравай дэкаратыўнасцю (у жывапісе), своеасаблівай дзіцячасцю ў інтэрпрэтацыі натуры.

**НАЛИЧНІК / ЛІШТВА** - у арх., накладная, геам. фігурная планка вакол аконнага ці дзвярнога праёма. У драўляным дойлідстве - адзін з элементаў аздаблення знадворнай ч. жылля і грамадскіх пабудоў. Асн. сродкі аздобы: краявая і скразная разьба часам расліннага ці зааморфнага характару, прафіляваныя накладныя элементы, паліхромная афарбоўка.

**НАРОДНОЕ ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО / НАРОДНАЕ ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА** - галіна народнай творчасці, якая ўключае выраб па-мастацку аформленых прылад працы, хатняга начыння, абсталявання, адзення і інш. Найбальш пашыраныя віды: разьба па дрэве, ганчарства, ткацтва, вышыўка, пляценне, размалёўка, коўка мастацкая. Выкарыстоўваюцца танныя шырокадаступныя матэрыялы: дрэва, лён, гліна, воўна, лаза, салома і інш. У аснове Н.д.-п.м. - утылітарнасць, мэтазгоднасць, умелае выкарыстанне дэкар. магчымасцей матэрыялу, прастата кампазіцыі, выразнасць маст. мовы. Дэкор, як правіла, толькі падкрэслівае ўдала прадуманую форму. Характар яго вызначаецца ў першую чаргу асаблівасцямі матэрыялу і тэхналогіі вытворчасці (геам.матывы ў ткацтве, разьба па дрэве, пластычнасць у кераміцы і інш.) Асн. вызначальныя рысы Н.д.-п.м. - традыцыйнасць (перадача з пакалення ў пакаленне формы прадметаў, дэкору, навыкаў апрацоўкі матэрыялаў) і калектыўнасць (масавасць) творчасці. Таму Н.д.-п.м. мае яркі нац. характар, у ім яскрава выяўляюцца самабытныя эстэт. погляды народа. У той жа час развіццё розных народаў у аднолькавых сац.-эканамічных умовах, скарыстанне адных і тых жа матэрыялаў, культ. узаемаўплыву абумоўлі-

ваюць блізкія рысы ў творчасці нар. майстроў суседніх народаў. З Н.д.-п.м. бярэ вытокі прафес. дэкар.-прыкладное мастацтва.

**НАРОДНОЕ ИСКУССТВО / НАРОДНАЕ МАСТАЦТВА** - маст., цесна звязанае з народам, адпавядаючае духу народа, яго культуры, светапогляду.

**НАРОДНЫЕ ХУДЖЕСТВЕННЫЕ ПРОМЫСЛЫ / НАРОДНЫЯ МАСТАЦКІЯ ПРОМЫСЛЫ** - традыцыйныя цэнтры дэкар.-прыкладнога маст, якія гістарычна стварыліся і адрозніваюцца характэрнымі прыёмамі вырабу рэчаў. Напрыклад, промыслы Расіі: хахламскі роспіс па дрэве, валагодскія карункі, дымкаўская цацка, мастацкая лакавая мініяцюра Палеха, Мсцеры і Фядоскіна, гжэльская кераміка; на Беларусі: Слуцкія паясы, Пружанская, Бабруйская, Паразоўская, Крэўская, Капецкая кераміка, Жлобінская ікрустацыя і інш.

**НАСЫЩЕННОСТЬ ЦВЕТА / НАСЫЧАНАСЦЬ КОЛЕРУ** - ступень адрознення храматычнага колеру ад роўнага яму па светлаце ахраматычнага; ступень каляровасці.

**НАТУРА / НАТУРА** - у выяўленчым мастацтве аб'екты рэчаіснаснасці (чалавек, прадметы, ландшафт і да т.п.), якія мастак непасрэдна назірае пры іх адлюстраванні. У выбары натуры і яе інтэрпрэтацыі праяўляюцца светаадчуванне мастака, яго творчая задача. Непасрэдна з натуры выконваюцца эцюды, накіды, замалёўкі, часта - партрэт, пейзаж, нацюрморт.

**НАТУРАЛИЗМ / НАТУРАЛІЗМ** - у выяўл. мастацтве выражаецца ў адрыве ад шырокіх абагульненняў, ад ідэйнасці, ад мэтанакіраванасці і прыводзіць да метаду бяздушнага, чыста знешняга капіравання ўсяго, што знаходзіцца ў полі зроку мастака.

**НАТУРЩИК / НАТУРШЧЫК** - мадэль, якая пазіруе мастаку.

**НАТЮРМОРТ / НАЦЮРМОРТ** - жанр выяўл. мастацтва (гал. чынам станковага жывапісу), які прысвечаны адлюстраванню рэчаў, якія акружаюць чалавека, размешчаных, як правіла, у рэальным бытавым асяроддзі і кампазіцыйна арганізаваных у адзіную групу. Акрамя неадушаўлёных прадметаў у нацюрморце могуць адлюстроўвацца аб'екты жывой прыроды, ізаляваныя ад натуральных сувязяў і тым самым ператтвораныя ў рэч (рыба на стале, кветкі ў вазе і да т.п.)

**НЕЙТРАЛЬНЫЙ ФОН / НЕЙТРАЛЬНЫ ФОН** - гл. Фон.

**НЕОКЛАССИЦЫЗМ / НЕАКЛАСІЦЫЗМ** - маст. з'ява апошняй трэці 19 і 20 ст., якой уласцівы зварот да традыцый антычнага маст. і маст. эпохі Адраджэння. Узнікненне Н. абумоўлена імкненнем проціпаставіць нейкія "вечныя" эстэтычныя каштоўнасці трывожнай і супярэчлівай рэальнасці. Ідэйнаму і фармальнаму строю плыняў, за-





снаваных на пошуках непасрэднай адпаведнасці маст. твора рэчаіснасці, у Н. процістаяць ідэальнасць і велічнасць форм і вобразаў, "ачышчаных" ад канкрэтна - гістарычнага зместу.

**НЕРВЮРА / НЕРВЮРА** - гурт у арх., арка з ачасаных клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, сеткавага, зорчатага і інш. форм скляпення.

**НИША / НІША** - заглыбленне ў сцяне.

**НЮАНС / НЮАНС** - вельмі тонкае адценне або вельмі тонкі пераход ад святла да ценю і да т.п. Гл. Адценне.

# О

**ОБЛАСТЬ СПЕКТРА** (видимая) / **ВОБЛАСЦЬ СПЕКТРА** (бачная) - бачныя каляровыя адценні ад чырвонага да фіялетавага. Ва ўказаным інтэрвале даўжынь хваль умоўна адрозніваюцца сем колераў - чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны, блакітны, сіні, фіялетавы.

**ОБОБЩЕНИЕ / АБАГУЛЬНЕННЕ** - адзін з працэсаў пазнання, які заключаецца ў мысленным вылучэнні і аб'яднанні агульных істотных рыс прадметаў і з'яў рэчаіснасці. У вучэбнай пазнаваўчай дзейнасці А. здзяйсняецца ў адзінстве з іншымі працэсамі - аналізам, сінтэзам, абстракцыяй, параўнаннем.

У выяўл мастацтве, акрамя таго А. - гэта аб'яднанне дэталей у буйныя формы шляхам нанясення агульнага тона (алоўкам у рысунку або фарбамі ў жывапісе), вызначаючага каларыт карціны. Абагульняюць, звычайна, другарадныя месцы, фон. Супрацьлегласць А. - дэталізацыя здзяйсняецца ў адлюстраванні галоўных месц. А. у рысунку робіцца шырокімі штрыхамі або змякчэннем выразнасці лёгкім падціраннем гумкай усіх другарадных месц. А. у акварэлі робіцца размыўкай або пакрыццём адным колерам, які наносіцца па сухому і прыглушае каляровы строй другарадных месцаў.

**ОБРАЗ ХУДОЖЕСТВЕННЫЙ / ВОБРАЗ МАСТАЦКІ** - уласцівая мастацтву форма адлюстравання рэчаіснасці і выяўлення пэўных адносін да адлюстроўваемага, думак і пачуццяў аўтара. Вобраз у маст. праз форму канкрэтнага, асобнага выяўляе вынік пазнання істотнага, агульнага. В. утрымлівае адзінства індывідуальнага і тыпічнага, сутнасць якога ў тым, што агульнае падаецца праз адзінкавае. Паняццем вобраза карыстаюцца ўсе віды маст. У выяўл. мастацтве В. з'яўляецца пачуццёва-канкрэтным, наглядным выяўленнем ідэі.

**ОБЪЕМ / АБ'ЁМ** - адлюстраванне трохмернасці формы на плоскасці. Здзяйсняецца правільнай канструктыўнай і перспектыўнай пабудовай прадмета. Іншымі важнымі сродкамі перадачы А. на плоскасці з'яўляюцца градацыі святлоцені, выяўленыя

колерам: блік, святло, паўцень, цень асабісты і падаючы, рэфлекс.

**ОЖИВКА / АЖЫЎКА** - у сучасным гарадзецкім роспісу - завяршаючы этап працы над кветкавым узорам. Зрабіць ажыўку - значыць зрабіць больш выразным кожны элемент узора, выкарыстоўваючы цёмную фарбу або бялілы. Пэндзлем прапісваюцца контуры пялёсткаў, пражылкі лістоў, падкрэсліваецца рытм тычынак. З гэтай мэтай у роспісе выкарыстоўваюцца ўмоўныя прыёмы нанясення дэкар. элементаў (напрыклад, дужкі, кропкі і г.д.)

**ОКАНТОВКА / АКАНТОЎКА** - палоска паперы (каленкор, скура, дэрманцін і да т.п.), якой аклейваюць малюнкі, карткі, табліцы і да т. п. па краях для трываласці.

**ОРЕОЛ / АРЭОЛ** - святлавы шлях (кайма) падобны на ззянне вакол ярка асветленага прадмета, а таксама на фатаграфічным здымку такога прадмета; А.- з'ява ірадыяцыі (гл.), якая ўзнікае у выніку рассейвання яркага святла ў празрыстай вадкасці вочнага яблыка. Арэол вакол цел, якія свецяцца або моцна асветленых прадметаў, характ. больш пэўным колерам, чым сама крыніца святла. Напрыклад, контуры дрэў на фоне заходзячага сонца здаюцца расплаўленымі, акутанымі аранжава - жоўтым колерам, тады як слепячы колер сонца амаль што не ўспрымаецца. Крыніцы святла (зоркі, агні ў пейзажы, вогнішчы і да т.п.) перадаюцца ў жывапісе з арэолам, без якога іх адлюстраванні становяцца не больш чым жорсткімі выразнымі кроплямі фарбаў на фоне неба або іншых прадметаў.

**ОРДЕР АРХИТЕКТУРНЫЙ / ОРДЭР АРХІТЭКТУРНЫ** - пэўнае спалучэнне нясучых і нясёных частак стоечна-бэлечнай канструкцыі, іх структура і маст.- апрацоўка. Абавязковыя састаўныя часткі О.: нясучыя - калона (аздобленая канелюрамі) з капітэллю і базай (у дарычным О. без базы), часам- з п'едэсталам; нясёныя - антаблемент, які складаецца з архітрава, фрыза і карніза. Асаблівасці кожнага О. - у прапорцыях, прарысоўцы абломаў і формах капітэлі. Змена суадносін паміж нясучымі і нясёнымі часткамі О. надае яму і збудаванню ў цэлым разнастайныя маштабнасць і характар (напр., лаканічнасць і мужнасць - дарычны О., лёгкасць і вытанчанасць - карынфскі і іанічны О.). Класічная сістэмы О. склалася ў Ст. Грэцыі; асн. О. атрымалі назву ад плямён і абласцей: дарычны ордэр, іанічны ордэр. Разавіднасць дарычнага О. - тасканскі ордэр, карынфскага і іанічнага - кампазітны ордэр.

**ОРИГИНАЛ / АРЫГІНАЛ** - тое, што паслужыла прадметам узнаўлення, капіравання. 1) у выяўленчым мастацтве - твор, які ўяўляе сабой творчае стварэнне мастака; 2) любы твор мастацтва, з якога зроблена копія.

**ОРНАМЕНТ / АРНАМЕНТ** - узор, пабудаваны на рытмічным





чаргаванні і спалучэнні выяўленчых элементаў, прызначаны для аздаблення прадметаў. Арнамент выконваецца сродкамі рысунка, жывапісу, скульптуры і г.д. у залежнасці ад матэрыялу (тканіна, дрэва, метал, камень і інш.). Арнамент выкарыстоўваецца ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, у архітэктуры, кніжнай графіцы. Адрозніваюць арнамент раслінны, геаметрычны (гл.), жывёльны (гл.). А., які паўтараецца ў паласе, называецца фрызам, бардзюрам. А., які запаўняе ўсю паверхню суцэльным узорам, называецца сетчатым. Работа над арнаментам вядзецца з улікам прызначэння прадмета, яго формы і матэрыялу. А. адлюстроўвае стыль (гл) эпохі, пэўнага народу і г.д.

**ОСВЕЩЕНИЕ ОТРАЖЕННЫМ СВЕТОМ / АСВЯТЛЕННЕ АДБІТЫМ СВЯТЛОМ** - у жывапісе на пленэры: асвятленне за кошт рэфлексаў (напрыклад, рэфлексы ад неба, зямлі, вады, снегу, светлых прадметаў і г. д.).

**ОСВЕЩЕНИЕ ПРЯМЫМ СВЕТОМ / АСВЯТЛЕННЕ ПРАМЫМ СВЯТЛОМ** - у жывапісе: непасрэднае асвятленне паверхні сонечным або штучным святлом.

**ОСНОВА / АСНОВА** - у жывапісе, малюнку - матэрыял, паверхня, па якой пішуць фарбамі або малююць. Асновай можа служыць палатно, драўляная дошка, кардон, папера, паверхня сцяны, шкло, фарфор і г.д. Аснова павінна быць спецыяльна падрыхтавана, па-рознаму для розных відаў жывапісу і малюнка: акварэлі, тэмперы, фрэскі і інш.

**ОСНОВНЫЕ СВОЙСТВА ЦВЕТОВ / АСНОЎНЫЯ ЎЛАСЦІВАСЦІ КОЛЕРАЎ** - светлата, каляровы тон і насычанасць.

**ОСНОВНЫЕ ЦВЕТА / АСНОЎНЫЯ КОЛЕРЫ** - тры колеры (кінаварна-чырвоны, ізумрудна-зялёны, ультрамарынавасіні), якія пры аптычным зрушэнні даюць найбольш насычаныя колеры ўсіх астатніх каляровых тонаў.

**ОТМЫВКА / АДМЫЎКА** - 1) акварэльная тэхніка з выкарыстаннем вельмі вадкай фарбы альбо тушы; 2) прыём асвятлення фарбы або выдаленне яе з паперы пры дапамозе пэндзля, змочанага ў чыстай вадзе, і збор адмочанай фарбы прамакальнай паперай.

**ОТНОШЕНИЯ / АДНОСІНЫ** - узаемасувязь элементаў адлюстравання, якая існуе ў натуры і якая выкарыстоўваецца пры стварэнні твора. Напр., адносіны колеру і адценняў (у жывапісе), тонаў рознай светлаты (танальныя адносіны ў рысунку), адносіны памераў і форм прадметаў (прапорцыі), прасторавыя адносіны і г.д. Адносіны, якія перадаюцца ў творах мастацтва, вызначаюцца метадам параўнання.

**ОТТЕНОК / АДЦЕННЕ** - 1) змяненне колеру натуры пад уздзеяннем акружаючага асяроддзя; 2) невялікае адрозненне ў фарбах па светласіле, насыча-

насці, каляроваму тону; 3) адрозненне ў якім-небудзь колеры пры яго пераходзе ад халоднага да цёплага і наадварот.

**ОФОРТ / АФОРТ** - 1) спосаб гравіравання, пры якім заглыбленыя элементы даюць адбітак, атрымліваецца шляхам шматразовага траўлення азотнай кіслатой; папярэдне медную або цынкавую пласціну пакрываюць ахоўным грунтам, па якім прадрапваюць штрыхі адлюстравання; 2) адбітак з дошкі, гравіраванай такім чынам.

**ОХРА / ВОХРА** - прыродныя мінеральныя фарбы, якія бываюць ад розных адценняў жоўтага колеру да чырвонага, уяўляюць сабой гліны моцна абагачаныя (да 15-20 % і больш) гідратамі вокіслаў жалеза-ліманітам, гецытам і інш.; важны мінеральны фарбавальнік.

**ОЩУЩЕНИЕ ЗРИТЕЛЬНОЕ / АДЧУВАННЕ ЗРОКАВАЕ** - вынік узаемадзеяння праменнай энергіі з органам зроку і ўспрыманне гэтага ўзаемадзеяння свядомасцю. У выніку чалавек атрымлівае разнастайнае адчуванне святла і колеру, багатыя каляровыя градацыі, якія характарызуюць форму прадметаў і з`яў прыроды ў разнастайных умовах асвятлення, асяроддзя і прасторы.

## П

**ПАЛИТРА / ПАЛІТРА** - 1) тонкая дошчачка або пласцінка з пластыка, на якой мастак раскладвае і змешвае фарбы; 2) характар каляровых спалучэнняў, тыпічных для дадзенай карціны, для твораў данага майстра або школы.

**ПАМЯТНИК ИСКУССТВА / ПОМНІК МАСТАЦТВА** - мастацкі твор, які ўяўляе інтарэс для гісторыі мастацтва.

**ПАННО / ПАНО** - твор дэкаратыўнага характару. Яно прызначаецца для пэўнага і пастаяннага месца ў інтэр`еры або на фасадзе пабудовы. Цесная сувязь з архітэктурай збліжае пано з манументальным жывапісам. Але ў адрозненне ад апошняга пано пішацца на палатне, прымацаваным да падрамніка падобна звычайнай станковай карціне. Пано можа быць і ў выглядзе скульптуры (рэльеф, барэльеф). Пано можа ўяўляць сабой роспіс на палатне, адлюстраванні на метале, дрэве, шкле, маёліцы і інш.

**ПАНОРАМА / ПАНАРАМА** - 1) жывапіснае палатно ў выглядзе замкнутай кругавой ленты. Перад жывапісным адлюстраваннем на палатне размяшчаюць разнастайныя рэальныя і бутафорскія прадметы, якія ствараюць ілюзію нспасрэднага пераходу рэальнай прасторы пярэдняга плану ў жывапісную прастору карціны. Панарама размяшчаецца ў спецыяльна пабудаванай для яе карціннай зале з цэнтральнай пляцоўкай для агляду. Звычайна П. адлюстроўвае буйныя падзеі (пераважна ваенныя), якія адбываюцца на вял. прасторы з вял. колькасцю ўдзельнікаў. У адрозненне ад дыярамы ахоплівае ўвесь гарызонт; 2) пейзажны матыў, у якім прастора (навакольнае асяроддзе) адлюстравана праз выкарыстанне мастаком вельмі шырокага пункту агляду. Тэрмін ужываецца ў дачыненні да натуры і да яе адлюстравання.





**ПАПЬЕ-МАШЕ / ПАП`Е-МАШЭ** - жаваная папера, валакністая маса, выробленая з папяровай або кардоннай макулатуры, звычайна з дабаўленнем напаўняючых і клеючых рэчываў: гіпса, клея, крахмала. З пап`е-машэ вырабляюць разнастайныя дробныя прадметы побыту і нярэдка ўпрыгожваюць жывапісам.

Для вырабу прадметаў з пап`е-машэ падрыхтоўваюць спачатку форму з гіпса, дрэва, метала і да т.п., у якую ўціскаюць мяккую паперавую масу. Апошняя пасля высыхання і зацвярдзення падвяргаецца адпаведнай апрацоўцы, лакіроўцы.

**ПАРСУНА / ПАРСУНА** - (скажэнне слова "персона" ад лац. persona, асоба, твар), умоўная назва твораў рускага, беларускага, украінскага партрэтнага жывапісу канца 16-17 ст.; П. - пераходны этап ад іканапісу да свецкага партрэта.

**ПАСПАРТУ / ПАСПАРТУ** - кардонная рамка для рысункаў, фатаграфічных картак.

**ПОСТАМЕНТ / ПАСТАМЕНТ** - тое, што і п`едэстал.

**ПАСТЕЛЬ / ПАСТЭЛЬ** - каляровыя алоўкі без аправы, выробленыя з каляровага парашковага фарбавальніка, змешанага з клеячым рэчывам (вішнёвы клей, дэкстрын, жэлацін, казеін). Працуюць пастэллю на паперы, кардоне або палатне. Фарбы наносяць штрыхамі, як у рысунку, або ўціраюць пальцамі з растушоўкай, што дазваляе дасягнуць вельмі тонкіх нюансаў і далікатных пераходаў колераў, матавай аксамітнай паверхні. Творы, выкананыя пастэллю, таксама як і вугалем, звычайна фіксуюць (замацоўваюць) спец. растворам.

**ПАСТОЗНОСТЬ / ПАСТОЗНАСЦЬ** - прыём жывапіснага пісьма, калі фарба наносіцца густымі рельефнымі мазкамі. Выкарыстоўваецца ў алейным і тэмперным жывапісе.

**ПИГМЕНТЫ / ПІГМЕНТЫ** - каляровыя парашкі, што ўваходзяць як састаўная частка ва ўсе віды фарбаў і вызначаюць іх колеравыя якасці. Бываюць арганічныя і неарганічныя, якія ў сваю чаргу падзяляюцца на натуральныя (вохра, мел, сурык і інш.) і штучныя (сажа, ультрамарын, бялілы і інш.). Да пігментаў адносяць таксама арганічныя лакі.

**ПИЛЯСТРА / ПІЛЯСТРА** - плоскі вертыкальны выступ на паверхні сцяны, які паўтарае ўсе элементы і прапорцыі калоны прынятага архітэктурнага ордэра.

**ПЕЙЗАЖ / ПЕЙЗАЖ** - краявід, адлюстраванне якой-небудзь мясцовасці; у жывапісе і графіцы жанр і асобны твор, у якім асноўны прадмет адлюстравання - прырода.

**ПЕРЕДВИЖНИКИ / ПЕРАСОЎНІКІ** - мастакі-рэалісты, якія ўваходзілі ў расійскае дэмакр. аб'яднанне - Таварыства перасоўных маст. выставак (1870-1923). Створанае па ініцыятыве І.Крамскога, Р.Мясаедава, М.Ге, В.Пятрова ў працэсе барацьбы перадавых маст. сіл краіны за дэмакр. маст. супраць акадэмізму, яно аб'ядноўвала найбольш таленавітых мастакоў. У розны час у яго ўваходзілі (акрамя ініцыятараў): І.Рэпін, В.Сурыкаў, У.Макоўскі, А. і В.Васняцовы, І.Шышкін, І.Прашнікаў, А.Саўрасаў, К.Савіцкі, А.Куінджы, В.Паленаў, М.Ярашэнка, І.Левітан, В.Сяроў, А.Архіпаў, М.Касаткін, В.Бялыніцкі-Біруля, С.Жукоўскі і інш.

П. кіраваліся метадам крытычнага рэалізму. Яны праўдзіва, з дэмакр. пазіцый паказвалі жыццё і гісторыю народа, прыроду роднай краіны, услаўлялі веліч, сілу, мудрасць і прыгажосць людзей працы. Прасякнутыя гуманізмам творы П. часта выкрывалі прыгнятальнікаў працоўных, асуджалі самадзяржаўе, увасаблялі ідэі барацьбы нар. мас за сац. і нац. вызваленне. Карцінам П. характэрны глыбокі псіхалагізм, вял. сіла сацыяльнага абуджэння, высокае майстэрства тыпізацыі, паказ грамадскіх класаў і саслоўяў праз асобныя вобразы і сюжэты. Вядучымі жанрамі ў маст. П. былі бытавы партрэт, што давала магчымасць найбольш поўна паказаць жыццё народа, ствараць вобразы перадавых людзей, сцвярджаць дэмакр. ідэалы; развіваліся таксама гіст. жанр і пейзаж.

**ПЕРСПЕКТИВА / ПЕРСПЕКТЫВА** - 1) прасторавае змяненне адлюстроўваемых велічынь і колеру прадметаў на плоскасці ў залежнасці ад іх аддаленасці ад зін ад аднаго і ад пярэдняга плана ніжняга края работы; 2) спосаб пабудовы мастаком прасторы на плоскасці.

**ПЛАСТИЧНОСТЬ / ПЛАСТЫЧНАСЦЬ** - у творах розных відаў маст.; асаблівая прыгажосць, цэласнасць, тонкасць і выразнасць мадэліроўкі і каляровага вырашэння формы, багацце каляровых і танальных пераходаў, а таксама гарманічная ўзаемасувязь і выразнасць мас, форм, іх ліній і сілуэтаў у кампазіцыі.

**ПЛАФОН / ПЛАФОН** - у маст., столь, упрыгожаная жывапісам ці лепкай; твор манументальна-дэкаратыўнага маст., які аздабляе перакрыцце (плоскае, скляпеністае ці купальнае) якога-небудзь памяшкання. Выконваецца непасрэдна па тынку (Фрэска або размалёўка алейнымі, клеявымі і інш. фарбамі), на прымацаваным да столі палатне, мазаікай і інш. спосабамі.

**ПЛЕНЭР / ПЛЕНЭР** - праца на адкрытым паветры ў натуральных умовах, а не ў сценах майстэрні. Тэрмін П. звычайна выкарыстоўваецца адносна да пейзажу, а таксама для абазначэння твораў любога рода жывапісу, якія адрозніваюцца разнастайнасцю і складанасцю каляровых і





танальных адносін і якія добра перадаюць светла-паветранае асяроддзе.

**ПЛАКАТ / ПЛАКАТ** - разнавіднасць графікі, рысунак з кароткім тэкстам, вывешваецца на вуліцы або ў гарадскіх установах у агітацыйных, інфармацыйных або рэкламных мэтах.

**ПЛАКЕТКА / ПЛАКЕТКА** - 1) твор медальернага маст., які адрозніваецца ад звычайнага медаля прамавугольнай або блізкай да яе формай; паводле зместу шырэйшая за медаль, можа мець разгорнуты сюжэт, што набліжае яе да скульптуры. Бываюць керамічныя, металічныя, фарфоравыя, шкляныя і інш. Памеры П. паводле правіл Міжнароднай федэрацыі медальераў не павінны быць даўжэй за 180 мм па большаму боку. Бел. скульптары, керамісты, медальеры, мастакі па шкле ствараюць П., прысвечаныя выдатным дзеячам бел. літ. і маст., значным падзеям у гісторыі бел. народа, помнікам бел. архітэктуры і інш. 2) Пласцінка (металічная, керамічная і інш.) з рэльефнай выявай, прызначаная для ўпрыгожвання мэблі, хатняга начынання і інш.

**ПЛАНЫ ПРОСТРАНСТВЕННЫЕ / ПЛАНЫ ПРАСТОРАВЫЯ** - 1) пры назіранні натуры ўмоўна раздзеленыя часткі прасторы, якія знаходзяцца на рознай адлегласці ад назіральніка; 2) часткі карціны, розныя па ступені адлегласці ў глыбіню адлюстроўваемай у ёй прасторы. Звычайна адрозніваюць некалькі планаў: першы, другі, трэці або пярэдні, сярэдні, дальні. Іх колькасць можа быць рознай і залежыць ад аб'екта, які адлюстроўваюць, і ад творчай задумы.

**ПЛАСТИКА / ПЛАСТЫКА** - 1) мастацтва лепкі форм у скульптуры, рысунку і жывапісе; 2) у шырокім сэнсе - выразнасць жывапісных прыёмаў, артыстычнасць, свабода і лёгкасць у рабоце пэндзлем у жывапісе; 3) выразнасць формы ў скульптуры і ў геаграфічных і жывапісных адлюстраваннях.

**ПЛАСТИЛИН / ПЛАСТЫЛІН** - матэрыял для лепкі. Вырабляецца з ачышчанай, здробненай у парашок гліны з дамешкам воску, цэрэзіну, вазеліну і інш. рэчываў, што перашкаджаюць высыханню, а таксама фарбавальных рэчываў. У залежнасці ад тэмпературы П. набывае розную ступень мяккасці, што дае магчымасць скульптару працаваць з ім праз любы прамежак часу. У П. выконваюць невялікія мадэлі, эскізы, радзей творы скульптуры малых форм.

**ПОДЛИННИК / АРЫГІНАЛ** - у выяўл. маст. аўтэнтычны мастацкі твор, у адрозненне ад копіі з яго, рэпрадукцыі або падробкі.

**ПОДМАЛЕВОК / ПАДМАЛЁЎКА** - адна з першапачатковых стадый працы над карцінай, галоўным чынам у алейным шматслойным жывапісе. Але папярэднія падмалёўкі могуць рабіцца і пры працы ў іншых відах жывапіснай тэхнікі. П. - першая пракладка фарбовачнага слоя, у

якой мастак знаходзіць абагульненае каляровае вырашэнне карціны або дае мадэліроўку форм прадметаў светлаценем. Пры гэтым у залежнасці ад пастаўленай задачы П. можа быць каляровай, або манахромнай, аднатоннай, а таксама напісанай тонкім фарбовачным слоем або параўнальна пастозна.

**ПОДРАМНИК / ПАДРАМНІК**- прызначэнне - трымаць палатно, на якім мастак піша карціну. Нацягнуты стан палатна забяспечваецца не трывалым замацаваннем драўляных палак. Пры глухім мацаванні вуглоў падрамніка цяжка выправіць правісанне ад вільгаці. На рэйках падрамніка робяць скосы, накіраваныя ва ўнутр П.

**ПОЛОТНО / ПАЛАТНО** - твор жывапісу ў цэлым.

**ПОЛУТЕНЬ / ПАЎЦЕНЬ** - у жывапісе і графіцы, адзін са сродкаў мадэліроўкі аб'ёмнай формы, які ахоплівае светлаценявыя градацыі сярэдняй моцы, што адпавядаюць пераходу ад асветленых частак прадмета да зацененых; адзін з асн. элементаў светлаценю.

**ПОЛУТОН / ПАЎТОН** - тон пераходны паміж двума суседнімі малакантраснымі тонамі ў асветленай частцы прадмета. У творах маст., сродак выразнасці і цэласнасці маст. вобраза. Выкарыстанне П. садзейнічае большай тонкасці мадэліроўкі форм, большай мяккасці пераходаў тона ў тон.

**ПОРТАЛ / ПАРТАЛ** - арх. абрамленне дзвярнога праёма (пераважна ў манументальных, грамадскіх, культавых і інш. будынках).

**ПОРТИК / ПОРЦІК** - навес, які падтрымліваецца каланадай; адкрытая многакалонная галерэя, якая прымыкае да будынка.

**ПОРТРЕТ / ПАРТРЭТ** - жанр выяўл. мастацтва, а таксама твор, прысвечаны адлюстраванню пэўнага чалавека або некалькіх людзей (парны, групавы партрэт і г.д.)

**ПОСТИМПРЕССИОНИЗМ / ПОСТІМПРЭСІЯНІЗМ** - агульная назва плыней у жывапісе канца 19 - пач. 20 ст., што ўзніклі ў Францыі як рэакцыя на імпрэсіянізм. Успрыняўшы ад імпрэсіянізму чысціню і гучнасць колеру, постімпрэсіяністы адкрылі новыя формы і прынцыпы маст. адлюстравання. Эмпірычная сутнасць творчага метаду, самакаштоўнасць першага і непаўторнага ўражання ў творах імпрэсіянізму змяняецца ў П. пошукам устойлівых станаў натуры і вызначаных законаў яе маст. асваення (П. Сезан), экспрэсіўнай усхваляванасці вобразаў, дынамікі жывапіснага ладу (В.Ван Гог), вобразнай гармоніі, ураўнаважанасці дэкар. лініі і колеру (П. Гаген), рацыянальнай пабудовы карціны на аснове фіз. уласцівасцей колеру (П.Сіньяк). Перыяду П. характэрны актыўны ўзаемаўплыў кірункаў (неаімпрэсіянізм, сімвалізм, пуантылізм і інш.) і індывід. творчых сістэм. Праблематыка творчасці вядучых





майстроў П. - Сезана, Ван Гога, Гогена, А. дэ Тулуз Латрэка - дала пачатак гісторыі выяўл. мастацтва XX ст.

**ПОСУДА ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / ПОСУД МАСТАЦКІ** - утылітарныя і дэкаратыўныя керамічныя, шкляныя, металічныя, драўляныя і інш. вырабы, разнастайныя формы якіх маюць эмацыянальна-вобразную аснову. Вырабляюць у тэхніцы ліцця, разьбы, кавання, лепкі, штампоўкі і інш., аздабляюць размалёўкай, гравіраваннем, чаканкай, чарненнем, эмалямі і інш. Як і інш. творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, П.м. - эстэтычна прывабныя прадметы побыту, якія ствараюць колерава-пластычныя акцэнты ў інтэр'еры. У вобразным ладзе П.м. выяўляецца яго непасрэднае прызначэнне і эстэт. ўяўленні эпохі. Асн. мастацкі прынцып П.м. - арганічнае спалучэнне дэкар. утылітарных функцый, цесная ўзаемасувязь формы і дэкору.

**ПРАВДА ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / ПРАЎДА МАСТАЦКАЯ** - ісціна ў мастацтве, праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці ў вобразах мастацкіх; выяўленне духоўнай каштоўнасці з'яў прыроды, грамадства і асабістага жыцця чалавека з пазіцый прагрэсіўнага светапогляду ў святле перадавых ідэалаў эстэтычных.

П.м. суадносіцца з ісцінай у філасофіі і навуцы, дабром у сістэме маральных ацэнак грамадскіх узаемаадносін. Спецыфічным метадам спасціжэння П.м. служыць тыпізацыя (адбор і маст. абагульненне найб. характэрных, эстэтычна значымых з'яў і працэсаў) у адзінстве з індывідуалізацыяй і маст. ідэалізацыяй (выяўленне дасканалых вобразаў у іх супастаўленні з рэальнасцю). У або - двух выпадках маст. думка рэалізуецца праз пачуццёва-канкрэтныя вобразы, якія ацэньваюцца ў сістэмэ эстэт. катэгорый прыгожага і агіднага, узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага. П.м., што з'яўляецца асновай зместу маст. твораў і крытэрыем іх каштоўнасці эстэтычнай, выяўляе таксама індывід. асаблівасці мастака, духоўную значымасць творчай асобы. Адсюль непаўторнасць увасобленай у маст. вобразах П.м., яе сталае значэнне ў гісторыі маст. культуры. Важная характарыстыка П.м. - арганічнае адзінства аб'ектыўнай ісціны, і яе асабістай ацэнкі, мыслення і пачуцця, выразнасць думкі і канкрэтна-прадметнага вобраза, лагічнага аналізу і творчай выдумкі. Яна па-свойму глыбока выявілася ў таленавітых творах гуманіст. мастацтва на ўсіх этапах яго гіст. развіцця, асабліва ў рэаліст. літаратуры і выяўл. маст.

У гісторыі бел. маст. культуры П.м. набыла значэнне нар. грамадска-паліт. маральна-эстэт. ідэалу, вобразнага ўвасаблення ісціны, дабра, справядлівасці і красы.

**ПРЕДСТАВЛЕНИЕ / УЯЎЛЕННЕ** - (у псіхалогіі) нагляндны вобраз прадмета або з'явы (падзеі), які ўзнік на аснове

мінулага вопыту (дадзеных адчуванняў і ўспрыманняў) шляхам узнаўлення ў памяці.

**ПРЕКРАСНОЕ / ПРЫГОЖАЕ** - асноўная катэгорыя эстэтыкі для вызначэння станоўчых па зместу і дасканалых па форме з'яў прыроды, грамадскага быцця і мастацтва, якія адпавядаюць сацыяльна абумоўленым эстэтычным ідэалам народа, нацыі, грамадства і яго асобных класаў. У якасці каштоўнасці эстэтычнай уключае ў аб'ект станоўчай ацэнкі, апрача эстэт. аб'ектаў рэальнасці і мастацтва, таксама ісціну і дабро, але адрозніваецца ад тэарэт. і маральных каштоўнасцей пачуццёвай выяўленасцю, злучанасцю з вобразнай формай. Суадносіцца з узнёслым і трагічным, камічным; процілеглае агіднаму, нізкаму. У рэалістычным мастацтве П. з'яўляецца ідэалам, з якім суадносіцца і мерай якога ацэньваецца адлюстраваная ў вобразах рэальнасць.

**ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО / ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА** - асобы від мастацтва, задачай якога з'яўляецца стварэнне прадметаў побыту, ужытку і да т.п., якія адначасова з'яўляюцца і мастацкімі творамі.

**ПРОБЕЛА / ПРАБЕЛА** - асобы спосаб перадачы аб'ёма прадмета з дапамогай ідучага па форме мазка бялілаў.

**ПРОБЕЛКА / ПРАБЕЛКА** - у старажытным жывапісе, тэхнічны прыём выканання светлых частак выявы; нанясенне фарбы ў некалькі прыёмаў з паступовым павелічэннем колькасці бялілаў. Завяршалася, як правіла, светлымі штрыхамі. У шырокім сэнсе П. уключае вохранне.

**ПРОМЫШЛЕННАЯ ГРАФИКА / ПРАМЫСЛОВАЯ ГРАФІКА** - від прыкладной графікі, якая абслугоўвае сферу вытворчасці і збыту прамысловай прадукцыі (таварныя ярлыкі, этыкеткі, фірменныя знакі, упакоўка, выдавецкія маркі; рэкламныя выданні - буклеты, каталогі, праспекты і інш.) (і сферу кіравання вытворчасці) (дзелавыя паперы - бланкі, канверты і інш.). Па сваіх задачах цесна сутыкаецца з рэкламай, нярэдка з'яўляецца яе часткай. У творах П.г. аднолькава важную ролю адыгрываюць шрыфт, арнамент, маляваныя (пераважна сімвалічнага характару) і фатаграфічныя выявы, колеравае і паліграф. вырашэнне.

**ПРОПИЛОВКА / ПРАПІЛОЎКА** - тэхніка стварэння ажурнага скразнога ўзору на дошках для аздаблення архітэктурных збудаванняў; від разьбы архітэктурнай. На дошку ад рукі ці па шаблону наносяць малюнак, з якога лучковай пілой з вузкім палатном (лобзікам) выдаляюць адпаведныя ўчасткі фону. У наш час П. бытуе амаль усюды і з'яўляецца адным з самых пашыраных відаў сучаснага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Ёю аздабляюць ліштвы акон, франтоны, вільчакі, вуглы, веранды, ганкі, вароты, брамы.





**ПРОПИСКИ / ПРАПІСКІ** - у тэхніцы алейнага жывапісу, этап выканання буйнога палатна, што ідзе за падмалёўкай і папярэднічае лесіроўцы. Колькасць П. можа быць рознай, але кожная з іх завяршаецца поўным высыханнем фарбаў. У шырокім і недакладным сэнсе П. наз. часам падмалёўку, а таксама любую прапрацоўку ўжо закончанай карціны або яе дэталі, у т.л. неаўтарскія панаўленні.

**ПРОПОРЦИЯ / ПРАПОРЦЫЯ** - мера частак, суадносіны памераў частак адна да адной і да цэлага. У выяўленчым мастацтве прапорцыі разнастайныя. Мастак мае справу з рознымі відамі прапорцыі. Яны вызначаюць не толькі пабудову форм фігур і прадметаў, але і кампазіцыйную пабудову твора. Да яе адносяць пошук адпаведнага фармата плоскасці ліста, адносіны памераў выяў да фона, суадносіны мас, груп іровак, форм адзін да аднаго і г.д.

**ПРОРИСЬ / ПРОРЫСЬ** - у старажытным жывапісе, контурны малюнак на паперы, які быў для жывапісца ўзорам або матэрыялам пры кампаноўцы абраза, насценнай размалёўкі, мініяцюры. П. магла быць малюнкам ад рукі (нават цалкам самастойнай кампазіцыяй), а таксама механічнай копіяй з жывапіснага арыгінала або з інш. П.

**ПРОСТРАНСТВЕННЫЕ ИСКУССТВА / ПРАСТОРАВЫЯ МАСТАЦТВЫ** - гл. Изобразительные искусства.

**ПРОФИЛЬ / ПРОФІЛЬ** - у адлюстраванні чалавека: бакавое становішча галавы або фігуры ў цэлым.

**ПСИХОЛОГИЯ ХУДОЖЕСТВЕННОГО ТВОРЧЕСТВА / ПСІХАЛОГІЯ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ** - раздзел агульнай псіхалогіі, які вывучае усе віды дзейнасці чалавека, звязаныя з стварэннем твораў мастацтва і іх ўспрымання.

**ПУТТИ / ПУЦЦІ** - выявы маленькіх хлопчыкаў (часам крылатых). Улюбёны дэкар. матыў у мастацтве Адраджэння, а таксама 17-18 ст., П., якія спалучалі рысы антычных эротаў і хрысціянскіх анёлаў, сведчылі пра зацвярджэнне ў мастацтве пачуццёвага, свецкага пачатку.

**ПЬЕДЕСТАЛ / П'ЕДЭСТАЛ** - пастамент, па-мастацкаму афармленая аснова, на якой устанаўліваецца твор скульптуры (статуя, група, бюст) або ваза, калона, абеліск і г.д. П. могуць мець розныя формы - геаметрычна правільныя (звычайна з выкарыстаннем арх. ордэрных элементаў, нярэдка ўпрыгожаных скульпт. рэльефам) або адвольныя (напр., П. у выглядзе натуральнага, неапрацаванага каменя).

## Р

**РАЗБАВИТЕЛИ / РАЗБАВІЦЕЛІ** - для акварэльных і гуашавых фарбаў адзіны разбавіцель - вада. Для разбаўлення алейных фарбаў выкарыстоў-

ваюцца саставы шкіпінарнага паходжання або прадукты перапрацоўкі нафты ў сумесі са спіртам або льняным алеем.

**РАКУРС / РАКУРС** - перспектыўнае скарачэнне жывых і прадметных форм, значна змяняючае іх знешні выгляд. Ракурс абумоўлены пунктам погляду на натуру (ад зверху, знізу, на блізкай адлегласці і да т.п.), а таксама становішчам натуры ў прасторы.

**РАМА / РАМА** - абрамленне для карціны, створанай мастаком. Яна завяршае кампазіцыю, надае ёй адзінства, накіроўвае ўвагу гледача на сам твор. Рама з'яўляецца істотнай часткай жывапіснай кампазіцыі, афарбоўваецца ў светлыя і цёмныя колеры розных адценняў. Існуюць рамы з багатымі пластычнымі матывамі, арнаментам умоўнага расліннага або геаметрычнага зместу.

**РАПОРТ / РАПОРТ** - частка ўзора, якая паўтарасцца ў мастацкім афармленні шпалер, керамікі, тканін і інш. У рапорт уключаюць як просты элемент (напрыклад, хвалепадобная лінія), так і складаны, састаўлены з некалькіх элементаў (арнаментальная жыццёвая сцэна).

**РЕАЛИЗМ / РЭАЛІЗМ** - у літаратуры і мастацтве, праўдзівае адлюстраванне рэчаіснасці спецыфічнымі сродкамі, уласцівымі розным відам мастацтва. Мера рэалістычнасці маст. твора вызначаецца мерай пранікнення ў рэальнасць, глыбінёй і паўнатой яе маст. пазнання.

У выяўленчых мастацтвах Р. пры ўсёй разнастайнасці нац. і стыліст. варыянтаў мае агульныя прыкметы: канкрэтная дакладнасць ва ўзнаўленні рэчаіснасці, уважлівае даследаванне навакольнага свету ва ўсёй яго разнастайнасці, сцвярджэнне эстэт. каштоўнасці штодзённага жыцця, сац. накіраванасць (адкрытая або схаваная ў падтэксце твора), што выражаецца ў аналізе грамадскіх з'яў і сацыяльна-абумоўленага чалавечага характару, трактоўка рэчаіснасці як часавага патоку, праўда мастацкага вобраза.

**РЕЗЦОВАЯ ГРАВЮРА / РАЗЦОВАЯ ГРАВЮРА** - старажытная тэхнічная разнавіднасць гравюры па метале, у якой паглыбленыя элементы друкарскай формы ствараюцца з дапамогай вострага разца (штыхеля). Р.г. уласцівы строгая рытмічнасць ліній, выразная пластычнасць выявы, разнастайнасць святлоценявых пераходаў.

**РЕЗЬБА АРХИТЕКТУРНАЯ / РАЗЬБА АРХІТЭКТУРНАЯ** - арнаментальная ці сюжэтная кампазіцыя, выкананая спосабам мастацкай апрацоўкі пераважна дрэва, якая ўжываецца для дэкору будынкаў і збудаванняў; від дэкар.-прыкладнога мастацтва. Р.а. ўпрыгожвае фасады і інтэр'еры будынкаў, надае ім маст. каштоўнасць, робіць выразнымі. Вытанчанай святлоценявой мадэліроўкай узбагачае пластыку фасадаў, узмацняе іх рытмічную будову, кантрастна вылучае найб. значныя элементы кампазіцыі, падкрэслівае архітэктоніку будынкаў і збудаванняў.





**РЕЗЬБА ПО ДЕРЕВУ / РАЗЬБА ПА ДРЭВЕ** - спосаб маст. апрацоўкі дрэва з дапамогай спецыяльных інструментаў (нажы-разцы, стамескі, сякера, свердзел і інш.); від разьбы мастацкай.

**РЕЗЬБА ПО КОСТИ / РАЗЬБА ПА КОСЦІ** - спосаб маст. апрацоўкі косці з дапамогай сякеры, нажа, пілы, свердла; від разьбы маст.

**РЕЗЬБА ПО СТЕКЛУ / РАЗЬБА ПА ШКЛЕ** - старадаўняя тэхніка маст. апрацоўкі шкла з дапамогай разца ці штыхеля.

**РЕЗЬБА ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / РАЗЬБА МАСТАЦКАЯ** - спосаб маст. апрацоўкі дрэва, косці, каменю і інш. цвёрдых матэрыялаў шляхам выразання арнаментальных ці сюжэтных кампазіцый; від дэкар.-прыкладнога мастацтва. Р.м. аздабляюць прадметы побыту (мэблю, хатняе начынне), будынкі (гл. Разьба арх.), тэхніку Р.м. выкарыстоўваюць у стварэнні скульптуры. На Беларусі пашырана некалькі відаў Р.м. Контурная разьба выконваецца заглыбленымі лініямі па гладкім фоне, блізкая да гравіравання; выемчатая разьба (пераважна трохгранна-выемчатая) ствараецца тэхнікай контррэльефу, утварае ўзор, заглыблены ў гладкі фон; рэльефная разьба мае заглыблены фон і ўзнятыя формы выявы - нізка-рэльефныя (барэльеф) ці высокарэльефныя (гарэльеф); скразная разьба не мае фону і ўяўляе сабою ажурную кампазіцыю (у залежнасці ад размяшчэння ўзору ў адной ці некалькіх плоскасцях адрозніваюць плоска-ажурную і аб'ёмна-ажурную Р.м.); аб'ёмная разьба стварае трохвымерную выяву, звычайна скульптуру малых форм (гл. таксама Драўляная скульптура).

**РЕЛЬЕФ / РЭЛЬЕФ** - у мастацтве, скульптурная выява на плоскасці, якая з'яўляецца яе асновай і фонам; від скульптуры. У адрозненне ад круглай скульптуры мае два вымярэнні, што не дае магчымасці аглядаць яе з усіх бакоў. Паводле адносін да плоскасці фону вылучаюць паглыблены Р. (гл., напр., контррэльеф) і пукаты Р. - барэльеф і гарэльеф. Р. можа ўключацца ў кампазіцыю сцяны, скляпення, скульптурнага помніка і інш., быць самастойным станковым творам. Рэльефныя выявы шырока выкарыстоўваюцца ў медалях, мемарыяльных дошках, пячатках, плакетках, гемах.

**РЕЛЬЕФНОЕ ИЗОБРАЖЕНИЕ / РЭЛЬЕФНАЕ АДЛЮСТРАВАННЕ** - энергічная лепка аб'ёмнай формы тонам або колерам.

**РЕНЕССАНС / РЭНЕСАНС** - (Адраджэнне), эпоха ў развіцці шэрагу краін Зах. і Цэнтр. Еўропы, пераходная ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Гл. Адраджэнне.

**РЕПЛИКА / РЭПЛІКА** - 1) у тэатры - элемент сцэнічнага дыялога: фраза ў адказ на словы

партнёра; апошняя фраза (або яе частка) персанажа, за якой ідзе тэкст інш. дзейнай асобы; 2) у выяўл. маст.- аўтарская копія маст. твора, якая адрозніваецца ад яго памерамі і часам дробнымі дэталямі. Можа быць выканана інш. мастаком пад наглядам аўтара.

**РЕПРОДУКЦИЯ / РЭПРАДУКЦЫЯ** - (узнаўленне) - у выкарыстанні да выяўленчага маст. масавае ўзнаўленне маст. арыгінала паліграфічнымі сродкамі, пераважна ў паменшаным маштабе.

**РЕСТАВРАЦИЯ / РЭСТАЎРАЦЫЯ** - у арх. і маст, умацаванне і аднаўленне разбураных, пашкоджаных або скажоных помнікаў гісторыі і культуры (арх. збудаванняў, твораў выяўл. і дэкар.-прыкладнога мастацтва, археал. знаходак і інш) для выяўлення іх гіст. і маст. каштоўнасці, падаўжэння іх веку і ўключэння ў сучаснае жыццё. Састаўная частка аховы помнікаў гісторыі і культуры.

**РЕФЛЕКС / РЭФЛЕКС** - 1) у жывапісе - адценне колеру больш моцна асветленага прадмета на паверхні, суседняй з ім. Каляровыя рэфлексы ўзнікаюць у выніку адлюстравання промняў святла ад акружаючых прадметаў; 2) у рысунку - адлюстраванне святла ад паверхні аднаго прадмета ў заціненай частцы другога.

**РИСУНОК / РЫСУНАК** - якое-небудзь адлюстраванне, выкананае ад рукі з дапамогай графічных сродкаў - контурнай лініі, штрыха,плямы, разнастайнымі спалучэннямі гэтых сродкаў у рысунку дасягаюцца пластычныя мадэліроўкі, танальныя і светлаценявыя эфекты. Р., як правіла, выконваецца адным колерам або з больш, або менш арганічным спалучэннем розных колераў.

**РИТМ / РЫТМ** - адна з асаблівасцей кампазіцыйнай пабудовы твора. Працейшы від рытма ўяўляе сабой раўнамернае чаргаванне або паўтор якіх - небудзь частак (прадметаў, форм, элементаў узора, колеру і г.д.); часцей за ўсё праяўляецца ў манументальным, дэкаратыўна-прыкладным мастацтве і архітэктуры. У творах жывапісу, графікі, скульптуры праяўленне рытма бывае больш складаным. Тут ён часта садзейнічае стварэнню пэўнага настрою ў карціне, дзякуючы яму дасягаецца большая цэласнасць і сугучнасць частак кампазіцыі і ўзмацняецца яе ўздзеянне на гледача. Рытм нярэдка праяўляецца ў варыянтах жэстаў, рухаў і кампазіцыйных груповак фігур, у паўторах і варыянтах светлавых і каляровых плям, а таксама ў чаргаванні пры размяшчэнні ў прасторы больш вялікіх частак адлюстравання, якія з'яўляюцца значнымі элементамі кампазіцыі.

**РОЗЕТКА / РАЗЕТКА** - у архітэктуры і мастацтве, арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай распушчанай кветкі (напр., ружы). Р. з старажытнасці шырока выкарыстоўваецца





ў арх. дэкоры і ў дэкар.-прыкладным мастацтве.

**РОКОКО / РАКАКО** - ракайль, стыль, які развіўся ў еўрап. пластычных мастацтвах і архітэктуры І-ай паловы 18 ст. Стыль Р. характарызуецца незвычайнай вытанчанасцю сродкаў, маст. выразнасці, імкненнем да стварэння ўражання лёгкасці і прывабнасці. У пластычных мастацтвах стыль Р. ўплываў на характар дэкору, які набыў падкрэслена мудрагелісты і ўскладнены характар. Р. характарызуецца выкарыстаннем складаных разных і ляпных узораў завіткоў і інш.; у аддзелцы памяшканняў важную ролю сталі адыгрываць рэльефы і жывапісныя пано ў вытанчаных абрамленнях, шматлікія люстэркі і інш. У архітэктуры стылю Р. ўласціва візуальнае разбурэнне буд. канструкцый, наданне ім раслінных форм, ілюзорнае пашырэнне рэальнай прасторы з дапамогай вял. колькасці люстэркаў, залачэння, хрусталю. Быў у асноўным сістэмай дэкору інтэр'ераў, афармленне якіх спалучалася з адносна строгім вонкавым абліччам збудавання.

**РОМАНСКИЙ СТИЛЬ / РАМАНСКІ СТЫЛЬ** - стыль сярэдневяковага еўрапейскага маст. 10-13 ст. Тэрмін узнік у 1820-я гады. Склаўся пад уплылам феад.-рэліг. ідэалогіі, увабраў у сябе элементы стараж.—рымскага і візантыйскага мастацтваў. Вызначальная роля належала суровай, крапаснога характару архітэктуры (замкі, манастырскія комплексы, цэрквы, гар. дамы), тэктанічнай сістэме якой уласцівы сукупнасць набліжаных адзін да аднаго аб'ёмаў рознай вышыні, канструкцыйна аб'яднаных узаемазвязанасцю апор і перакрыццяў і ўраўнаважаных вежай-ліхтаром ці купалам над сяродкрыжжам. Збудаванні вызначаліся манументальнасцю, масіўнасцю канструкцый, аздабляліся абстрактна-геам. арнаментам і скульптурай на тымпанах парталаў, капітэлях апор. У скульптуры, фрэсках Р.с. пераважалі дагматычнасць, скаваны арнаментальна-плоскасны характар кампазіцыі, умоўная трактоўка фігур у спалучэнні з павышанай экспрэсіяй.

**РОМАНТИЗМ / РАМАНТЫЗМ** - ідэйна-мастацкі кірунак у духоўным жыцці, літаратуры і мастацтве Еўропы і Амерыкі ў канцы 18 - 1-й пал. 19 ст.

У Р. сутыкнуліся супярэчлівыя адносіны да традыцый і сучаснасці, да перажыткаў феад. іерархічнасці і асветніцкага рацыяналізму, да рэв. бунтарства і панылай празаічнасці бурж. ладу жыцця. Канфлікт паміж мінулым і сучасным, праблема ломкі старога і захавання пераемнасці як умовы гарманічнага развіцця грамадства - чал. перыпетыі і антыномы рамант. свядомасці.

У выяўленчым маст. Р. з'явіўся пад. моцным уплывам перадавога зах.-еўрап. мастацтва (Т. Жэрыко, Э. Дэлакруа). Творам рамантыкаў уласцівы дынамізм кампазіцыі, аб'яднанне форм бурлівым рухам, выкары-

станне насычанага каларыту, кантрастаў колеру і святла,бліскучая і лёгкая манера пісьма. Асаблівасці праяўлення Р. на Беларусі ў тым, што мастакі не парывалі канчаткова з вобразнымі і фармальнымі прынцыпамі класіцызму, спрабавалі напоўніць іх новым светаадчуваннем, пазбавіць творы халоднай стрыманасці і традыц. умоўнасці, характэрных позняму класіцызму.

У архітэктуры Р. выступаў у апазіцыі да тэорыі і практыкі класіцызму, не пагаджаючыся з нязменнасцю яго кананічнай сістэмы і абвяшчаючы творчую свабоду дойліда. Адна з характэрных рыс - пошукі новых форм праз асваенне гіст. стыляў. Р. выявіўся ў захапленні арх. архаікай, экзотыкай, гіст. і нац, матэрыялам, а таксама ў паглыбленні ў сімвалізм і дэкаратыўнасць. Упершыню на тэр. Беларусі Р. паявіўся ў канцы 18 ст. у садова-паркавым мастацтве. Паркі ўпрыгожваліся штучнымі руінамі, гротамі, невял. збудаваннямі у выглядзе гатычных сабораў і замкаў, пахавальнямі і памятнымі плітамі, абеліскамі, імітацыямі сельскіх пабудоў, брамамі. Рамантычны кірунак у арх. Беларусі выявіўся пераважна ў формах несапраўднай готыкі. Гэты кірунак асабліва быў пашыраны ў каталіцкіх культавых будынках, т. зв. цаглянай архітэктуры. У архітэктуры рамантычных палацаў трапляюцца кампрамісныя вырашэнні: класіцыстычная планіровачная структура і псеўдагатычная трактоўка аб'ёму, а таксама рэнесансавыя рэмінісцэнцыі. Інтэр'еры збудаванняў афармляліся таксама шматстылёва. Залы замкаў і палацаў аздабляліся ў антычным, гатычным і інш. стылях. Іх выяўленчы бок шырока трактаваў гіст. тэматыку, грэч. міфалогію, алегорыю, сімволіку. У рэтраспектыўных арх. формах вырашалася і такое абсталяванне інтэр'ера, як кафельныя печы, мэбля, прадметы дэкар.-прыкладнога мастацтва.

**РОСПИСЬ / РАЗМАЛЁЎКА** - у прыкладным маст. сюжэтныя і арнаментальныя адлюстраванні, якія наносяцца на прадметы пэндзлем або замяняючым яго інструментам (напрыклад, аэрографам.)

**РОСПИСЬ ПО ДЕРЕВУ / РАЗМАЛЁЎКА ПА ДРЭВЕ** - арнаментальная ці сюжэтная кампазіцыя ў інтэр'ерах або на прадметах побыту, створаныя сродкамі жывапісу; від дэкар.-прыклад. маст.

**РОСПИСЬ ПО КЕРАМИКЕ / РАЗМАЛЁЎКА ПА КЕРАМІЦЫ** - дэкарыраванне посуду, архітэктурна-дэкаратыўнай і дэкаратыўнай керамікі ангобамі, глазурамі, эмалямі, пігментамі, люстрам, вокісламі і солямі металаў.

**РОСПИСЬ ПО СТЕКЛУ / РАЗМАЛЁЎКА ПА ШКЛЕ** - 1) тэхніка аздаблення шкляных вырабаў (посуду, вітражоў, пацерак і інш.) сілікатнымі і алейнымі фарбамі, глухімі (непразрыстымі) і празрыстымі (транспарантнымі) эмалямі, золатам; від дэкар.-прыкладнога мастацтва; 2) від народных маст. промыслаў.





**РОСПИСЬ ПО ХОЛСТУ / РАЗМАЛЁЎКА ПА ПАЛАТНЕ** - арнаментальная ці сюжэтная кампазіцыя, выкананая сродкамі жывапісу; від дэкар.-прыкладнога мастацтва.

**РОТОНДА / РАТОНДА** - круглае ў плане цэнтрычнае збудаванне звычайна з размешчанымі па перыметры калонамі, завершанае купалам.

**РУСТ/ РУСТ** - спосаб - апрацоўкі каменю або імітаванага пад камень абліцовачнага матэрыялу, пры якім кожны камень ці яго імітацыя вылучаюцца перыметральным кантам рознай формы. У залежнасці ад спосабу апрацоўкі выпуклай паверхні каменнага блока, абліцовачнай пліты або іх імітацыі ў тынкоўцы Р. бывае гладкі або фактурны. Выкарыстоўваецца для рустыкі сцен будынкаў і збудаванняў.

**РУСТИКА / РУСТЫКА** - у арх., рэльефная муроўка ці дэкаратыўная абліцоўка сцен будынка каменем з груба абколатай ці выпуклай вонкавай паверхняй (гл. Руст). Выпукласць каменю можа мець розную форму (найб. пашырана пірамідальная). Р. ажыўляе сцяну багатым зіхаценнем святлаценю, стварае ўражанне моцы, масіўнасці будынка. Пры аддзелцы фасада тынкоўкай Р. імітуецца разбіўкай сцяны на прамавугольнікі або палосы.

# С

**САМОДЕЯТЕЛЬНОЕ ИЗОБРАЗИТЕЛЬНОЕ И ДЕКОРАТИВНО-ПРИКЛАДНОЕ ИСКУССТВО / САМАДЗЕЙНАЕ ВЫЯЎЛЕНЧАЕ І ДЭКАРАТЫЎНА-ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА** - аматарская творчасць народных мас у галіне жывапісу, скульптуры, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Займае важнае месца ў духоўным развіцці грамадства як структурны элемент маст. культуры; эфектыўная форма культ.-асв. работы і эстэт. выхавання працоўных, фарміравання гарманічна развітой асобы. Існуе ў арганізаваных (студыі, клубы, гурткі пры Палацах і Дамах культуры, навучальных установах і інш.) і неарганізаваных формах.

**САНГИНА / САНГІНА** - матэрыял для рысавання ў выглядзе чырванавата-карычневага колеру. Тэхніка выканання ў сангіне падобна алоўкавай: наносяць штрыхі, якія можна расціраць, падціраць гумкай. Сангіну іншы раз спалучаюць з вугалем і крэйдай.

**САРКОФАГ / САРКАФАГ** - архітэктурна і па-мастацку афармленая труна з дрэва, каменю, металу і інш.

**САТИРА / САТЫРА** - від камічнага; спосаб мастацкага адлюстравання, заснаваны на выкрыцці адмоўных з'яў жыцця і заган асобных людзей шляхам іх бязлітаснага высмейвання. Адмаўляючы негатыўнае, яна

сцвярджае пэўныя пазітыўныя сацыяльныя , эстэтычныя і маральныя ідэалы, заўсёды звязана з перадавой грамадскай думкай свайго часу. Уласціва розным відам мастацтва, але найб. пашырана ў літаратуры.

У выяўленчым мастацтве найбольш развіты сатырычны жанр - карыкатура, у якой важную ролю адыгрывае тэкст.

**СВЕТ / СВЯТЛО** - у выяўленчым мастацтве: элемент святлаценю. Як у натуры, так і ў творах мастацтва тэрмін служыць для абазначэння найбольш асветленых частак паверхні.

**СВЕТЛОТА / СВЕТЛАТА** - параўнальная ступень адрознення ад цёмнага: чым далей ад цёмнага, тым большую светлату мае колер.

**СВЕТОСИЛА / СВЯТЛАСІЛА** - тэрмін, які мае адносіны да святлаценю. У жывапісе - ступень насычанасці колеру святлом, параўнальная ступень светлаты колеру ў адносінах да суседніх каляровых тонаў. У графіцы - ступень светлаты аднаго тона у адносінах да іншага, які знаходзіцца побач з ім.

**СВЕТЛОЦЕНЬ / СВЯТЛАЦЕНЬ** - градацыі светлага і цёмнага, суадносіны святла і ценю па форме. Святлацень з'яўляецца адным са сродкаў кампазіцыйнай пабудовы і выяўлення задумы твора. Дзякуючы святлаценю ўспрымаюцца зрокава і перадаюцца ў творы пластычныя асаблівасці натуры. У натуры характар святлаценю залежыць ад асаблівасцей формы і матэрыяла прадмета. У творах мастацтва святлацень падпарадкоўваецца агульнаму танальнаму вырашэнню. Градацыі святлаценю: святло, цень, паўцень, рэфлекс, блік.

**СВОД / СКЛЯПЕННЕ** - у архітэктуры: перакрыцце, якое паступова змыкаецца ўверсе. Сустракаюцца цыліндрычныя, крыжовыя, каробкавыя скляпенні.

**СВЯЗУЮЩЕЕ ВЕЩЕСТВО / СУВЯЗНАЕ РЭЧЫВА** - вяжучае рэчыва (клей, алей, жаўток курынага яйка), з дапамогай якога часцінкі пігменту злучаюцца паміж сабой і замацоўваюцца на паверхні грунта, ствараючы фарбовачны слой. Віды жывапісу - фрэска, алейны жывапіс, тэмпера - адрозніваюцца менавіта саставам сувязнога рэчыва, хаця пігмент, як правіла, адзін і той жа.

**СГРАФФИТО / СГРАФІТА**, графіта - разнавіднасць манументальна-дэкаратыўнага жывапісу, заснаваная на выдрапванні верхняга слоя тынкоўкі да ніжніх кантрастных па колеру слаёў. Вызначаецца трываласцю і ўстойлівасцю да атмасферных змен, таму выкарыстоўваецца пераважна для аздаблення фасадаў будынкаў.

**СЕАНС / СЕАНС** - прамежак часу, неабходны для якой-небудзь справы (напрыклад, пазіравання). Мастак можа напісаць эцюд за адзін сеанс прыёмам "ала-прыма", але на завяршэнне працы можа спатрэбіцца два, тры і больш сеансаў.





**СИЛУЭТ / СІЛУЭТ** - ценявы профіль, абрыс прадмета, аднакаляровае плоскаснае адлюстраванне прадмета або чалавека (цёмнае на светлым фоне, светлае на цёмным), нарысаванае або выразанае з паперы або іншага матэрыялу.

Сілуэт - гэта агульныя абрысы фігуры або прадмета ў натуры.

**СИМВОЛ / СІМВАЛ** - умоўнае абазначэнне, знак якога-небудзь прадмета, з'явы, ідэі (напр., белы голуб - сімвал міру).

**СИММЕТРИЯ / СІМЕТРЫЯ** - такая будова прадмета або кампазіцыі твора, пры якім аднародныя часткі размяшчаюцца на аднолькавай адлегласці ад цэнтральнай восі любога аб'екта, які займае цэнтральнае становішча ў адносінах да іх. Падобная кампазіцыя часцей за ўсё сустракаецца ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Парушэнне сіметрычнай будовы ў аб'ектаў, якім уласціва наяўнасць сіметрыі, называецца асіметрыяй.

**СИНТЕЗ ИСКУССТВ / СІНТЭЗ МАСТАЦТВАЎ** - спалучэнне розных мастацтваў ці відаў мастацтва ў адзінае маст. цэлае, якое эстэтычна арганізуе матэрыяльнае і духоўнае асяроддзе чалавека. У выніку С.м. узнікае якасна новае ўтварэнне, якое не зводзіцца да простай сумы кампанентаў. Іх ідэйнае, вобразнае, кампазіцыйнае адзінства, удзел у маст. арганізацыі прасторы і часу, узгодненасць маштабаў, прапорцый, рытму спараджаюць у творы якасці, здольныя надаваць яму шматпланавасць, шматграннасць развіцця ідэі, living разнабакова і эмацыянальна насычана ўплываць на чалавека, актывізаваць яго ўспрыманне. С.м. увасабляе цэласную карціну свету ў адзінстве грамадскіх і эстэтычных ідэалаў часу, іх матэрыяльнага ўвасаблення, адпаведных пэўнаму ўзроўню маст. культуры грамадства. Гэта вызначае вял. сацыяльна-выхаваўчую ролю С.м. у маст. культуры пытанні С.м. звязваюцца з праблемамі эстэтызацыі навакольнага асяроддзя, унясення ў жыццё мастацкага пачатку, гарманічнага развіцця чалавека, стварэння дасканалага грамадства.

У пластычных мастацтвах у выніку арганічнага спалучэння архітэктуры, манум. скульптуры і жывапісу, дэкар.-прыкладнога мастацтва, дзе кожны з кампанентаў мае ўласную маст. значнасць, узнікае новае маст. цэлае, якое мае на мэце задавальненне матэрыяльных і духоўных запатрабаванняў чалавека, стымуляванне яго духоўнага росту. С.м. выступае тут як аснова стварэння цэласнага асяроддзя жыццядзейнасці чалавека і суадносіцца з агульным узроўнем маст. культуры і прадметнай дзейнасці грамадства.

**СКЛАДЕНЬ / СКЛАДЗЕНЬ** - складны абраз з дзвюх (дыпціх), трох (трыпціх) ці болей (паліпціх) частак-створак. Пачатковае прызначэнне. С. - мініяцюрны

паходны алтарык для асабістага карыстання. Трапляюцца С. драўляныя (разныя, паліхромныя), металічныя з простым і фігурным завяршэннем і выявай на адным ці двух баках..

**СКУЛЬПТУРА / СКУЛЬПТУРА** - ваянне, пластыка. Адзін з відаў прасторавых мастацтваў, які абдымае вельмі разнастайныя як па матэрыялу, так і па тэхніцы выканання раздзелы, але заўсёды прапаноўваючы трохвымернае (аб'ёмнае) матэрыяльнае афармленне рэчы. Асн. разнавіднасці С. - круглая скульптура (статуя, група, торс, бюст, статуэтка і інш.), рэльеф барэльеф, гарэльеф, контррэльеф, паглыблены рэльеф).

У круглай скульптуры прадмет апрацоўваецца з усіх бакоў раўнамерна, у рэльефе плоская паверхня прадмета пакрываецца больш або менш выступаючымі або заглыбленымі вывамі або арнаментам.

Асн. жанры С. - партрэт, гістарычны, бытавы, анімалістычны, алегарычныя выявы. Аб'ёмная скульпт. форма будуецца ў рэальнай прасторы па законах гармоніі, рытму, раўнавагі, узаемадзеяння з навакольным прыродным або арх. асяроддзем і на аснове нагледжаных у прыродзе структурных асаблівасцей мадэлі. Гал. выразныя сродкі С.: пастаноўка фігуры ў прасторы, перадача яе руху, позы, жэсты, святлоценявая мадэліроўка, што ўзмацняе рэльефнасць формы, архітэктанічная арганізацыя аб'ёму і зрокавы эфект яго масы, выбар прапорцый, спецыфічны ў кожным асобным выпадку характар сілуэта, фактура матэрыялу. Паводле зместу і функцый адрозніваюць манументальную скульптуру (помнік, манумент, мемарыяльныя збудаванні), мемарыяльна-дэкаратыўную скульптуру, станковую скульптуру. Апошняя непасрэдна не звязана з архітэктурнай, мае блізкія да натуры памеры. Станковая скульптура ўключае скульптуру малых форм, да якой таксама належаць мадэлі, макеты, гемы. Скульптурныя выявы пашыраны ў мемарыяльных дошках.

Матэрыялам скульптуры з'яўляюцца: 1) мяккія рэчывы - гліна, воск, пластылін і г.д., якія апрацоўваюцца шляхам нарошчвання або ўбаўлення аб'ёма; 2) цвёрдыя дрэва, камень, якія апрацоўваюцца шляхам зняцця некаторых частак; 3) зацвердзяваючыя вадкія рэчывы (расплаўленая бронза, гіпс, бетон і да т.п.), адліваемыя па выраблених мастаком мадэлях і затым зацвердзяваючыя; 4) металы, якія апрацоўваюцца ў халодным выглядзе коўкай (чаканкай, паліроўкай і г. д.).

Тэхніка скульптуры разнастайная ў залежнасці ад матэрыяла.

**СКУЛЬПТУРА ЛЕСНАЯ / СКУЛЬПТУРА ЛЯСНАЯ** - назва твораў станковай і манументальна-дэкаратыўнай пластыкі, якія атрымліваюцца ў выніку нязначнай дапрацоўкі прыродных форм дрэва (карані, пні,





галінкі, кара, часткі сцвалоў і інш.); від самадзейнай дэкар.-прыкладной творчасці, Асаблівае значэнне ў стварэнні С.л. мае здольнасць майстра ўбачыць заключаны ў прыроднай форме вобраз і завяршыць яго адпаведнай дапрацоўкай.

**СКУЛЬПТУРА МАЛЫХ ФОРМ / СКУЛЬПТУРА МАЛЫХ ФОРМ** - дробная пластыка, прызначаная для жылога інтэр'ера; разнавіднасць скульптуры. Мае шмат агульнага з дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам. Да С.м.ф. належаць таксама манеты і медалі (гл. таксама Медальернае мастацтва), гемы. Вырабляецца з косці, дрэва, металу, шкла, фарфору, фаянсу, пластмасы і інш. Творы С.м.ф. удзельнічаюць у стварэнні пэўнага эстэтычна-эмацыянальнага асяроддзя, вызначаюцца выразнасцю кампазіцыйных вырашэнняў, эмацыянальнай даходлівасцю, выяўленнем пластычных і дэкар. магчымасцей матэрыялу.

**СКУЛЬПТУРА ПРИДОРОЖНАЯ / СКУЛЬПТУРА ПРЫДАРОЖНАЯ** - традыцыйны для бел. манументальнага мастацтва жанр; спалучае элементы скульптуры і малых форм у архітэктуры. С.П. рэлігійнага і мемарыяльнага характару вядома здаўна ў многіх краінах (слупы са скульптурамі ў стараж. Індыі, скульптуры багоў і герояў у Ст. Грэцыі). Хрысціянізацыя прывяла да вял. пашырэння прыдарожных крыжоў і каплічак у Еўропе, у т. л. на ўсходне-славянскіх землях.

Сучасная С.п. - творы манум. скульптуры, прысвечаныя героям і выдатным дзеячам дзяржавы, важным падзеям у жыцці краіны, а таксама сімвалічныя манум.-дэкар. кампазіцыі, якія пазначаюць межы горада, раёна, вобласці і надаюць уездам у іх урачысты характар і інш. У афармленні выкарыстоўваюцца элементы старых гербаў гарадоў, новая геральдыка.

**СЛАЙД / СЛАЙД** - тое ж самае, што і дыяпазітыў.

**СМАЛЬТА / СМАЛЬТА** - каляровае непразрыстае (глухое) шкло ў выглядзе кубікаў ці пласцінак, якое выкарыстоўваецца для стварэння мазаік. Бывае жылістая і плямістая (спалучэнне ў адным кавалку С. некалькіх адценняў), залатая і сярэбраная (запрасоўванне паміж асн. і пакрыўнымі слаямі адпаведнай фольгі).

**СОДЕРЖАНИЕ И ФОРМА В ИСКУССТВЕ / ЗМЕСТ І ФОРМА Ў МАСТАЦТВЕ** - непарыўна звязаныя і ўзаемаабумоўленыя катэгорыі, адна з якіх указвае на тое, што менавіта адлюстравана і выяўлена ў творы (змест) а другая - на тое, як і якімі сродкамі гэта дасягнута (форма) Вядучая вызначаючая роля належыць зместу.

Тая або іншая з'ява жыцця, будучы ўсвядомленай і эстэтычна асэнсаванай мастаком у плане яго агульнага светапогляду, у працэсе творчай працы ста-

новіцца зместам мастацтва. Да катэгорыі мастацкай формы ў выяўл. мастацтве адносяць: распрацоўку сюжэта, кампазіцыі, тыпаж, рысунак, каляровы строй, аб`ём, прасторавасць, святлоценявую пабудову.

**СОЛОМКА ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / САЛОМКА МАСТАЦКАЯ** - назва плеценых мастацкіх вырабаў з саломы; від народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**СОУС / СОУС** - у графіцы: 1) матэрыял для малявання ў выглядзе палачак з дробнага мяккага парашку чорнага колеру з невялікімі дамешкамі клейкіх рэчываў; 2) тэхніка малявання, пры якой парашкападобны С. наносяць на паперу тампонам (анучкаю) або кароткай палачкай з конусападобным канцом (растушоўка). Часам дэталі прапрацоўваюць італьянскім алоўкам. Існуе таксама тэхніка выканання малюнка пэндзлем, растворам С. у вадзе (мокры С.), што не патрабуе наступнага замацавання фіксатывамі.

**СРАВНЕНИЕ / ПАРАЎНАННЕ** - метад вызначэння прапорцый, танальных і каляровых суадносін і інш. Уласцівасці і якасці пазнаюцца нашай свядомасцю шляхам параўнання, Зразумець характар формы прадмета, вызначыць яго тон і колер можна ў параўнанні яго з іншымі прадметамі. Толькі метадам параўнання пры цэласным успрыманні натуры можна вызначыць каляровыя адносіны паміж прадметамі, перадаць іх на палатне або паперы. Каб адлюстраваць натуру праўдзіва, мастак павінен стварыць на эцюдзе прапарцыянальныя натуры адрозненні прадметаў па памерах, тону і колеру.

**СТАНКОВОЕ ИСКУССТВО / СТАНКОВАЕ МАСТАЦТВА** - назва паходзіць ад станка, на якім ствараюцца творы (станок у скульптара, мальберт у жывапісца). Творы станковага маст. заўсёды маюць самастойнае значэнне. Іх ідэйна-мастацкія асаблівасці не залежаць ад акружэння, у якім яны знаходзяцца. У адрозненне ад твораў манументальнага і дэкар.-прыкладнога мастацтва, яны не прызначаны для пэўнага месца ў памяшканні, у прасторы або для дэкаратыўных мэтаў. У сувязі з гэтым пры іх стварэнні выкарыстоўваюцца некалькі іншыя маст. сродкі. Напрыклад, даецца больш тонкая і грунтоўная перадача каляровых і танальных адносін, больш складаная і падрабязна распрацаваная псіхалагічная характарыстыка персанажаў.

**СТАТИЧНОСТЬ/ СТАТЫЧНАСЦЬ** - у процілегласць дынамічнасці (гл.) стан пакоя, нерухомасць. С. можа адпавядаць задуме вобразнага вырашэння твора. Але іншы раз С. выклікана няўменнем мастака перадаць рух.

**СТАТУЯ / СТАТУЯ** - скульптурная выява чалавека ў рост (радзей жывёлы, фантаст. істоты), пастаўленая на пастамент; від круглай скульптуры. Звычайна мае памеры, блізкія да





натуральных або больш за іх; бывае вялізных памераў (калос), маленькіх - для ўпрыгожвання інтэр`ераў (статуэтка);

**СТАФФАЖ / СТАФАЖ** - сюжэтна нязначныя адлюстраванні людзей або жывёлін у пейзажнай кампазіцыі.

**СТЕКА / СТЭКА** - драўляны, касцяны, металічны разец, які выкарыстоўвае скульптар для апрацоўкі паверхні скульптуры.

**СТЕКЛО ХУДОЖЕСТВЕННОЕ / ШКЛО МАСТАЦКАЕ** - вырабы дэкаратыўнага і прыкладнога прызначэння - вітражы, смальтавыя мазаікі, маст. посуд, арх. дэталі, дэкар. кампазіцыі, дробная пластыка, свяцільні, біжутэрыя і інш; галіна дэк.-прыкл. мастацтва.

**СТЕЛА / СТЭЛА** - надмагільны помнік або мемарыяльны знак у выглядзе вертыкальна стаячай пліты або слупа.

**СТИЛИЗАЦИЯ / СТЫЛІЗАЦЫЯ** - дэкаратыўнае абагульненне адлюстроўваемых фігур шляхам спрашчэння рысунка, формы, колеру, аб'ёмных суадносін. С. асабліва неабходна ў арнаменце, дзе прыродная форма творча перапрацоўваецца ва ўзор. У працэсе С. тыя або іншыя формы змяняюцца ў залежнасці ад матэрыялу і асаблівасцей прадмета, які будзе ім аздоблены. Стылізаваныя матывы расліннага, жывёльнага свету або жыццёвых сцэн са старажытнасці і да нашых дзён шырока выкарыстоўваюцца ў дэк.-прыкл. мастацтве.

**СТИЛЬ / СТЫЛЬ** - 1) агульнасць ідэйна-маст. асаблівасцей твораў розных відаў мастацтва пэўнай эпохі; 2) нац. асаблівасць мастацтва; 3) асобныя спецыфічныя мастацкія прыкметы твораў культуры; 4) творчасць аднаго або групы мастакоў, чыя творчасць адрозніваецца яркімі індывідуальнымі рысамі.

**СТУДИЯ / СТУДЫЯ** - (у выяўл. мастацтве) 1) спецыяльная школа прасцейшага тыпу, разлічаная на шырокае кола навучэнцаў без адрыву ад асн. заняткаў.

У Беларусі С. выяўл. і дэкар.-прыкладнога мастацтва ствараюць пры Палацах і Дамах культуры буйных прадпрыемстваў, прафсаюзаў, Палацах і Дамах піянераў і школьнікаў, школах, жыллёва-экспл. службах і інш. Лепшым прысвойваюць званне "народная". 2) Тое, што майстэрня мастацкая.

**СУПЕРОБЛОЖКА / СУПЕРВОКЛАДКА** - дадатковая, найчасцей здымная, вокладка кнігі (брашуры) у выглядзе ліста з клапанамі. Вырабляюць звычайна з тоўстай паперы, пакрытай лакам або дубліраванай з празрыстай сінтэтычнай плёнкай, часам з палімерных плёнак. Засцерагае пераплёт ад забруджвання і пашкоджванняў, нясе дадатковую інфармацыю пра кнігу (уключае тэкст, выявы і інш.), выконвае эстэт. функцыі.

**СУПРЕМАТИЗМ / СУПРЭМАТЫЗМ** - разнавіднасць абстрактнага маст., уведзеная ў 1913 г. рус. мастаком К. Малевічам:

спалучэнне афарбаваных прасцейшых геам. фігур (квадрат, круг, трохвугольнік).

**"СУХАЯ ИГЛА" / "СУХАЯ ІГОЛКА"** - тэхніка паглыбленай гравюры на метале, заснаваная на прадрапванні штрыхоў іголкай. Гравюрам, выкананым у тэхніцы "С.І.", характэрны асаблівая аксаміцістасць штрыхоў (што некалькі набліжае іх да малюнка), якія узнікаюць за кошт пакінутых іголкай завусеніц.) "С.і." часта дапаўняе тэхніку афорта, але ў параўнанні з ім дае менш адбіткаў. Вядома з 15 ст. Як самастойная тэхніка пашырылася з 19 ст.

**"СУХАЯ КИСТЬ" / "СУХІ ПЭНДЗАЛЬ"** - у жывапісе і графіцы, дапаможны тэх. прыём, работа жорсткім пэндзлем, слаба насычаным фарбай.

Як самастойная тэхніка выкарыстоўваецца пераважна пры выкананні партрэтаў для афармлення вуліц і дэманстрацый у час свят (звычайна алейнай фарбай па светлым незагрунтаваным палатне).

**СФУМАТО / СФУМАТА** - пэўны маст. прыём, характэрны мяккасцю выканання, няўлоўнасцю прадметных абрысаў, звязаны з жывапісам эпохі Адраджэння, пачынаючы з творчасці Леанарда да Вінчы.

**СЮЖЕТ / СЮЖЭТ** - любы аб'ект жывой натуры або прадметнага свету, у тым ліку і адзінкавы прадмет, узяты для адлюстравання. У сюжэтнай карціне - канкрэтная падзея, сітуацыя або з'ява, адлюстраваная ў творы. У выяўл. мастацтве сюжэтнымі ў першую чаргу з'яўляюцца творы бытавога, батальнага і гістарычнага жанраў.

**СЮРРЕАЛИЗМ / СЮРРЭАЛІЗМ** - (з франц. звышрэалізм) - літаратурна-мастацкая плынь у мадэрнізме, якая грунтуецца на ірацыяналістычным светапоглядзе, адмове ад рацыянальна-лагічнага спасціжэння рэальнасці, на яе дэфармацыі ў гратэскавых вобразах.

Сюррэалісты арыентаваліся на выяўленне падсвядомасці, паталаг. адхіленняў псіхікі, кашмарных сноў,назойлівых прывідаў, выпадковых і фантастыч. асацыяцый, спалучэнне трагічнага з агідным, нізкім і смешным. У выяўл. мастацтве для С. характэрна арыентацыя на калаж, імітацыя першабытнай творчасці, наўмыснае злучэнне метафарычнасці з элементамі натуралізму, спалучэнне рэальных, але лагічна несумяшчальных з'яў і аб'ектаў прыроды і грамадскага жыцця. У сучасным мастацтве С. перастаў існаваць як самастойная плынь, аднак значна паўплываў на інш. мадэрнісцкія плыні (абстракцыянізм, поп-арт, "новы рэалізм", мастацтва абсурду).

# Т

**ТАМПОН / ТАМПОН** - кавалачак ваты або марлі для выдалення вільгаці.

**ТВОРЧЕСКИЙ ПРОЦЕСС / ТВОРЧЫ ПРАЦЭС** - працэс





стварэння маст. твора, пачынаючы ад зараджэння вобразнай задумы да яе ўвасаблення, працэс ператварэння назіранняў рэчаіснасці ў маст. вобраз. У працы кожнага мастака ёсць шмат індывідуальнага. Аднак ёсць і некаторыя агульныя заканамернасці. Звычайна праца пачынаецца з кампазіцыйных пошукаў выяўленчага вырашэння і падбору матэрыялу. Пасля гэтага падрыхтоўчага перыяду мастак завяршае працу над творам. Іншы раз на заключным этапе ўносяцца значныя змяненні і папраўкі ў пошуках больш удалага ўвасаблення творчай задумы.

**ТЕАТРАЛЬНО-ДЕКОРАТИВНОЕ ИСКУССТВО / ТЭАТРАЛЬНА-ДЭКАРАТЫЎНАЕ МАСТАЦТВА** - сцэнаграфія, мастацтва ствараць зрокавы вобраз спектакля з дапамогай дэкарацый, касцюма, грыму, асвятлення, пастановачнай тэхнікі, рэквізіту, бутафорыі; адзін з арганічных кампанентаў спектакля, што садзейнічае раскрыццю зместу тэатральнага паказу сродкамі выяўл. мастацтва, узмацняе яго эмацыянальнае і ідэйна-мастацкае ўздзеянне.

**ТЕМА / ТЭМА** - кола з'яў, выбраных мастаком для адлюстравання і раскрыцця ідэі яго твора.

**ТЕМПЕРА / ТЭМПЕРА** - жывапіс фарбамі, у якіх сувязным рэчывам з'яўляюцца натуральныя (яйцо, сокі раслін) або штучныя (водны раствор клею з алеем або алейным лакам і інш.) эмульсіі. Станковы тэмперны жывапіс выконваюць на палатне, дрэве, кардоне і інш. матэрыялах, пакрытых спец. грунтамі, манументальны - на вапнавым тынку. Складанасць работы Т. - у хуткім высыханні фарбаў. Колер і тон у творах, напісаных Т., у параўнанні з алейным жывапісам, больш устойлівыя да знешніх уздзеянняў і даўжэй захоўваюць свежасць. Пры рабоце Т. шырока выкарыстоўваюць лесіроўкі. Не пакрытыя лакам карціны, выкананыя Т., маюць мяккую матавую аксаміцістую фактуру, што стварае ўражанне раўнамернай напоўненасці твораў святлом.

**ТЕНЬ / ЦЕНЬ** - элемент святлаценю, найбольш слаба асветленыя ўчасткі ў натуры і ў адлюстраванні. Адрозніваюць цені асабістыя і адбітыя (падаючыя). Асабістымі называюць цені, якія належаць самому прадмету. Размяшчэнне гэтых Ц. на яго паверхні абумоўлена формай дадзенага прадмета і напрамкам крыніцы святла. Падаючыя Ц. - гэта цені, адкідваемыя целам на акружаючыя прадметы.

**ТЕОРИЯ ИСКУССТВА / ТЭОРЫЯ МАСТАЦТВА** - 1) у шырокім сэнсе - сістэма палажэнняў пра заканамернасці маст. творчасці, станаўленне і ўспрыманне вобраза мастацкага ў розных родах, відах і жанрах мастацтва. 2) У вузкім і найбольш ужывальным сэнсе Т.м. - частка мастацтвазнаўства, якая вывучае мастацтва, яго прыроду і адносіны да рэчаіснасці, месца і

ролю ў гісторыі грамадскай свядомасці, узаемасувязі з соцыумам ў кантэксце агульнай і мастацкай культуры грамадства, спецыфіку і суадносіны асобных родаў маст. дзейнасці і відаў мастацтва інш. формамі духоўнага жыцця грамадства. У адрозненне ад маст. крытыкі і гісторыі мастацтваў Т.М. займаецца агульнымі поглядамі на мастацтва, аналізуе яго класавыя высновы і ідэйную скіраванасць, аб'ектыўную логіку развіцця і грамадскія функцыі, праблемы ідэйнага зместу і маст. формы (гл. Змест і форма), метаду мастацкага, спецыфіку фарміравання маст. вобраза ў розных відах і жанрах мастацтва; заканамернасці ўплыву маст. твораў на асобу, сац. групу. Т.м. абагульняе факты і з'явы мастацтва, выпрацоўвае канцэптуальную аснову разумення этапаў яго развіцця, тэарэт. праблем станаўлення кірункаў, метадаў, стыляў і інш. Асаблівасці тэарэтычных даследаванняў у галіне мастацтва вызначаюцца асаблівасцямі родаў, відаў, жанраў.

**ТЕПЛЫЕ И ХОЛОДНЫЕ ЦВЕТА / ЦЕПЛЫЯ І ХАЛОДНЫЯ КОЛЕРЫ** - цёплыя колеры - гэта тыя колеры, якія ўмоўна асацыіруюць з колерам агню, сонца: чырвоныя, чырвона-аранжавыя, жоўта-зялёныя. Халодныя колеры, якія асацыіруюць з колерам вады, лёду і інш. халодных аб'ектаў: зялёна-блакітныя, блакітныя, блакітна-сінія, сіня-фіялетавыя. У каляровым абліччы рэальнай натуры заўсёды прысутнічаюць і цёплыя і халодныя адценні, таму "цеплахалоднасць" з'яўляецца неад'емнай якасцю жывапіснага адлюстравання эцюда з натуры і карціны.

**ТЕРРАКОТА / ТЭРАКОТА** - неглазураваныя керамічныя вырабы з порыстым чарапком розных колераў (ад жоўтага да чырвона-карычневага і чорнага); посуд, кафля, абліцовачныя пліткі, арх. дэталі (карнізы, дахоўка, фасонныя дапаможныя дэталі і інш.). Вядома з эпохі неаліту. Для атрымання якаснага чарапка ў фармовачную гліняную масу дадаюць лёгкаплаўкія і інш. рэчывы, што забяспечвае патрэбную пластычнасць, вогнетрываласць, порыстасць і колер вырабу. Часам паверхню тэракотавых вырабаў паліруюць, глянцуюць, пакрываюць воскам ці фарбуюць без абпалу.

**ТЕХНИКА / ТЭХНІКА** - у маст.: сукупнасць спецыяльных навыкаў і прыёмаў, пры дапамозе якіх выконваецца маст. твор. Уменне карыстацца маст. магчымасцямі матэрыялу і інструментамі, якія выкарыстоўваюцца для перадачы рэчыўнасці прадметаў, аб'ёмнай формы. Тэхнічныя сродкі маст. не застаюцца нейтральнымі ў адносінах да зместу, а падпарадкаваны ідэйна-мастацкай задуме твора.

**ТЕХНИКА ЖИВОПИСИ / ТЭХНІКА ЖЫВАПІСУ** - гл. алейны жывапіс, акварэль, гуаш, тэмпера, клеявы жывапіс, пастэль, фрэска, мазаіка.





**ТЕХНИЧЕСКАЯ ЭСТЕТИКА / ТЭХНІЧНАЯ ЭСТЭТЫКА** - галіна маст. творчасці, звязаная з канструяваннем і выпускам прамысловай прадукцыі. У гэтым творчым працэсе мастакі-канструктары (дызайнеры) суаўтарствуюць з інжынерамі-канструктарамі і тэхнолагамі.

**ТИМПАН / ТЫМПАН** - у арх., 1) поле трохвугольнага ці фігурнага франтона; 2) ніша паўцыркульнай трохвугольнай ці спічастай формы над акном або дзвярыма. У Т. нярэдка размяшчаюць скульптуру, жывапісныя выявы, рэльефы.

**ТИПИЧНОЕ / ТЫПОВАЕ** - нармальнае і ўзорнае, характэрнае і верагоднае, сутнаснае і заканамернае для канкрэтнай сістэмы аб'ектыўнага свету.

Эстэт. катэгорыя Т. выяўляе адзінства агульнага і індывідуальнага ў канкрэтна-пачуццёвым вобразе (тыповым характары). Працэс раскрыцця і маст. ўзнаўлення тыповых характараў і тыповых абставін называецца тыпізацыяй.

**ТИСНЕНИЕ / ЦІСНЕННЕ** - тэхніка атрымання рэльефных выяў на паверхні скуры, аксаміту, ліставога металу, бяросты і інш. матэрыялу выцісканнем штампамі; вырабы ў гэтай тэхніцы.

**ТИПИЗАЦИЯ / ТЫПІЗАЦЫЯ** - асноўны метад маст. пазнання, адлюстраванне тыповага. Ажыццяўляецца шляхам вобразнага выяўлення ў прыродзе, грамадскім і духоўным жыцці эстэтычна значымых заканамерных прыкмет, што з'яўляюцца агульнымі для ўсіх ці большасці індывідуальных з'яў і прадметаў данага віду або роду. У аснове Т. - наяўнасць тыповага ў самой рэчаіснасці і здольнасць маст. мыслення да абагульнення мастацкага. Уласціва творчасці мастацкай на ўсіх этапах яе развіцця, пачынаючы з першабытнай творчасці. Спецыфіка Т. у розных відах мастацтва мае свае адметнасці, абумоўленыя аб'ектыўнай прыродай кожнага з відаў. У залежнасці ад метаду маст. і светапогляду стваральнікаў твораў дамінуючым спосабам тыпізацыі можа быць ідэалізацыя (ранняя антычнасць, класіцызм, часткова высокі рэнесанс), кананізацыя (гл. Канон, характэрна для сярэдневяковага і хрысціянскага царкоўнага мастацтва, а ў свецкіх формах - для псеўдакласіцысцкіх плыняў). генералізацыя - адбор і абагульненне найбольш характэрных з'яў і адзнак рэчаіснасці, што ўласціва ўсім формам рэалістычнага мастацтва.

**ТИТУЛЬНЫЙ ЛИСТ/ ТЫТУЛЬНЫ ЛІСТ** - тытул. элемент кнігі, брашуры, часопіса і да т.п., дзе змяшчаюць загаловак выдання і прозвішча аўтара, назву выдавецтва, месца і год выдання і інш. Паводле структуры бывае адзінарны (аднапалосны), разгорнуты ці расхілены (двухпалосны). Адзінарны Т.л. займае першую старонку кніжнага блока з адваротам. На развароце з адзінарным Т. л. можа змяшчацца франтыспіс, перад разваротам у

некат. выданнях часта выкарыстоўваюць разгорнуты Т.л., які складаецца з контртытула (на левай старонцы) і тытула да дадзенага тома (кнігі). Разгорнуты Т.л. займае дзве сумежныя старонкі кніжнага развароту, пры гэтым тэкст і інш. графічныя элементы займаюць поўнасцю разварот, кампазіцыйна ствараючы адзінае цэлае. Паводле выканання Т.л. могуць быць наборныя, маляваныя і камбінаваныя, паводле паліграфіі - адна - і шматколерныя.

**ТКАНИ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ / ТКАНІНЫ МАСТАЦКІЯ** - ткацкія вырабы (ручныя ці машынныя), адметныя мастацкасцю арнаментацыі, прыгажосцю колеравых спалучэнняў, высокім майстэрствам выканання, аздобай, інш. тэхнікамі; від дэкарат.-прыкладнога мастацтва. Прызначаюцца для аздаблення інтэр`ераў грамадскіх і жылых будынкаў, мэблі, вырабу адзення. Т.м. (абрусы, дываны, паясы, посцілкі, ручнікі, габелены, шпалеры) вырабляюць з ільняных, ваўняных, бавоўняных, шаўковых, сінтэтычных нітак і інш. матэрыялаў, арнаментуюць шляхам перапляцення нітак у працэсе ткацтва, карункапляцення або нанясення малюнка на гатовую тканіну вышыўкай, набіванкай, размалёўкай (гл. Размалёўка па палатне), аплікацыяй, батыкам і інш. Характар маст. арнаментацыі абумоўлены прызначэннем вырабаў, матэрыялам і тэхнічнымі спосабамі выканання; ён адлюстроўвае этнічную, сацыяльна-бытавую спецыфіку нац. культуры, стылявыя асаблівасці і інш.

**ТОКАРНЫЕ ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ ИЗДЕЛИЯ / ТАКАРНЫЯ МАСТАЦКІЯ ВЫРАБЫ** - рэчы утылітарна-дэкаратыўнага характару, з дрэва, металу, косці і інш., створаныя выточваннем на станку. Працэс заснаваны на прынцыпе апрацоўкі разцом прадмета, прыведзенага ў вярчальны рух. Вырабы вызначаюцца акруглымі сіметрычнымі формамі, дэкарыраваны ў працэсе тачэння рознымі паяскамі, канаўкамі, валікамі; дадаткова іх часам аздабляюць паліраваннем, таніроўкай, гравіраваннем, размалёўкай і інш.

**ТОН / ТОН** - ступень светлаты, уласцівая колеру прадмета ў натуры і ў творы мастацтва. Т. залежыць ад інтэнсіўнасці колеру і яго светлаты. Т. у рысунку з'яўляецца адным з вядучых мастацкіх сродкаў, бо рысунак звычайна аднакаляровы (манахромны). Пры дапамозе адносін розных тыпаў перадаецца аб'ёмнасць формы, становішча ў прасторы і асвятлення прадметаў. Тонам таксама перадаецца тое адрозненне прадметаў па светлаце, якое абумоўлена ў натуры, разнастайнасцю іх колеру і матэрыяла. Пад паняццем Т. у жывапісе падразумяваецца святласіла колеру, а таксама насычанасць колеру. У жывапісе каляровыя і светлаценявыя адносіны непарыўна звязаны. Пры гэтым не трэба змешваць паняцце Т. з паняццем адценне і каляровы





тон, якія вызначаюць інш. якасці колеру.

**ТОНАЛЬНОСТЬ / ТАНАЛЬНАСЦЬ** - пэўныя суадносіны колераў або тонаў, характэрныя для дадзенага твора, адна з яго маст. асаблівасцей. У графіцы танальнасць вылучаецца ступенню кантраста цёмных і светлых таноў. У жывапісе паняцце таноў мае тое ж значэнне, што і каляровая гама, бо вызначае асаблівасці каляровага строю твора разам з каляровымі нюансамі.

**ТОНИРОВКА / ТАНІРОЎКА** - дэкар. апрацоўка скульптуры (гал. чынам з танных матэрыялаў - металу, гіпсу і інш.) з дапамогай розных хімічных рэчываў з мэтай імітацыі інш. матэрыялу (бронзы, мармуру, дрэва і інш.). Садзейнічае больш выразнаму выяўленню пластычных форм. Т. называецца таксама прыглушэнне фарбамі белых і інш плям пры рэстаўрацыі твораў жывапісу і графікі.

**ТОНИРОВАНИЕ / ТАНІРАВАННЕ** - змяненне ў афарбоўцы.

**ТОНОВОЕ ИЗОБРАЖЕНИЕ / ТОНАВАЕ АДЛЮСТРАВАННЕ** - адлюстраванне з рознымі танавымі пераходамі ад святла да цені, гэта значыць з участкамі якія маюць розную сілу тона. Тыпічным прыкладам тонавага адлюстравання з'яўляецца алейны або акварэльны рысунак алоўкам, выкананы прыёмам тушоўкі.

**ТОНОВЫЕ ОТНОШЕНИЯ / ТОНАВЫЯ АДНОСІНЫ** - градацыя святлаценю на аб'ёмнай форме і перадача прапарцыянальных да натуры танальных адносін паміж афарбоўкай прадметаў забяспечвае праўдзівую аб`ёмную мадэліроўку формы, матэрыяльнасць, прасторавую глыбіню і стан асветленасці адлюстроўваемых прадметаў.

**ТОРС / ТОРС** - тулава чалавека.

**ТОСКАНСКИЙ ОРДЕР / ТАСКАНСКІ ОРДЭР** - адзін з арх. ордэраў. З'яўляецца разнавіднасцю дарычнага ордэра і адрозніваецца ад яго адсутнасцю канелюраў на калоне і трыгліфаў на фрызе. Нясучыя часткі - гладкі ствол калоны з капітэллю і базай. Капітэль складаецца з шыйкі, якая злучае капітэль з ствалом калоны, эхіна (паўвала) і верхняй квадратнай у плане пліты (абака). Антаблемент складаецца з архітрава, гладкага фрыза і карніза.

**ТРАФАРЕТ / ТРАФАРЭТ** - прасцейшая тэхніка размнажэння нескладаных рысункаў і арнаментаў. На лісце паперы, тонкага кардону і інш. матэрыялаў прарэзваюцца належныя ўзнаўленню рысунак, арнамент, лічбы або літары, скрозь прарэзі рысунак набіваецца тампонам або жорсткім пэндзлем.

**ТРИПТИХ / ТРЫПЦІХ** - у маст. 1) трохстворкавы складзень; 2) тры творы маст. (карціны, малюнкі, рэльефы і інш.), аб`яднаныя адзінай задумай і выкананыя ў адным стылі.

**ТУШЬ / ТУШ** - чорная фарба (вадкая ці ў выглядзе цвёрдых плітак і слупкоў - т.зв. сухая Т.), якая з часам не траціць чорнага колеру (пры моцным разбаўленні вадой дае шэры тон); тэхніка малюнка, выкананага чорнай Т. Выкарыстоўваюць для чарчэння, малявання (пяром і пэндзлем, з штрыхоўкай, заліўкай, адмыўкай і інш.) Т. выраблялі з сажы ад спальвання хвойнай драўніны, раслінных алеяў і смол; у 20 ст. для вырабу Т. выкарыстоўваюць газавую сажу і сажу ад спальвання нафтапрадуктаў. Сухую Т. перад выкарыстаннем расціраюць з вадой. Т. наз. таксама аналагічныя чорнай каляровыя фарбы, якія вырабляюць на аснове каменнавугальных фарбавальнікаў.

## У

**УГЛУБЛЕННАЯ ГРАВЮРА / ПАГЛЫБЛЕНАЯ ГРАВЮРА** - друкаваны адбітак на паперы (ці падобным матэрыяле) з пласціны-дошкі (пераважна металічнай), на якой фарба запаўняе заглыблены малюнак; від гравюры. У П.г. малюнак паглыбляюць механічнымі ці хімічнымі (пратраўліванне кіслатою) сродкамі, фарбу набіваюць тампонамі ў паглыбленні, граверную дошку, пакрытую вільготнай паперай, пракатваюць паміж валікамі друкарскага станка. Існуюць разнавіднасці П.г.: афорт, акватынта, мяккі лак, разцовая гравюра, "сухая іголка", меццa-тынта і інш.

**УГОЛЬ / ВУГАЛЬ** - матэрыял для рысавання ў выглядзе тонкіх палачак, прыгатаваных шляхам абпальвання дрэва. Рысунак, выкананы вугалем, валодае аксамітнасцю і передае танальную разнастайнасць чорнага колеру. Вугаль патрабуе замацавання, гэта значыць пакрыцця фіксатывам з пульверызатара.

**УЗОР / УЗОР** - рысунак, які ўяўляе сабой спалучэнне ліній, колераў, ценяў і да т.п.

## Ф

**ФАКТУРА / ФАКТУРА** - 1) характэрныя асаблівасці матэрыялу, паверхні прадметаў у натуры і іх адлюстраванне ў творах маст.; 2) асаблівасці апрацоўкі матэрыялу, у якім выкананы твор, а таксама характэрныя якасці гэтага матэрыялу. Фактура твора ў многім залежыць ад уласцівасцей выкарыстоўваемага мастаком матэрыялу, ад асаблівасцей натуры, якую ён адлюстроўвае, а таксама ад пастаўленай задачы і манеры выканання. Фактура з'яўляецца адным з маст. сродкаў, якія садзейнічаюць эмацыянальнаму ўздзеянню твора.

**ФАНТАЗИЯ ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / ФАНТАЗІЯ МАСТАЦКАЯ** - здольнасць свядомасці перапрацоўваць, пераўтвараць матэрыял успрыманняў, уражанняў, ствараць на іх аснове мысленныя сітуацыі, вобразы мастацкія. Тое, што ўяўленне мастацкае.





**ФАРФОР / ФАРФОР** - керамічныя вырабы (посуд, вазы, статуэткі, арх. дэталі, хім. посуд і інш.), якія атрымліваюць спяканнем фарфоравай масы (з пластычнай вогнетрывалай гліны, кааліну, палявога шпату, кварцу). Характарызуецца высокай мех. і дыэлектрычнай трываласцю, тэрмічнай і хім. устойлівасцю, воданепранікальнасцю; у тонкім слоі свеціцца. У залежнасці ад саставу масы адрозніваюць мяккі (без кааліну) і цвёрды Ф. Вырабы перад абпальваннем звычайна пакрываюць глазурай; неглазураваны Ф. наз. бісквітам.

**ФАС / ФАС** - від спераду. У адлюстраванні прадмета або чалавека гэты тэрмін паказвае, што мадэль размешчана франтальна, паралельна плоскасці карціны і не патрабуе перспектыўнага бачання.

**ФАЯНС / ФАЯНС** - керамічныя вырабы (абліцовачныя пліткі, арх. дэталі, посуд, дробная пластыка, вазы, сан.-тэхн. вырабы маюць шчыльны дробнапорысты чарапок (звычайна белы), пакрыты празрыстай ці непразрыстай (глухой) глазурай. Для вырабу Ф. выкарыстоўваюць тую ж сыравіну, што і для фарфору, мяняюцца толькі суадносіны кампанентаў і тэхналогія (розняцца рэжымы абпальвання), фаянсавым вырабам характ. большая (у параўнанні з фарфорам) мяккасць і абагульненасць, разнастайнасць спосабаў дэкарыравання, колеравай палітры, відаў глазуры. У дэкоры пераважае размалёўка керамічнымі фарбамі: падглазурная ручная солямі металаў, ангобам, каляровымі эмалямі і глазурай, а таксама механічная (аэраграфія, шаўкаграфія, штамп); падглазурная ручная спец. фарбавальнікамі, а таксама падглазурны друк, штамп, абводка золатам, шаўкаграфія і інш. Вырабы аздабляюць таксама ляпным рэльефам і скульпт. дэталямі ў спалучэнні з размалёўкай.

**ФИКСИРОВАНИЕ / ФІКСАЦЫЯ** - замацаванне каляровага слоя, алоўкавага, вугальнага, пастэльнага малюнка і г.д.

**ФИЛИГРАНЬ / ФІЛІГРАНЬ** - 1) від ювелірнай тэхнікі; ювелірны выраб з тонкага залатога, сярэбранага ці меднага дроту. Бывае ажурная і фонавая. Ажурная Ф. (плоская і аб'ёмная) складаецца са спаяных паміж сабой драцяных элементаў; фонавая Ф. бывае глухая (напайванне ўзору на ліставы метал) і прасечная (высячэнне ці выпільванне фону пасля прыпайвання ўзору). Часта спалучаецца з чаканкай, зярненнем, эмалямі; 2) накладныя металічныя аздобы пераплётаў кнігі.

**ФИНИФТЬ / ФІНІФЦЬ** - тое, што эмалі.

**ФЛЕЙЦ / ФЛЕЙЦ** - шырокі пэндзаль, які выкарыстоўваецца для таніравання паперы, лесіроўкі і г.д.

**ФЛОРИЗМ / ФЛАРЫЗМ** - (фларыстыка) - мастацтва камбінавання засушаных раслін для стварэння карцін.

**ФЛЯНДРОВКА / ФЛЯНДРОЎКА** - спосаб аздаблення драўляных і керамічных вырабаў, заснаваны на расчэсванні свежага фарбаванага слою ў выглядзе зігзагаў, хваль, палос.

**ФОН / ФОН** - у натуры і ў выяўл. мастацтве любое асяроддзе, якое знаходзіцца за аб'ектам, размешчаным бліжэй; задні план адлюстравання. У творах выяўленчага мастацтва Ф. можа быць нейтральным, пазбаўленым адлюстраванняў, або ўключаць адлюстраванні.

**ФОНТАН / ФАНТАН** - у арх., дэкаратыўнае збудаванне, якое служыць асновай ці абрамленнем для струменяў вады; твор малых форм.

**ФОРМА / ФОРМА** - 1) знешні выгляд, абрыс; 2) у выяўл. мастацтве аб`ёмна-пластычныя асаблівасці прадмета; 3) ва ўсіх відах маст.-мастацкія сродкі, якія служаць для стварэння вобраза, для раскрыцця зместу твора. У творчым працэсе знаходзяць форму, найбольш адпавядаючую задуме. У любым з відаў маст. форма ў значнай ступені вызначае мастацкую вартасць твора. У выяўл. мастацтве мастацкая Ф. - гэта кампазіцыйная пабудаванасць, адзінства сродкаў і прыёмаў, рэалізаваных у мастацкім матэрыяле і ўвасабляючых ідэйна-мастацкую задуму.

**ФОРМАТ / ФАРМАТ** - форма плоскасці, на якой выконваецца адлюстраванне (прамавугольная, авальная, круглая-рандо і г.д.). Яна абумоўлена яе агульнымі абрысамі і суадносінамі вышыні да шырыні. Выбар формы залежыць ад зместу і ад настрою, якія выражаны ў творы.

**ФОРМАЛИЗМ / ФАРМАЛІЗМ** - у маст. у шырокім сэнсе штучны адрыў формы ад зместу і наданне форме або асобным яе элементам самастойнага першаснага значэння на шкоду зместу, ідэі. Ф. - ідэалістычны накірунак у мастацтве, які абвяшчае незалежнасць маст. ад жыцця і які лічыць, што мэта і сэнс мастацтва заключаюцца не ў адлюстраванні рэчаіснасці, а ў стварэнні "незалежнай" ад аб'ектыўнага свету формы. У выяўл. маст. Ф. праяўляецца ў дэфармацыі візуальных форм па-за ўсякай сувязі з мастацкім абагульненнем, якое можа ўзнікнуць толькі ў выніку вылучэння найбольш важных бакоў аб'ектыўнай рэчаіснасці.

**ФОРМОВКА / ФАРМОЎКА** - у скульпт., працэс вырабу форм для адліўкі копій са скульптурнага арыгінала ці гіпсавай мадэлі. Асн. віды - чарнавая і кавалкавая Ф. Чарнавая (Ф. "ў раскалотку") выкарыстоўваецца гал. чынам пры рабоце з мяккім скульпт. матэрыялам - глінай, воскам, пластылінам і інш. Кавалкавая - для зняцця форм з гіпсавай мадэлі або скульптуры, выкананай з цвёрдых матэрыялаў (напр., гіпсавых злепкаў з антычных мармуровых скульптур), а таксама пры адліўцы скульптуры з металу, керамічных матэрыялаў (фарфор, фаянс і інш.).





**ФРАГМЕНТ / ФРАГМЕНТ** - частка твора існуючага або рэшткі, якія захаваліся ад загінуўшага твора.

**ФРАНТИСПИС / ФРАНТЫСПІС** - старонка з партрэтам або з ілюстрацыяй, змешчаная перад тытульным лістом кнігі.

**ФРЕСКА / ФРЭСКА** - адзін з асноўных відаў манументальнага жывапісу. Сувязным рэчывам у фарбах тут служыць водны раствор вапны з вадой. У злучэнні з рэчывам тынкоўкі на сцяне (столі) яны ствараюць трывалы фарбавы слой. Тэхніка фрэскі вельмі складаная, бо не дапускае выпраўленняў у працэсе працы. Толькі пасля яны ўносяцца тэмперай. Пры працы над фрэскай мастак павінен улічваць і некаторыя высвятленні фарбаў пры высыханні. Ф. пішацца па частках, кожная з якіх выконваецца за адзін сеанс. Асобныя яе часткі выконваюцца на кардонах, у якіх рысунак, кампазіцыя і памеры поўнасцю адпавядаюць будучаму твору. Адрозніваюць наступныя віды фрэскі: 1) жывапіс па вільготнай тынкоўцы з падпраўкай тэмперай; 2) жывапіс па вільготнай тынкоўцы без папраівак; 3) жывапіс па сухой тынкоўцы; 4) казеінава-вапнавы жывапіс. Апошні з'яўляецца найбольш трывалым і больш за іншыя дазваляе рабіць разнастайнай манеру выканання. Каштоўная якасць гэтай тэхнікі заключаецца ў тым, што яна менш за іншыя адчувальная да змяненняў атмасферы.

**ФРИЗ / ФРЫЗ** - выяўл. або арнаментальная кампазіцыя ў выглядзе гарызантальнай паласы, размешчанай у верхняй частцы сцяны ўнутры або звонку памяшкання.

Па аналогіі з арх. дэкарацыяй тэрмін "фрыз" выкарыстоўваецца іншы раз і ў галіне прыкладнога мастацтва.

**ФРОНТОН / ФРАНТОН** - частка (звычайна ў выглядзе трохвугольніка) фасада будынка, порціка, каланады, абмежаваная схіламі даху і карнізам. Поле Ф. (тымпан) часта ўпрыгожваецца рэльефам, скульптурай, праёмамі і нішамі рознай формы і інш., у драўляным дойлідстве - разьбой архітэктурнай.

**ФУНКЦИОНАЛИЗМ / ФУНКЦЫЯНАЛІЗМ** - кірунак у арх. 20 ст. заснаваны на сцвярджэнні першаснасці функцыі (утылітарна-практычнага прызначэння) твора архітэктуры адносна яго формы. Яму характэрны выкарыстанне дасягненняў навукі і тэхнікі, эканамічнасць, прастата форм, адмаўленне ад дэкору.

**ФУТУРИЗМ / ФУТУРЫЗМ** - авангардысцкі літаратурна-маст. рух пач. 20 ст., неаднародны ў ідэйна-палітычных адносінах, які характарызуецца адмаўленнем класічных традыцый культуры, аналогіяй тэхнікі і урбанізму, прэтэнзіямі на поўнае абнаўленне маст. мыслення ў будучай культуры.

# Х

**ХОХЛОМСКАЯ РОСПИСЬ / ХАХЛАМСКАЯ РАЗМАЛЁЎКА** - від рускага народнага маст. дэкаратыўнай размалёўкі драўляных вырабаў (посуд, мэбля, дугі, каромыслы). Узнікла ў 17 ст. у сяле Хахлама (Горкаўскай вобл.) Для хахламской размалёўкі характэрны раслінны ўзор, элементы якога ўтрымліваюць рэальныя рысы роднай прыроды ("траўка", "яблык"), і пэўная фарбавая гама, пабудаваная на спалучэннях кінавары з чорным колерам і золатам.

**ХРОМАТИЧЕСКИЕ СРЕДСТВА / ХРАМАТЫЧНЫЯ СРОДКІ** - колеры, якія валодаюць асаблівай якасцю (колеравым тонам), які адрознівае іх адзін ад аднаго. Х. с. - колеры сонечнага спектра, якія ўтвараюцца пры праламленні сонечнага промня. Умоўна колеры спектра размяшчаюцца па "каляроваму кругу". Гэта шкала колераў утрымлівае вялікую колькасць пераходаў ад халодных да цёплых колераў. Ахраматычныя колеры - белы, шэры, чорны. Яны пазбаўлены каляровага тона і адрозніваюцца толькі па святласіле.

**ХРОМОЛИТОГРАФИЯ / ХРОМАЛІТАГРАФІЯ** - каляровы адбітак, атрыманы з некалькіх формаў літаграфскіх камянёў, колькасць якіх адпавядае колькасці фарбаў.

**ХУДОЖЕСТВЕННОЕ КОНСТРУИРОВАНИЕ / МАСТАЦКАЕ КАНСТРУЯВАННЕ** - (дызайн) - від мастацкай дзейнасці, праектаванне прамысловых вырабаў, якія валодаюць эстэтычнымі ўласцівасцямі.

**ХУДОЖЕСТВЕННОСТЬ / МАСТАЦКАСЦЬ** - 1) спецыфічная асаблівасць мастацтва, якая адрознівае яго ад іншых форм пазнання; 2) мера дасканаласці твора мастацтва. Мастацкасць мае на ўвазе глыбіню, арыгінальнасць задумы, дасканаласць формы яго выражэння і ўнутраную цэласнасць твора. Дакладны адбор тэматычных і кампазіцыйна-выяўленчых дэталяў забяспечвае эмацыянальнае ўздзеянне твора незалежна ад віда яго і жанра.

**ХУДОЖЕСТВЕНЫЙ ВКУС / МАСТАЦКІ ГУСТ** - здольнасць чалавека разумець і ацэньваць творы мастацтва (у тых выпадках, калі размова ідзе аб эстэтычнай ацэнцы прадметаў, з'яў прыроды і грамадскага жыцця, то кажуць "эстэтычны густ"). М.г. характарызуецца тым, што ён праяўляецца ў форме непасрэдна-эмацыянальнай ацэнкі (падабаецца або не падабаецца). Аднак гэта ацэнка дае яшчэ магчымасць меркаваць аб якасці М.г. Развіццё М.г. знаходзіцца ў цеснай сувязі з агульным культурным узроўнем чалавека. Асноўнымі і неабходнымі перадумовамі добрага маст. густу з'яўляюцца: высокаразвітае эстэтычнае пачуццё, уменне ўспрымаць гармонію формы і зместу, пачуццё меры, уменне бачыць у мастацкіх творах агульначалавечыя ідэалы.





**ХУДОЖЕСТВЕННОЕ ВОСПИТАНИЕ / МАСТАЦКАЕ ВЫХАВАННЕ** - фарміраванне сродкамі мастацтва эстэтычнага ўспрымання рэчаіснасці, развіццё маст. -творчых здольнасцей у розных галінах мастацтва і патрэб уносіць прыгожае ў жыццё. Уключае мастацкую адукацыю. Мае на мэце далучэнне чалавека да мастацтва, яго разумення, ацэнкі, асваення, а таксама стварэння маст. каштоўнасцей. М.в. ажыццяўляецца ў агульнаадукацыйных маст. школах, студыях і гуртках выяўленчага мастацтва, спец. мастацкіх навучальных установах; яго развіццю спрыяе дзейнасць шматлікіх устаноў культуры (музеі, тэатры, творчыя саюзы, пед. установы і інш.)

**ХУДОЖЕСТВЕННОЕ КОНСТРУИРОВАНИЕ / МАСТАЦКАЕ КАНСТРУЯВАННЕ** - від маст. дзейнасці, праектаванне прамысл. вырабаў, якія валодаюць маст. якасцямі. Мае на мэце ўдасканаленне створанага сродкамі прамысл. вытворчасці прадметнага асяроддзя чалавека, што дасягаецца шляхам прывядзення ў адзіную сістэму функцыянальных і кампазіцыйных сувязей прадметных комплексаў і асобных вырабаў, іх эстэтычных і эксплуатац. характарыстык. М.к. (часта атаясамліваюць з дызайнам) - неад'емная частка сучаснага працэсу стварэння прамысл. прадукцыі, садзейнічае найбольш поўнаму задавальненню патрэб спажыўца і павышэнню эфектыўнасці вытворчасці. М.к. апіраецца на тэорыю, якую распрацоўвае тэхнічная эстэтыка, а таксама на даныя эканомікі, сацыялогіі, эрганомікі, семіётыкі і інш. навук. М.к. характэрна мадэліраванне аб'екта на ўсіх яго этапах (у адпаведным маштабе або натуральным памеры), што дае магчымасць правяраць і адбіраць аптымальныя варыянты кампазіцыйных, колерарафічных, эрганамічных і інш. вырашэнняў, пры гэтым мадэль у канчатковым выніку становіцца эталонам доследнага ўзору вырабу. М.к. разглядае прадмет, што праектуецца, як элемент агульнага комплексу аб'ектаў, якія акружаюць чалавека ў канкрэтным прадметным асяроддзі, прызначаным для максімальнага задавальнення яго утылітарных і эстэт. запатрабаванняў, павышэння эфектыўнасці яго дзейнасці. М.к. ажыццяўляе мастак-канструктар.

**ХУДОЖЕСТВЕННАЯ КРИТИКА / МАСТАЦКАЯ КРЫТЫКА** - 1) у шырокім сэнсе - ацэнка, вытлумачэнне і аналіз твораў маст., з'яў сучаснага мастацтва, з'яў сучаснага мастацкага жыцця, кірункаў, відаў і жанраў суч. маст. творчасці; раздзел мастацтвазнаўства ў шырокім значэнні. Уключае літаратурную крытыку, кінакрытыку, музычную крытыку, тэатральную крытыку, крытычную дзейнасць у галіне пластычных маст. Асн. віды маст.-крытычн. твораў - артыкул або даклад, прысвечаны той ці іншай праблеме, крытычны агляд, які асвятляе тую ці інш.

праблему бягучага маст. жыцця, рэцэнзія, палемічная рэпліка, нарыс, нататка. Апіраючыся на эстэтыку, М.к. карыстаецца метадамі інш. грамадскіх навук. М.к. суадносіць з'явы маст. з жыццём, грамадскімі і эстэт. ідэямі свайго часу, пэўных класаў, разглядае сучасны маст. працэс як этап гісторыі мастацтваў і як праяўленне яе агульных законаў. М.к. грунтуецца на сістэме ацэнкі эстэтычнай і суджэння густу мастацкага, шырока карыстаецца метадам аналізу маст. твораў з мэтай выяўлення асаблівасцей зместу і формы, вызначэння характару іх адзінства, выяўлення аб'ектыўнай падставы для той ці іншай ацэнкі. Крытычны аналіз і ацэнка асобных з'яў маст. жыцця звязаны, як правіла, з абаронай пэўных сац. і эстэт. пазіцый, што надае М.к. публіцыст. характар, выяўляе яе класавую прыроду. Звяртаючыся як да творцы, так і да публікі, М.к. з'яўляецца своеасаблівым "праваднікам", які забяспечвае "адваротную сувязь" ва ўсёй сістэме маст. культуры грамадства: з аднаго боку, яна адзначае пазітыўныя (або негатыўныя) тэндэнцыі сучаснага маст. працэсу, садзейнічае ўдасканаленню творчасці мастакоў з інш.; з другога - выступае важным сродкам фарміравання ідэалу эстэтычнага, маст. густу, эстэтычнага выхавання, эстэтычнага ўспрымання рэцыпіентаў мастацтва; 2) у вузкім сэнсе М.к. - аналіз, вытлумачэнне і ацэнка твораў пластычных мастацтваў.

**ХУДОЖЕСТВЕННАЯ КУЛЬТУРА / МАСТАЦКАЯ КУЛЬТУРА** - здольнасць грамадства ствараць, адэкватна ўспрымаць і правільна ацэньваць мастацтва ўсіх форм, відаў і жанраў; сукупнасць створаных маст. каштоўнасцей, іх інтэрпрэтацый і ацэнак у літаратурна-мастац. крытыцы, эстэтыцы і грамадскай думцы. Поруч з рэлігіяй, маралью, навукай і філасофіяй адносіцца да сферы духоўнай культуры.

**ХУДОЖЕСТВЕННАЯ ПРОМЫШЛЕННОСТЬ / МАСТАЦКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ** - вытворчасць індустрыяльнымі метадамі вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога маст. (серыйных і ўнікальных). М.п. - адна з важных галін мастацкай культуры, галоўная мэта якой - укараненне мастацва ў штодзённы побыт. Адметныя падкрэсленай выразнасцю пластычных, арнаментальна-каларыстычных, фактурных вырашэнняў вырабы М.п. выкарыстоўваюцца ў афармленні жылых і грамадскіх інтэр'ераў (мэбля, асвятляльная апаратура, дываны, дэкар. тканіны, маст. вырабы з металу, шкла, керамікі, фаянсу, дрэва і інш.), у побыце (адзенне, хатняе начынне, посуд, дробная пластыка, цацкі, ювелірныя ўпрыгожванні і інш.) Ад народных маст. промыслаў прадпрыемствы М.п. адрознівае выкананне праектаў вырабаў прафесійнымі мастакамі, інтэнсіўнае выкарыстанне машын, аднак поруч з механізаваным вырабам прадукцыі захоўваецца значная





доля ручной працы на аснове выкарыстання прыёмаў і тэхнік традыц. нар. рамёстваў (напр., у вытв-ці маст. тканін, шкла, фарфору, керамікі і інш.)

**ХУДОЖЕСТВЕННОЕ ОБРАЗОВАНИЕ / МАСТАЦКАЯ АДУКАЦЫЯ** - прафесійная падрыхтоўка жывапісцаў, скульптараў, графікаў, спецыялістаў дэкаратыўна-прыкл. маст., мастацкага канструявання, мастацтвазнаўцаў.

**ХУДОЖЕСТВЕННЫЕ СРЕДСТВА / МАСТАЦКІЯ СРОДКІ** - усе выяўленчыя элементы і мастацкія прыёмы, якія выкарыстоўвае мастак для выяўлення зместу твора. Да іх адносяцца: кампазіцыя, перспектыва, прапорцыі, святлацень, колер, штрых, фактура і г.д.

# Ц

**ЦВЕТ/ КОЛЕР** - адзін з асноўных мастацкіх сродкаў у жывапісе. Адлюстраванне прадметнага свету, разнастайных уласцівасцей натуры ў жывапісе перадаюцца пры дапамозе адносін і каляровых адценняў. Да асноўных якасцей колеру адносяцца: каляровы тон - асаблівасць колеру адрозніваецца ад іншых колераў спектра (чырвоны, сіні, жоўты і інш.); святласіла (светлыя і больш цёмныя колеры); насычанасць (інтэнсіўнасць колеру). Насычанасць колеру ў фарбах можа змяняцца ў выніку разбаўлення яе ў акварэлі - вадой, у тэмперным, гуашавым і алейным жывапісе - бялiламі. Колер у жывапісе знаходзіцца ва ўзаемадзеянні з іншымі колерамі, у аснове якога ляжаць адносіны цёплых і халодных колераў і іх адценняў. Уяўленне аб халодным колеры ў натуры і жывапісе звязваецца з уражаннем ад лёду, снегу, а аб цёплым колеры - з агнём, сонечным святлом і г.д. Вялікае значэнне ў жывапісе маюць і адносіны дадатковых колераў і адценняў. Дадатковыя колеры, якія знаходзяцца побач, узмацняюць адзін другога. Гэтыя ж колеры з'яўляюцца і кантраснымі. У творах жывапісу колер стварае цэласную сістэму (каларыт), а каляровая кампазіцыя - каларыстычнае вырашэнне. К. узмацняе эмацыянальнасць адлюстравання, абумоўлівае разам з рысункам выяўленчыя, выразныя і дэкаратыўныя магчымасці жывапісу. К. з'яўляецца істотнай часткай не толькі выяўленчага, але і дэкаратыўна-прыкладнога маст., яго мастацкай структуры, уздзейнічаючы на ўспрыманне гледача, бо здольны выклікаць разнастайныя асацыяцыі.

**ЦВЕТОВЫЕ ОТНОШЕНИЯ / КОЛЕРАВЫЯ АДНОСІНЫ** - адрозненне колераў па колераваму тону (адценню), светлаце і насычанасці. У натуры колер заўсёды ўспрымаецца ў адносінах з акружаючымі яго колерамі, з якімі ён знаходзіцца ў строгім узаемадзеянні і залежнасці. Таму колеравыя суадносіны эцюда павінны перадавацца прапарцыянальна колеравым адносінам натуры. У гэтым заклю-

чаецца закон каларыстычнага пераладжэння фарбаў уяўнай натуры на дыяпазон фарбаў палітры; абумоўліваецца ён псіхафізіялогіяй нашага зрокавага ўспрымання і мыслення.

**ЦЕЛОСТНОСТЬ / ЦЭЛАСНАСЦЬ** - неабходная важнейшая якасць твора маст., якая садзейнічае яго большай мастацкай і вобразнай выразнасці. Ц. адлюстравання заключаецца ў адпаведнасці розных яго частак адна другой, у падпарадкаванні асобнага агульнаму, другараднага галоўнаму, прыватнага-цэламу, а таксама ў адзінстве прыёмаў выканання.

**ЦЕЛОСТНОСТЬ ИЗОБРАЖЕНИЯ / ЦЭЛАСНАСЦЬ АДЛЮСТРАВАННЯ** - вынік работы з натуры метадам суадносін (параўнанняў) пры цэльным бачанні натуры, у выніку чаго мастак пазбаўляецца ад такіх недахопаў рысунка або эцюда, як дробнасць і стракатасць.

**ЦЕЛЬНОСТЬ ВОСПРИЯТИЯ / ЦЭЛЬНАСЦЬ УСПРЫМАННЯ** - уменне мастака бачыць прадметы натурнай пастаноўкі адначасова, усе адразу. Толькі ў выніку цэльнага зрокавага ўспрымання можна правільна вызначыць прапорцыі прадметаў, тонавыя і колеравыя суадносіны і дасягнуць цэласнасці адлюстравання натурнай пастаноўкі. У цэльнасці ўспрымання заключаецца прафесійнае ўменне бачыць і "пастаноўка вока" мастака.

**ЦИКЛ / ЦЫКЛ** - некалькі маст. твораў, аб'яднаных блізкай тэматыкай, матывамі, жанравым падабенствам і інш. адзінкамі.

# Ч

**ЧЕКАНКА ХУДОЖЕСТВЕННАЯ / ЧАКАНКА МАСТАЦКАЯ** - тэхніка маст. апрацоўкі металу (звычайна ліставога) чаканамі рознага профілю; від манум.-дэкар. і дэкар.-прыкл. мастацтва. Ударамі чаканаў на правым ці адваротным баку метал. ліста, пакладзенага на сталістую масу, гуму, падушачку з пяском, ствараюць пукатую выяву. Механічным спосабам або хім. рэчывамі паверхні чаканеных вырабаў надаюць розныя адценні, часта ўпрыгожваюць эмалямі. Тэхнікай Ч. ствараюць дэкар. пано, ювелірныя ўпрыгожванні, посуд, абклады кніг, апрацоўваюць паверхню літай скульптуры і інш.

**ЧЕРНЕНИЕ / ЧАРНЕННЕ** - тэхніка аздаблення металічных вырабаў, пераважна сярэбраных; вырабы ў гэтай тэхніцы.

# Ш

**ШАБЛОН / ШАБЛОН** - узор (з кардону), па якому размячаюць і выразаюць шмат аднолькавых фігур.

**ШАМОТ / ШАМОТ** - вогнетрывалая гліна або каалін, абпаленыя да страты пластычнасці. Дробна памолаты Ш. дабаўляюць у вогнетрывалую гліну для рэгулявання пластычнасці ўсадкі пры сушцы і абпале, які робіцца пры тэмпературы 1200-1500 С. З 1920-х гадоў Ш. стаў матэрыялам для маст. керамікі. Вырабы з шамотнай масы дэкарыруюцца солямі металаў, глазурамі. Ш. выкарыстоўваюць у садова-паркавай пластыцы, манум. -дэкаратыўным мастацтве, у аздабленні фасадаў будынкаў, пры стварэнні рэчаў выставачнага характару.

**ШАРЖ / ШАРЖ** - у выяўленчым мастацтве сатырычная ці дабрадушна-гумарыстычная выява (звычайна партрэт), у якой пры захаванні знешняга падабенства, зменены і вылучаны найб. характэрныя рысы мадэлі; разнавіднасць карыкатуры. Лёгкасць і нязмушанасць кампазіцыі, парадыйнае выкарыстанне маст. прыёмаў, у т.л. гіпербалы і гратэска, даюць магчымасць гумарыстычна ці сатырычна паказаць пэўную асобу, падзеі міжнароднага жыцця, бытавыя з'явы.

**ШАТЁР / ШАЦЁР** - (арх), пакрыццё будынка (званіцы, храма, вежы і інш.) або яго часткі 4-граннай ці шматграннай пірамідай. Выконваліся з цэглы (нахіленымі радамі ці напускам гарызантальных радоў цаглін) і дрэва (мелі вянковую ці каркасную канструкцыю).

**ШКОЛА / ШКОЛА** - у арх., характарызуе нац. архітэктуру краіны, рэгіёна, калі яе своеасаблівасць выяўлена ў пэўных стылявых і храналагічных межах (напр., руская архітэктурная Ш., Кіеўская Ш. дойлідства); таксама творы архітэктуры, выкананыя вучнямі і паслядоўнікамі знакамітага майстра. У архітэктурных навучальных установах пад кіраўніцтвам вядомага архітэктара часам ствараюцца групы ці майстэрні, члены якіх аб'яднаны поглядамі і ідэямі. Выпрацаваныя гэтымі групамі (майстэрнямі) найб. устойлівыя архітэктурныя мастацкія прынцыпы і манеры вызначаюць архітэктурную школу навучальнай установы, адыгрываюць значную ролю ў развіцці сусветнай арх.

У выяўл. і дэкар.-прыкладным мастацтве: а) мастацкі кірунак, плынь, прадстаўленыя групай вучняў і паслядоўнікаў якога-небудзь мастака або групай мастакоў, блізкіх па творчых прынцыпах і маст. манеры; б) жывапіс, графіка, скульптура, дэкар.-прыкл. маст. рэгіёна (горад, вобласць і інш.), якія вылучаюцца своеасаблівасцю ў пэўных стыліст. і храналагічных межах; в) нац. мастацтва.

**ШМУЦТИТУЛ / ШМУЦТЫТУЛ** - папяровы аркуш у пачатку кнігі (перад тытулам) або перад яе часткамі ці раздзеламі. У старадруках - дадатковы тытул, які знаходзіўся перад тытульным лістом і засцерагаў яго ад забруджвання (адсюль назва).

На Ш. звычайна змяшчаюць кароткі загаловак кнігі або назву часткі (раздзела), эпіграф, прысвячэнне, зрэдку выдавецкі знак (перад часткамі), ілюстрацыю ці дэкаратыўную застаўку

(перад раздзеламі). У залежнасці ад тыпу выдання паводле выканання можа быць наборны, маляваны, камбінаваны, дэкаратыўны і сюжэтна-ілюстрацыйны.

**ШПАТЕЛЬ / ШПАТЭЛЬ** - інструмент у выглядзе нажа, які выкарыстоўваецца для грунтоўкі, зняцця, перамешвання фарбы на палатне, палітры.

**ШПИЛЬ / ШПІЛЬ** - у арх., вертыкальнае востраканцовае завяршэнне будынкаў у выглядзе моцна выцягнутых конусам ці піраміды. Часта ўвенчваецца флагам, сімвалічнай фігурай і інш.

**ШРИФТ / ШРЫФТ** - графічная форма знакаў алфавітнай сістэмы пісьма.

**ШТИХЕЛЬ /ШТЫХЕЛЬ** - інструмент, які прымяняецца ў разцовай гравюры.

**ШТРИХ / ШТРЫХ** - адзін з выяўленчых сродкаў у рысунку. Кожны штрых уяўляе сабой лінію, праведзеную адным рухам рукі. Прыёмы работы Ш. разнастайныя. Выкарыстоўваюцца штрыхі рознай сілы, даўжыні і частаты, пакладзеныя ў разнастайных напрамках. Пры гэтым у залежнасці ад характару работы Ш. могуць выглядаць, як асобныя лініі, або зліваюцца ў суцэльную пляму.

## Э

**ЭКЛЕКТИЗМ / ЭКЛЕКТЫЗМ** - у арх. і маст., спалучэнне разнастайных маст. элементаў. Звычайна ўзнікае ў перыяд заняпаду буйных маст. кірункаў.

Э. выяўляецца ў неадпаведнасці матэр.-тэхн. асновы арх. збудавання (функцыянальнага прызначэння, канструкцыі, буд. матэрыялаў) яго аб`ёмна-прасторавай кампазіцыі. Напр., пры запазычанні элементаў архітэктуры мінулых эпох сучасныя жылыя, грамадскія і вытворчыя будынкі набываюць выгляд антычных храмаў, палацаў эпохі Адраджэння і інш.

**ЭКСЛИБРИС / ЭКСЛІБРЫС** - кніжны знак, ярлык, які наклейваецца на ўнутраны бок вокладкі або пераплёта (форзац) кнігі і паказвае яе ўладальніка. Маст. Э. выконваюць пераважна ў тэхніках лінагравюры, афорта, цынкаграфіі, літаграфіі і ксілаграфіі. Вылучаюць некалькі тыпаў маст. Э.: гербавыя Э. (характэрныя гал. чынам для 16-18 ст.) узнаўляюць герб уладальніка; вензелевыя Э. адлюстроўваюць арнаментальна распрацаваныя ініцыялы; сюжэтныя Э. (найб. пашыраны ў 20 ст.) уключаюць арх. і пейзажныя матывы, эмблемы, якія ў вобразнай форме прадстаўляюць прафесію, густы, склад бібліятэкі ўладальніка, а таксама выявы пісьменнікаў, гістарычных асоб, мастакоў і інш.

**ЭКСПОЗИЦИЯ / ЭКСПАЗІЦЫЯ** - прынцып і парадак размяшчэння маст. твораў у пэўнай сістэме.

**ЭКСПОНАТ / ЭКСПАНАТ** - маст. твор, прадстаўлены на выстаўку.





**ЭКСПРЕССИОНИЗМ / ЭКСПРЭСІЯНІЗМ** - кірунак у еўрапейскім маст. і літаратуры 1-й палавіны 20 ст., прадстаўнікі якога імкнуліся раскрыць крызіс бурж. культуры і супярэчнасці жыцця капіталіст. грамадства. Яны арыентаваліся на самавыяўленне і праекцыю сваіх эстэт. ацэнак рэчаіснасці (пераважна ў катэгорыях трагічнага, агіднага, нізкага і камічнага) на сац. і прыроднае быццё.

**ЭМАЛЬ / ЭМАЛЬ** - матэрыял, які выкарыстоўваецца ў дэкар.-прыкл. маст., лёгкаплаўкі (большай часткай каляровы) састаў, якім пакрываюць зверху, гал. чынам, металічныя вырабы. Існуюць эмалі празрыстыя, паўпразрыстыя і глухія. Па спосабу вырабу адрозніваюць наступныя эмалі: 1) выемчатая, у якой рэчыва эмалі запаўняе заглыбленні на паверхні прадмета; 2) перагародчатая, дзе эмаль запаўняе прамежкі паміж перагародкамі; 3) малюнак эмалевымі фарбамі па паверхні, пакрытай слоем эмалі; 4) прасвечваючы, дзе слаі эмалі рознай таўшчыні наслайваюцца адзін на адзін, дзякуючы чаму дасягаецца разнастайнасць каляровых адценняў.

**ЭМАЛИ ВЫЕМЧАТЫЕ / ЭМАЛІ ВЫЕМЧАТЫЯ** - тэхніка дэкарыравання ювелірных вырабаў, пры якой каляровай непразрыстай ці празрыстай эмаллю запаўняюць паглыбленні, зробленыя ў тоўшчы металу разьбой, штампам ці пры адліўцы ў форму. Вылучаюцца інтэнсіўнасцю лакальных колераў. На тэрыторыі Беларусі вядомы з даўніх часоў. Выкарыстоўваліся для ўпрыгожвання падвесак, металічных паясоў, нацельных крыжоў.

**ЭМАЛИ ПЕРЕГОРОДЧАТЫЕ / ЭМАЛІ ПЕРАГАРОДЧАТЫЯ** - тэхніка дэкарыравання ювелірных вырабаў, пры якой рознакаляровымі непразрыстымі эмалямі запаўняюць ячэйкі, утвораныя металічнымі перагародкамі, прыпаянымі на металічную паверхню рабром па лініях малюнка. На Беларусі першы вядомы твор з выкарыстаннем Э.п. - Крыж Ефрасінні Полацкай (1161).

**ЭМБЛЕМА / ЭМБЛЕМА** - умоўнае, сімвалічнае адлюстраванне чаго-небудзь.

**ЭМОЦИЯ / ЭМОЦЫЯ** - душэўнае перажыванне, хваляванне, пачуцце.

**ЭМОЦИОНАЛЬНОЕ / ЭМАЦЫЯНАЛЬНАЕ** - у мастацтве, працэс і вынік удзелу эмоцый у акце стварэння і ўспрымання маст. твора. Разам з рацыянальным - істотна важная рыса вобраза мастацкага. Э. залежыць ад пачуццёва-сузіральнага вопыту мастака, ад ступені яго таленавітасці і дае яму пачуццёва-канкрэтны матэрыял для стварэння індывідуальнай формы вобраза, у той час як рацыянальнае актыўна ўздзейнічае пераважна на яго агульны ідэйны змест (гл. Змест і форма). Дзякуючы такому дыялектычна-супярэчліваму, рухомаму адзінству Э. і рацыянальнага маст. твор атрымлівае тую ці інш. эстэт. значымасць і

выклікае адпаведную рэакцыю ў чытача (гледача, слухача), які разам з рацыянальным разуменнем унутранага зместу твора эмацыянальна перажывае і яго знешнюю пачуццёвую форму (гл. Успрыманне маст.).

**ЭНКАУСТИКА / ЭНКАЎСТЫКА** - васковы жывапіс, выконваемы гарачым спосабам - расплаўленымі фарбамі.

**ЭКСПРЕССИЯ / ЭКСПРЭСІЯ** - павышаная выразнасць твора мастацтва. Экспрэсія дасягаецца ўсёй сукупнасцю маст. сродкаў і залежыць, таксама ад манеры выканання, характару працы мастака ў тым або іншым матэрыяле. У больш вузкім разуменні - праяўленне тэмпераменту мастака ў яго творчым почырку, у фактуры, рысунку, каляровым вырашэнні твора.

**ЭРКЕР / ЭРКЕР** - у арх., паўкруглы, трохвугольны ці шматгранны зашклёны выступ на плоскасці сцяны будынка.

**ЭСКИЗ / ЭСКІЗ** - падрыхтоўчы накід да твора, які адлюстроўвае пошукі найменшага ўвасаблення творчай задумы. Э. можа быць выканан у разнастайнай тэхніцы. У працэсе работы над карцінай, скульптурай і г.д. мастак звычайна стварае некалькі эскізаў. Найбольш удалыя, з яго пункту погляду, ён выкарыстоўвае ў далейшым, развіваючы і дапаўняючы раней знойдзенае вырашэнне.

**ЭСКИЗНОСТЬ / ЭСКІЗНАСЦЬ** - хуткасць выканання і значная абагульненасць дэталяў адлюстравання. Яна можа быць прадыктавана мастацкай задумай, але можа праяўляцца і як недахоп твора. У гэтым выпадку пад Э. разумеюць недастатковую выразнасць у перадачы зместу, у выяўленні ідэйна-мастацкай задумы карціны.

**ЭСТАМП / ЭСТАМП** - літаграфскі адбітак як станковы твор маст. графікі. Тэрмін "эстамп" узнік у 19 ст. У сучасным выкарыстанні распаўсюджваецца на гравюрны, які носіць станковы характар. Э. называюць звычайна падпісаны адбітак, выкананы мастаком у выніку ўласнаручнай работы над дошкай або каменем.

**ЭСТЕТИКА / ЭСТЭТЫКА** - навука аб цудоўным у жыцці і ў мастацтве. Э. вывучае асновы і заканамернасці маст. творчасці, адносіны мастацтва да грамадскага жыцця. У шырокім значэнні эстэтычнае - цудоўнае, прыгожае.

**ЭСТЕТИЧЕСКОЕ ВОСПИТАНИЕ / ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ** - выхаванне здольнасці ўспрымання і правільнага разумення цудоўнага ў рэчаіснасці і ў мастацтве, выхаванне эстэтычных пачуццяў, суджэнняў, густаў, а таксама здольнасці і патрэбнасці ўдзельнічаць ў стварэнні цудоўнага ў мастацтве і жыцці. Э.в. ў школе здзяйсняецца ў працэсе ўсіх відаў вучэбна-выхаваўнай працы вучняў і асабліва на ўроках маст. літаратуры, выяўл. мастацтва, спеваў.





Праблема развіцця ў дзяцей здольнасці ў галіне мастацтва і літаратуры - гэта, па сутнасці, пытанне стварэння ўмоў для раскрыцця маст. таленту, развіцця ў чалавеку мастака. Для гэтага эстэт. выхаванне павінна здзяйсняцца ў цэлым адзінстве з эстэт. адукацыяй, гэта значыць, з асваеннем сістэматызаванага аб'ёма ведаў, заканамернасцей развіцця мастацтва, галоўнейшых стыляў і метадаў, а таксама некаторых уменняў у галіне якога-небудзь віда мастацтва.

**ЭСТЕТИЧЕСКОЕ ЧУВСТВО / ЭСТЭТЫЧНАЕ ПАЧУЦЦЁ** - спецыфічнае духоўнае перажыванне, выклікаемае ўспрыманнем прыгожага і агіднага, узнёслага і нізкага, трагічнага і камічнага ў прыродзе, грамадскім быцці і мастацтве; першасны кампанент гістарычна абумоўленай эстэт. свядомасці, аснова эстэт. густаў, ідэалаў і ацэнак.

**ЭПИЗОД / ЭПІЗОД** - 1) выпадак, падзея, здарэнне; 2) больш або менш закончаная частка маст. твора, якая валодае адноснай самастойнасцю.

**ЭТЮД / ЭЦЮД** - работа, выкананая з натуры. Нярэдка Э. мае самастойнае значэнне. Іншы раз ён з'яўляецца практыкаваннем, у якім мастак удасканальвае свае прафесійныя навыкі і авалодвае больш глыбокім і праўдзівым адлюстраваннем натуры. Эцюды могуць быць дапаможным і падрыхтоўчым матэрыялам пры стварэнні твораў. З дапамогай Э. мастак канкрэтызуе задуму твора.

**ЭТЮДНИК / ЭЦЮДНІК** - спецыяльная скрыня для фарбаў, інструментаў, якая выкарыстоўваецца пры рабоце над эцюдам.

## Ю

**ЮВЕЛИРНОЕ ИСКУССТВО / ЮВЕЛІРНАЕ МАСТАЦТВА** - выраб мастацкіх рэчаў (упрыгожанняў, прадметаў побыту, культу, зброі і інш.) з каштоўных і інш. каляровых металаў у спалучэнні з каштоўнымі і паўкаштоўнымі камянямі, жэмчугам, шклом, бурштынам, косцю, перламутрам і інш.; від дэкаратыўна-прыкладнога маст. У Ю.м. выкарыстоўваюць розныя тэхнікі, ручныя і механічныя спосабы апрацоўкі: коўку мастацкую, ліццё мастацкае, чаканку, чарненне, філігрань, эмалі, гравіраванне, разьбу, зернь, інкрустацыю, траўленне.

## Я

**ЯЗЫК ИСКУССТВА / МОВА МАСТАЦТВА** -сукупнасць матэрыяльных сродкаў і прыёмаў, якія гістарычна склаліся ў пэўным відзе мастацтва для стварэння мастацкага вобраза.

КАРОТКІ РУСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

па выяўленчым мастацтве

**Вучэбнае выданне**

Падпісана ў друк 15.12.97. Заказ № ~~77~~
Тыраж 70 экз. Аб`ем 5,6 друк. арк.

Лабараторыя аператыўнай паліграфіі, МДУ імя А.А.Куляшова
212022, г. Магілеў, вул. Касманаўтаў, 1